ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

ШТОМЕСЯЧНАЯ ПОЛІТЫЧНАЯ, ПЭДОЛЕГА-ПЭДАГОГІЧНАЯ
І ПОЛІТЫКА-АСЬВЕТНАЯ ЧАСОПІСЬ

# КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН НАРОДНАГА КОМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ
І САЮЗУ ПРАЦАЎНІКОЎ АСЬВЕТЫ



№ 12 СЬНЕЖАНЬ 1930

ВЫДАНЬНЕ НАРОДНАГА КОМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ БССР
МЕНСК 1930

# НАЦДЭМЫ—АГЕНТЫ ІНТЭРВЭНЦЫІ

Л. Бэндэ

## Беларуская нацдэмаўская контр-рэволюцыя ўчора і сёньня

I

Абшарніцка-капіталістычная контр-рэволюцыя ў апранасе «прадстаўнікоў народу»!

Які цынізм!

Які зьдзек і гіронія над беларускімі рабочымі і сялянамі! Абшарнікі і капіталістыя, кулакі і гандляры, учарашнія і сёньняшнія лёкаі, падхалімы доляра, ідэолёгі ўсяго бруду, якія рабочыя і сяляне выкідаюць у «сьмецьцевую скрынку гісторыі», у вопратцы «прадстаўнікоў беларускай нацыі»!

Так! Яны прадстаўлялі беларускую «нацыю» на чорных біржах, там, дзе ідзе гандаль скурамі, крывёю і целам, мазялямі і потам беларускіх працоўных мас!

«Мы будзем бараніць інтарэсы працоўнага народу», пісалі махляры ў сваім контррэволюцыйным «Звоне» [1]) пасьля таго, як войска Пілсудзкага, заліваючы Беларусь крывёю працоўнага народу, заняло Менск. Вядома, што і ад каго яны зьбіраліся бараніць і на справе баранілі: яны баранілі «ў інтарэсах працоўных» («Звон») і нават «у інтарэсах пролетарыяту на Беларусі» («Звон») інтарэсы абшарнікаў, кулакоў, капіталістаў, гандляроў ад пролетарскай рэволюцыі.

Паглядзімо, як-жа яны «баранілі» інтарэсы рабочае клясы і сялянства?

Рабочыя і сяляне Беларусі яшчэ памятаюць крывавы паход «земляка» пана Пілсудзкага, яшчэ вельмі сьвежыя раны на целе рабочых і сялян Беларусі ад шомпалаў, ад бізуноў белапольскіх драгунаў; яшчэ не забылі маткі сваіх сыноў, а дзеці бацькоў і братоў, закатаваных і забітых крывавым рыцарам. Памятаюць яшчэ рабочыя і сяляне пагромную «цывілізацыю» і культуртрэгераў з бізуном. Усё гэта было вельмі нядаўна. Не забыта яно і сёньня.

У крыві рабочых і сялян мылі свае паганыя рукі ня толькі бела-польскія каты; паганыя свае рукі абмывалі ў гарачай крыві рабочых і сялян і такія «прадстаўнікі» народу, як Лёсікі, Ластоўскія, Некрашэвічы, Цьвікевічы і іншая нечысьць. Пра гэта могуць расказаць удовы і сіроты, браты і сёстры, бацькі і маткі закатаваных і забітых, пра гэта сьведчыць кожны кавалак беларускай зямлі, куды ўступала акрываўленая нага белапольскага ката і беларускай контррэволюцыі. Пра гэта могуць расказаць дзесяткі і сотні тысяч барацьбітоў за Савецкую Беларусь.

Мы толькі абудзім у памяці рабочых і сялян тую праграму, пад сьцягам якой вяла свой крывавы паход супроць рабочых і сялян беларуская контррэволюцыя разам з сваімі гаспадарамі, ня-

---

[1]) „Звон"—газэта беларускіх котррэволюцыянэраў, выходзіла ў 1919 г. у Менску, у часе белапольскай окупацыі.

мецкімі і бела-польскімі окупантамі, францускімі і ангельскімі імпэрыялістымі.

Як-жа «незалежныя міністры» зьбіраліся «будаваць» і «будавалі» «незалежную» Беларусь? Дамо слова самім патрыётам крывавых пагромаў.

«У інтарэсах Антанты і Польшчы... беларускія патрыёты, і Польшча, і Антанта будуць рабіць усё магчымае, каб плебісцыт даў непадзельнасьць Беларусі і незалежнасьць яе ад Расіі».

Чуеце! Антанта і Польшча і слугі іх, «беларускія патрыёты», будуць рабіць усё магчымае, каб Беларусь была «незалежнай ад Расіі». Ня думайце, што яны гавораць пра самастойнасьць Беларусі, пра незалежнасьць яе і ад Антанты, і ад Польшчы. Не, яны гавораць другое: «экономічна, як край, ня маючы ні свайго жалеза, ні вугалю, ні фабрык і заводаў, Беларусь будзе ад некага залежыць» («Звон»).

Куды-ж яны орыентаваліся, у залежнасьць да каго прагнулі яны паставіць Беларусь? «Наша палітычная самабытнасьць многа залежыць ад падтрыманьня з боку Польшчы», — пісалі яны 29-га верасьня 1919 г., а таму «*прасіць* Польшчу, якая мае сілу, каб яна дапамагла ёй (Беларусі) адбудаваць сваё гаспадарства». («Звон»).

Гэта, так сказаць, кавалачак твару «незалежных прадстаўнікоў народу». Ужо гэты кавалачак сьведчыць пра сапраўдную незалежнасьць агентаў сусьветнага імпэрыялізму ад працоўнага народу.

Чым-жа тлумачаць нашы «патрыёты» сваё асаблівае замілаваньне да Польшчы і асабліва да «рыцара з Захаду» пана Пілсудзкага? Ужо тое, што пададзена вышэй, сьведчыць, чым яны абгрунтоўвалі сваю замілаванасьць да Польшчы, а падмацоўвалі свае абгрунтаваньні спасыланьнямі на «гісторычнае мінулае» і на тое, што «Беларусь мае права спадзявацца, што Польшча не забыла свайго даўнейшага саюзьніка і кампаньёна». («Звон»).

Поўзаючы на каленях перад польскім імпэрыялізмам, беларуская контррэволюцыя ўскладала асабліва надзеі ў сваёй контррэволюцыйнай справе на свайго даўнейшага кампаньёна і «земляка» Язэпа (так і пісалі яны: *Язэп*, а ня *Юзэф* для таго, мабыць, каб апрануць Пілсудзкага ў беларускую вопратку і бліжэй параўнацца з маршалкам) Пілсудзкага. Вось што пісалі яны ў сваім контррэволюцыйным «Звоне»:

«На беларускай зямлі вырас Пілсудзкі. Там, недзе, на далёкім яе захадзе, у ціхім дварку, абкружаным беларускімі вёскамі, ён радзіўся, а ў нашай Вільні, гэтай калысцы беларускай самабытнасьці, вырас».

Такім лёкайскім лірызмам брынчэлі яны ў сваім «Звоне», вітаючы прыход галоўнакамандуючага белапольскай окупацыйнай арміяй на зямлю Савецкай Беларусі.

Прамовамі, музыкай і поэзіяй ушаноўвалі яны «ўладарства божы дар» на яго «роднай зямельцы Беларусі» і заклікалі яго «пад беларускі сьцяг».

У чым-жа прычына такога лірызму? Пралетарская рэвалюцыя экспропрыіравала абшарнікаў і капіталістых, пазбавіла эксплёататараў магчымасьці існаваць за кошт крыві і поту рабочых і сялян. Для таго, каб зьвярнуць сваю ўласнасьць, свае прывілеі, сваё панаваньне над працоўнымі, беларуская буржуазія, абшарнікі і кулакі кідаліся ў абдымкі буржуазіі ўсіх нацый, просячы яе выратаваць іх ад бальшавікоў.

Зноў дамо слова званаром, якія самі ў 1919 годзе ў сваім «Звоне» пісалі, што яны былі-б «*рады кожнаму працягнуць*

*руку»*, «*былі-б рады, каб хоць і нэгры прышлі іх ратаваць*». Другі «пакрыўджаны» пролетарскай рэволюцыяй званар беларускай контррэволюцыі яшчэ больш адкрыта, бяз усякіх масак, вельмі ўжо жаласьліва, у тон першаму, скавыча: «*калі хочаш есьці, калі млосна стане ад голаду..., то працягнеш руку да кожнага, хоць і ня кожны дасьць есьць, ведама*». («Звон»).

Але-ж паны-міністры з «найвышэйшай рады» не задавальняліся тым, што «рыцар з Захаду» вызвалiў іх ад «бальшавіцкіх рабаваньняў». Яны марылі сабраць беларускую «зямельку» *пад штандар бел.-чырвона-белы (Ул. Жылка).* Яны на каленях прасілі Пілсудзкага, каб ён ня спыняў свайго крывавага паходу на Бярозе, а ішоў далей «*туды, за Смаленск*». Імем і беларускага народу і бога яны даводзілі, што нельга спыняць наступленьне бела-польскага войска на савецкія землі, што «*трэба рабіць да канца*», разумеючы пад канцом поўны разгром рэволюцыі.

«*Хіба-ж Менскам па Бярэзіну і канчаецца той цяжка пакрыўджаны край, што часіў калісьці слаўную назву Вялікага Княства Беларуска-Літоўскага і да народу каторага зьвяртаўся начальнік польскага панства, будучы родам з гэтага краю і добра ведаючы цяжкую долю беларускага народу?.. Чым-жа горшая тая зямля, і чым правінавацілся тая частка беларускага народу, што яна пакідаецца ў палоне?* («Звон»).

Тутака міністры плачуць.

А вось прадстаўнік «Беларускай Народнай рэспублікі» ў Варшаве пан *Дубейкоўскі* зварачваецца да тых-жа крывавых рыцараў: «Як афіцыйны прадстаўнік Беларускага ўраду, зазначаю, што беларускі народ... уважае гэты ваенны паход ня іначай, як паход дзеля эсвабаджэньня яго з Маскоўскай няволі... і дзеля гэтага ня можа і думаць аб затрыманьні паходу на Бярозе; што народ беларускі жадаў бы сувязі з Польшчай, прынамсі ў межах перад 1772 году» («Звон»).

Паслухаем яшчэ слова «старшыні *А. Прушынскага* (А. Гаруна), якога на старонках часопісі «Ўзвышша» філёзаф беларускай контр-рэволюцыі *Адам Бабарэка* атэстуе, як «правадыра працоўных беларусоў», як «пролетарска-рабочага пісьменьніка».

Вось што гаворыць Пілсудзкаму гэты «рабочы-пролетар» у сваім прывітальным слове:

«Вольна і спакойна жывем мы сягоньня і нават маем радасьць, што бачым вас, пане Начальніку... Але, гаворачы словамі вешчага Баяна нашага, плачуць яшчэ маткі ў Віцебску, стогнуць людзі ў Магілёве; маўчыць... хаўтурны голас аб'імшэлых званіцаў Смаленску».

Апэтыты гэтых памочнікаў інтэрвэнтаў, гэтых катаў працоўных мас ня былі задаволены крывёю працоўных окупаванай Беларусі, яны хацелі купацца ў крыві рабочых і сялян Віцебску, Магілеву, Смаленску. Ці патрэбен лепшы доказ інтэрвенцкай сутнасьці беларускіх нацыянал-дэмократаў?

II

Мы ўжо бачылі, куды накіроўвалі свае «пурпуровыя ветразі», свае мары і сваю дзейнасьць беларускія контр-рэволюцыянэры ў сваім вельмі нядаўнім мінулым. Яны агулам і ўраздроб прадавалі працоўныя масы Беларусі і кайзэру, і «рыцару з Захаду» Пілсудзкаму. Яны заключылі зьдзелкі з Дзянікіным і саюзьніцкім войскам. Мы ведалі таксама прычыну такога «турбаваньня за працоўных Беларусі». Абшарнікі, кулакі і капіталісты, пазбаўленыя сваёй уласнасьці,

сваіх прывілей і панаваньня, рады былі, каб іх ратавалі «хоць бы і нэгры». За ўсё гэта, вядома, выратаваныя ад «бальшавіцкіх рабаваньняў» эксплёататары і іх слугі згодны былі—і на практыцы гэтую сваю здольнасьць давялі—ператварыць Беларусь у колёнію сусьветнага імпэрыялізму і ў першую чаргу таго атраду яго, які «выратуе беларускі народ» ад рабочых і сялян.

Беларуская контр-рэволюцыя ставіла стаўку на кайзэра Вільгельма II, але воляю рабочых Нямеччыны і савецкай краіны гэтая стаўка аказалася бітай. Чорныя махляры пачалі поўзаць на каленях перад сваім компаньёнам і «земляком» Пілсудзкім. За яго крывавыя паходы, за пралітую рабочымі і сялянамі кроў яны хацелі як узнагароду свайму выратавальніку аддаць беларускія землі, запрыгоніць рабочых і сялян так, як яны запрыгонены ў Заходняй Беларусі і ва ўсёй Польшчы.

Але яны гэтым не задавальняліся. Іх мары, лятуценьні ляцелі праз «аб'імшэлыя званіцы Смаленску» далей, «туды за Смаленск»! Яны ўсялякімі спосабамі малілі Пілсудзкага, каб ён ня спыняў свайго паходу, а ішоў «туды за Смаленск»!, дапамагаючы яму ў яго паходзе. Канчатковая мэта беларускай контр-рэволюцыі не абмяжоўвалася тэрыторыяльнымі рамкамі Беларусі, яны марылі зьнішчыць «маскоўскіх наезьнікаў», носьбітаў «барбарскай, азіяцкай культуры»—бальшавікоў, якія «захварэлі псыхічна».

Плян беларускай контр-рэволюцыі нельга разглядаць адарвана ад плянаў імпэрыялістычнай інтэрвэнцыі. Яны толькі частка ўсеагульнага імпэрыялістычнага пляну разгрому рэволюцыі, «выкалачваньне бальшавіцкага духу». Гэта датычыцца і ўчарашняга і сёньняшняга дню. У мінулым беларускія нацдэмаўскія контррэволюцыянэры актыўна і аддана дапамагалі інтэрвэнтам, з такойжа адданасьцю і актыўнасьцю, праўда, у іншых формах, яны працавалі для падрыхтоўкі інтэрвэнцыі і ў сучасны момант. Вось што кажа закляты вораг рабочых і сялян беларусі *Я. Лёсік* у сваіх паказаньнях пра сучасную дзейнасьць і стаўку беларускай контр-рэволюцыі:

*«Нашы надзеі для зьвяржэньня савецкай улады мы ўскладалі на вайну з Польшчай, інтэрвэнцыю».*

Яны ўсё магчымае рабілі, каб наблізіць вайну з Польшчай, каб наблізіць інтэрвэнцыю, каб падрыхтаваць, стварыць умовы, якія-б дапамаглі інтэрвэнтам «зьвергнуць савецкую ўладу».

Усю гэтую агідную сваю работу яны прыкрывалі імем «беларускіх працоўных мас», хаця самі ніколі ня лічылі гэтыя працоўныя масы за людзей, якія-б вартыя былі ўвагі «найвышэйшых прадстаўнікоў». На працоўныя масы яны глядзелі, «як на сырую этнографічную масу, якая павінна пайсьці за сваёй інтэлігенцыяй»,—гаворыць той самы Лёсік у сваіх апошніх паказаньнях. Гэты погляд на масы не зьяўляецца поглядам беларускай контр-рэволюцыі на сучасным этапе. Такі погляд на «сырую масу» пранізвае ўсю гісторыю беларускага нацыянал-дэмократызму. Варта напомніць хоць-бы на ня так даўно мінулае...

*«З народам нашым, пры асаблівай хэці, можна рабіць, што хочаш. Ён цёмны і нацыянальна несьвядомы»*—пісалі тыя-ж *Лёсікі ў сваім «Звоне».*

Аднак, ня гледзячы на такую характарыстыку працоўных мас, ня гледзячы на асаблівае хаценьне «правадыроў народу з інтэлігенцыі» пераатварыць БССР у колёнію польскага імпэрыялізму, заліць зноў абшары Беларусі крывёю рабочых і сялян, гэтая «цёмная, сырая, этнографічная, нацыянальна-не-

сьвядомая маса» не магла служыць апорай для рэалізцыі плянаў беларускай контр-рэволюцыі і інтэрвэнцыі. Больш таго, «правадыры» баяліся, як агню, працоўных мас, бо яны даведваліся на вопыце мінулага, што значыцца сіла працоўных мас. На гэтую сілу, якая сьвядома змагалася супроць контр-рэволюцыі, Лёсікі, Ластоўскія і іншая сволач не маглі разьлічваць, і яны не разьлічвалі. Яны разьлічвалі на кулака, на буржуазныя элемэнты, а галоўнае, на інтэрвэнцыю сусьветнага імпэрыялізму, у першую чаргу польскага.

І гэтая стаўка на буржуазныя элемэнты, на кулака, добра знаёма па свайму стажу. У часы ўзброенай барацьбы контр-рэволюцыі супроць рабочых і сялян беларуская контр-рэволюцыя абапіралася на кулацтва, на буржуазію. Таксама было і зараз, калі яны рыхтавалі на шыю рабочым і сялянам новае ярмо.

Якія-ж мэты ставіла перад сабой беларуская контр-рэволюцыя пасьля таго, калі-б яна дасягнула пры дапамозе інтэрвэнтаў зьвяржэньня савецкай улады?

*«Нашай канчатковай мэтай было зьвяржэньне савецкай улады і ўстанаўленьне беларускай народнай рэспублікі пад протэкторатам Польшчы»,*—гаворыць адзін з кіраўнікоў беларускай контр-рэволюцыі ў сваіх паказаньнях. Рабочыя і сяляне яшчэ не забылі беларускай народнай рэспублікі (Б. Н. Р.), якая гандлявала працоўнымі масамі.

Рэстаўратары зноў хацелі вярнуць капіталістычны і абшарніцкі прыгнёт і эксплёатацыю.

Што-ж да «незалежнасьці» гэтай «Беларускай народнай рэспублікі», дык яна меркавалася быць незалежнай ад Савецкага саюзу, ад рабочых і сялян саюзных рэспублік і цалкам і поўнасьцю залежнай ад Польшчы.

Беларуская контр-рэволюцыя на сучасным этапе ня была вымагальна ў адносінах Польшчы і капіталістычнага сьвету. Ёй патрэбна было адарваць БССР ад Савецкага саюзу і ператварыць Беларусь у калёнію польскага імпэрыялізму, пасадзіць на шыю працоўных мас капіталістага, абшарніка і кулака, каб яны выцягвалі пот і кроў з гэтых працоўных мас і каб на долю «правадыроў народу» сёе-тое перапала.

У сваім мінулым беларуская контр-рэволюцыя была надзвычайна скромнай у адносінах да сваіх гаспадароў. Яна патрабавала толькі як мага больш грошай. Калі-ж гаспадары кідалі ім абгрызкі, яны і за гэта лізалі падэшвы гаспадаром, поўзалі на жыватох перад імі.

Усякі забруджаны абгрызак, кінуты «ласкавым земляком» *Язэпам* Пілсудзкім, яны называлі ня інакш, як зьявай гісторычнага значэньня. Калі сьледам за белапольскай окупацыйнай арміяй вярталіся з бізунамі і карацельнымі атрадамі абшарнікі, калі капіталістыя ўстанаўлялі свае парадкі на фабрыках і заводах, у той час беларускія «міністры» «незалежнай» Беларусі пісалі:

«Нам жа досыць таго, што ўсе ўрадовыя абвесткі ў Менску друкуюцца ў польскай і беларускай мове і ніводнае няма ў мове расійскай. Гэта зьяўленьне гісторычнага значэньня, якое завітала да нас праз сотні год» (Я. Лёсік). «Незалежнікі» задавальняліся тым, што загады аб звароце абшарнікам зямлі, капіталістым фабрык і заводаў пісаліся побач з польскай мовай і беларускай мовай!..

Чаго ж «дамагаліся» радаўцы для рабочых і сялян, пра якіх яны сяды-тады ўспаміналі, калі трэба было схаваць свой контррэволюцыйны твар?

Паглядзім перш за ўсё, *чаго яны «дамагаліся» для рабочых.* Вядома, што не магло быць і гутаркі пра застаўленьне

фабрык і заводаў у руках рабочых. Фабрыкі і заводы бясспрэчна вярталіся былым сваім уласьнікам. Прадажныя натуры Лёсікаў, Некрашэвічаў, Ластоўскіх са скуры лезьлі і даводзілі, што рабочыя могуць толькі дэзорганізаваць прадпрыемствы з тае, бачыце, прычыны, што «адсутнічае інтэлектуальнае разьвіцьцё сярод рабочых», што рабочыя Беларусі «замыкаліся ў вузкім коле «свайго» заводу і не пайшлі далей сваіх скурных інтарэсаў, дзелячы касу «свайго» заводу». («Звон»).

Зразумела, што пасьля гэтага ня можа быць гутаркі пра застаўленьне фабрык у руках рабочых, а тым больш пра ўладу гэтых «грабіцеляў» кас «свайго» заводу.

«Літасныя выратавальнікі працоўных мас ад бальшавіцкіх зьдзекаў і рабаваньняў» для гэтых «злодзеяў»—рабочых абяцалі толькі ўмовы працы, роўныя з тымі, якімі карыстаюцца рабочыя «культурных старонак», г. зн. капіталістычныя ўмовы працы. Трэба аддаць ім справядлівасьць, што пра гэтую сваю мэту яны гаварылі адкрыта:

«Мы будзем дамагацца... рабочым у горадзе і вёсцы, адпаведныя варункі працы, роўныя з тымі, якімі карыстаюцца ўсе рабочыя культурных старонак» («Звон»).

Пры гэтым заўважце, чытач, што да ліку «культурных старонак» Савецкая краіна не залічвалася, яна нацыяналдэмократамі называлася «азіяцкай, дзікай» краінай.

Што-ж да сялянства, дык нацыяналдэмократы не пакідалі яго «пакрыўджаным». Яны ўсё магчымае рабілі, каб зьвярнуць зямлю, за якую беларускі селянін плаціў сваёю крывёю, назад былым уласьнікам-абшарнікам і кулаком. Працоўнае сялянства з прыходам окупацыі больш за ўсё непакоілася пытаньнем: «як з зямлёй»? «Прадстаўнікі народу» сьпяшаліся вытлумачыць сялянству гэтае пытаньне і зрабіць свае «найвышэйшыя парады». І яны давалі «парады» сялянству, як разьвязаць зямельнае пытаньне. Вось іх некалькі шматлікіх «парад»:

«Пераходзячы да зямельнага пытаньня на Беларусі, мы павінны зазначыць, што наш народ мысьліць сабе разьвязаньне гэтага пытаньня толькі ў форме пераходу зямлі ў яго ўласнасьць. Вядома, што ён рад быў-бы атрымаць гэтую зямлю дарэмна, бяз выкупу».

Чаму-ж «абаронцы інтарэсаў беларускага народу» не паставілі сабе мэтай дапамагчы «нашаму народу» атрымаць зямлю, калі-ж не ў прыватную ўласнасьць, дык хоць-бы ў працоўнае карыстаньне, дарэмна і бяз выкупу?

Яны, «абаронцы народу», такой мэты перад сабой ня ставілі і ня раілі селяніну такой мэтай захапляцца. Яны даводзілі селяніну, што яму нельга даць зямлю дарэмна з тае прычыны, што селянін «сваёй зямлі, і нават дарэмна атрыманай, ён напэўна нікому ня дасьць нават сваім сваяком» («Звон»). Таму выходзячы з гэтага «моральнага складу» селяніна, «правадыры народу» недвухсэнсова запытваліся:

«Ці можна даць дарэмна зямлю тым, якія, дастаўшы яе, напэўна дарэмна яе нікому не дадуць?» («Звон»). Ужо сама пастаноўка гэтага пытаньня дае адказ, што з «моральнага боку» нельга сялянам аддаваць зямлю.

Але-ж гэта ня ўсё. «Найвышэйшыя прадстаўнікі народу», будучы вернымі носьбітамі сваіх «славутых» традыцый, ня зьбіраліся служыць адным мужыком, а служылі «ўсяму беларускаму народу». Разважаючы пра разьвязаньне зямельнага пытаньня, «клапоцячыся, каб селянін не атрымаў дарэмна і бяз выкупу

зямлю, Лёсікі, Некрашэвічы, Ластоўскія, Скірмунты асабліва клапаціліся пра інтарэсы абшарніка і кулака. «Ня можна, пісалі яны, аддаючы дарэмна зямлю народу, пусьціць з торбаю зямляўласьнікаў, каторыя як ніяк раблі карысную працу, продуктуючы рэчы пажываньня для... пролетарыяту» («Звон»).

Такім чынам, бандыты, апрануўшыся ў вопратку прадстаўнікоў народу, абараня́лі цалкам і поўнасьцю інтарэсы абшарніка, кулака ня толькі ў сваёй крывавай практыцы, але нават і ў «тэорыі». Пры гэтым яны не сароміліся, ня гледзячы на «моральны бок», спэкуляваць імем пролетарыяту. Даводзілі, што ад перадачы зямлі сялянам дарэмна ў першую чаргу пацерпяць інтарэсы пролетарыяту.

«Перадаючы дарэмна, пішуць яны, зямлю сялянам, у каторых цяпер такая процьма грошай і каторыя вядуць натуральную гаспадарку... мы яшчэ больш панізім курс грошай, а з другога боку, адымем у селянін патрэбу нагогул прадаваць продукты для пролетарыяту гораду... Ня можна праводзіць рэформы на карысьць толькі аднаго стану, а ня цэлага грамадзянства» («Звон»)

Такім чынам, апрача інтарэсаў зямляўласьнікаў, якіх нельга «пусьціць з торбаю», супроць дарэмнага адабраньня зямлі ў карыстаньне сялянства выступаюць яшчэ «інтарэсы гарадзкога пролетарыяту», якога «кармілі» зямляўласьнікі.

«Інтарэсамі пролетарыяту» абшарнікі баранілі сябе ад рэволюцыйнага сялянства. Звыш орыгінальна! «Інтарэсамі пролетарыяту» абшарнікі даводзілі неабходнасьць зьвярнуць ім іх маёнткі, якія адабраны пролетарскай рэволюцыяй. Няхай не падумае чытач, што мы зьдзекуемся над «беднымі» ўжо і так «пакрыўджанымі» абшарнікамі і іх лёкаямі, беларускімі контр-рэволюцыянэрамі тыпу Лёсіка, Ластоўскага і К-о.

Дамо слова ім самім, і яны за сябе і за абшарніка пастаяць!

«У інтарэсах пролетарыяту на Беларусі ёсьць, каб нязьнішчаныя маёнткі далей вялі свае гаспадаркі, даўшы чалавечыя варункі жыцьця працуючым у іх рабочым» («Звон»).

Не абыходзілі, як ужо гаварылася раней, «нашы народныя дзеячы» і «селяніна», у якога «індывідуальнасьць... дапяла высокага стопня разьвіцьця» («Звон»). Зноў-такі, будучы вернымі сваім сталыпінскім традыцыям, яны раілі гэтаму «селяніну» з «высокай індывідуальнасьцю», па-просту кажучы—кулаку, «мець на ўвазе лепшыя формы землякарыстаньня». Лепшымі-ж вышэйшымі формамі яны лічылі хутары ці фэрмы. А выходзячы з гэтага, яны і раілі кулаку: «значыць, трэба заводзіць хутары ці фэрмы» («Звон»).

Калі-ж ад нядаўняга, не забытага яшчэ рабочымі і сялянамі Беларусі мінулага беларускай контр-рэволюцыі пяройдзем да яе сёньняшняга дню, паглядзім цяпер на яе твар, дык пераканаемся, што яна засталася тэй самай абшарніцкай, буржуазнай, кулацкай контррэволюцыяй.

Рыхтуючы зьвяржэньне савецкай улады, ствараючы спрыяючыя ўмовы для пасьпяховага ажыцьцяўленьня інтэрвэнцыі, тыя-ж Лёсікі, Некрашэвічы, Краскоўскія адпраўным пунктам свае праграмы пасьля зьвяржэньня савецкай улады вызначалі зварот усёй уласнасьці абшарнікам, капіталістым і кулаком, забесьпячэньне інтэнсыўнага росту капіталізму на аснове эксплёатацыі рабочае клясы, на аснове разбурэньня і барбарскай эксплёатацыі мільёных мас бяднейшага і сярэдняга сялянства. У гэтым

кожны пераканаецца, прачытаўшы вытрымку з паказаньняў *Краскоўскага:*

«Організацыя экономічных адносін на прынцыпе права прыватнай уласьнасьці на зямлю, прадпрыемствы, рухомую і нярухомую маемасьць (поўнага і неадлучанага)».

Калі да гэтага дадаць, што політыка насаджэньня кулацкіх гаспадарак, якую нацыянал-дэмократы праводзілі праз сваіх-жа нацыянал-дэмократаў у НКЗ: *Прышчэпава, Смоліча, Кісьлякова* ды інш, пры адданай дапамозе нацыянал-опортуністых, цалкам і поўнасьцю задавальняла Лёсікаў, дык ва ўсю велiч, ува ўсёй сваёй годнасьці праяўляецца контррэволюцыйны, абшарніцка-капіталістычны, кулацкі, рэстаўратарскі твар беларускай контррэволюцыі, з якой сарвала АДПУ вопратку «народных прадстаўнікоў».

III

Вышэй мы паказалі твар беларускай нацдэмаўскай контр-рэволюцыі ў такіх «дробных» пытаньнях, як пытаньне орыентацыі, пытаньне «незалежнасьці, політычнай самабытнасьці Беларусі», пытаньне ўласнасьці на сродкі вытворчасьці, на зямлю, пытаньне рабочае і аграрнае. Параўнаючы нацдэмаўскую програму, пад сьцягам якой беларуская контррэволюцыя ўзброена змагалася супроць пролетарскай рэволюцыі 11-12 г. назад, з сучаснаю програмаю, мы пераканаліся ў капіталістычна-кулацкім характары беларускай контррэволюцыі ня толькі ў яе мінулым, але і на сучасным этапе.

Адначасова перад намі ва ўсю велічыню ўсплыў інтэрвэнцыянісцкі, агрэсыўны характар беларускай контррэволюцыі, якая падбухторвала нашых капіталістычных суседзяў на вайсковы паход на «маскоўцаў».

Для таго, каб ахапіць усё нутро «народных прадстаўнікоў», нам трэба разгледзець яшчэ некаторыя бакі практыкі і «тэорыі» контррэволюцыйнага беларускага нацыянал-дэмократызму.

Мы спынім увагу чытача перш за ўсё на вонкавым баку, на той вопратцы, у якую апранался беларуская контр-рэволюцыя, калі яна падбухторвала, упрашвала пана Пілсудзкага, саюзнае войска і ўвесь капіталістычны Захад разграміць пролетарскую рэволюцыю. Беларуская буржуазія ўсіх рангаў і яе ідэолёгі не зьяўлялася і не зьяўляецца нічым орыгінальным, яна ішла тым-жа шляхам, дзейнічала тымі-ж самымі мэтодамі, што і буржуазія іншых нацый: расійская, украінская, грузінская і інш. «Буржуазія, піша Ленін, гатова была на ўсё, каб задушыць савецкую ўладу самымі агіднымі спосабамі—прадаць Расію каму хочаш, толькі каб зьнішчыць уладу саветаў». І беларуская буржуазія з яе ідэолёгамі раўнялася па свайму патрону.

Але вопратка... вопратка, якую нацягвала на сябе беларуская контр-рэволюцыя, калі-ні-калі адрозьнівала яе ад компаньёнаў, надавала ёй часамі некалькі другі колер—«бел-чырвона-белы».

Расійская буржуазія для барацьбы супроць пролетарскай рэволюцыі адкрыта злучылася з монархічнымі генэраламі і адміраламі: Калчаком, Юдзенічам, Дзянікіным, Урангелем і інш.

Яна гэтым ярка выявіла адзінасьць інтарэсаў царскіх генэралаў, абшарнікаў, буржуазіі і кулацтва. Беларуская контррэволюцыя ў зацішку вяла перамовы з Дзянікіным для організацыі адзінага фронту. Адкрыта продэмонстраваць адзінасьць фронту ўсёй контррэволюцыі было «нязручна», бо гэта значыла агаліць свой буржуазна-рэстаўратарскі твар, лішні раз пацьвердзіць

перад працоўнымі масамі асноўнае палажэньне марксызму, што інтарэсы буржуазіі ўсіх нацый у яе барацьбе супроць пролетарыяту аднолькавыя, што ўчарайшыя нацыянальныя спрэчкі адыходзяць на задні плян, а іх месца займае адзінства інтарэсаў буржуазіі ўсіх нацый, калі справа ідзе аб барацьбе супроць асноўнага ворага буржуазіі—пролетарыяту.

Беларуская буржуазія час-ад-часу маскавалася, імкнулася ахоўваць адзінства сваіх інтарэсаў з інтарэсамі буржуазіі другіх нацый.

Беларуская контр-рэволюцыя часта выступала пад маскай барацьбы «заходняй культуры з азіяцкай культурай маскоўшчыны». Гэтая маска ня толькі ў мінулым служыла для прыкрыцьця контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, гэтую маску апракінулі на свой контр-рэволюцыйны лыч беларускія нацыянал-дэмократы і ў пэрыод іх контррэволюцыйнай дзейнасьці супроць савецкай улады, некалькі перафарбаваўшы яе (маску).

Барацьбу сусьветнага імпэрыялізму супроць краіны пролетарскай дыктатуры беларускі нацыянал-дэмократызм імкнуўся паказаць, як «барацьбу культуры з барбарствам, сьвету з цемраю» («Звон»). Спасылаючыся на гісторыю, яны пішуць: «Культура Захаду два разы пракацілася на нашай зямлі на Ўсход (1-шы раз у 1612 г., 2-гі раз у 1812 годзе) і адкацілася два разы назад. Цяпер 3-ці раз культура Захаду пасоўваецца на Ўсход, але напатыкае вялікі адпор азіяцкай культуры». («Звон»). Носьбітамі «цемры, азіяцкай культуры» зьяўляецца «маскоўскі народ», вялікаросы.

Асаблівасьць гэтага вялікароскага народу, асаблівасьць, якая адрозьнівае маскоўцаў ад іншых народаў, і ў тым ліку і ад «самабытнага духоўнага жыцьця» беларускага народу, у тым, што вялікароскі народ, заражоны «імпэрыялістычным духам». «Маскоўскі народ, дзякуючы сваёй гісторыі, дзякуючы сваёй усходня-азіяцкай культуры і ўплыву векавога царызму на народную псыхолёгію ня можа мець у сваёй гушчы іншых поглядаў, апрача чыста імпэрыялістычных» («Звон»). Вялікароскі народ нацыянал-дэмократы прагнуць паказаць, як адзіны народ, проціпаставіўшы яму таксама адзіны народ Польшчы, Беларусі і нават усяго Захаду.

Гэты вялікароскі народ, апрача «чыста імпэрыялістычных» поглядаў, характарызуецца яшчэ і як народ «псыхолёгічна-неразьвітага духу» («Звон»), і псыхозна хворы. «Вялікаросы захварэлі псыхічна». Больш таго, вялікароскі народ «нашу веру паганіць... нашыя сьвятыя абразы пад ногі кідае...» («Звон»). Адным словам, гэта дзікі, азіяцкі, псыхолёгічна-неразьвіты, псыхічна-хворы народ», які імкнецца сваёю «барбарскаю, азіяцкаю культурай» парушыць «самабытнае духоўнае жыцьцё» беларускага народу.

Ня лепшай характарыстыкай узнагароджваюць контррэволюцыянэры нацдэмы і бальшавікоў. Бальшавікі—гэта-ж тыя барбары, але толькі «хітрыя людзі, нявольнікі натоўпу, сучасныя Пугачовы...» («Вольная Беларусь», 1918 год), гэта—«чорныя рыцары ў соцыялістычных вопратках дзеля блізіру», а на самай справе «мо', былыя крымінальныя злачынцы, ці вураднікі» («Вольная Беларусь»).

Сапраўдныя «чорных дарог махляры», чорныя рыцары ў вопратках «прадстаўнікоў нацыі», змагаючыяся супроць пролетарскай рэволюцыі, гэтай адзінай умовы для сапраўднага куль-

турнага росквіту народаў, ішлі далей: «Мы можам дзеля гэтага бальшавікоў параўнаць з тым грэкам, каторы дзеля таго, каб здабыць сабе вечнасьць, зьнішчыў адзін з 7½ (?) грэцкіх цудаў мастацтва» («Звон»). Мы можам не параўнаць, а проста сказаць вам, паны нацыянал-дэмократы: «вы тыя-ж злодзеі, якія крычаць: «трымайце злодзея...»

Нацыянал-дэмократы яшчэ за адно абвінавачвалі бальшавікоў, а іменна за тое, што яны, бальшавікі, народ «падзялілі на дзьве часткі, на «таварышоў» і «буржуяў»... і народ аддзяліў сябе каменнай сьцяной ад тых сьветлых людзей сваіх... інтэлігенцыі» («Вольная Беларусь»), канкрэтна гэта значыць ад Лёсікаў, Ластоўскіх і Ко.

Ці-ж не заслугоўваюць пасьля ўсяго гэтага бальшавікі, каб іх расьпяць на крыжы, каб «зьнішчыць іх з твару зямлі?» Ці-ж ня варта пасьля гэтага ўсяго падтрымліваць «культурны Захад» у яго барацьбе супроць дзікасьці?

Так беларускі контррэволюцыйны нацыянал-дэмократызм у сваім нядаўнім мінулым апраўдваў сваю контррэволюцыйную, сапраўды барбарскую, сапраўды чорную, сапраўды антыкультурную дзейнасьць

У імя «культуры» беларускія нацыянал-дэмократы заклікалі кайзэраў, Пуанкарэ, Дзянікіных, Пілсудзкіх «пад беларускі сьцяг»

Будучы бездапаможнымі самі зрабіць што-небудзь, будучы адарванымі ад народных мас, гэтыя гора-прадстаўнікі «народу» поўзалі на жыватох перад інтэрвэнтамі і лёкайскі сьлінява напаміналі сваім «моцным гаспадаром», што бальшавікі спадзяюцца на сусьветную рэволюцыю, што бальшавікі хочуць «зьнішчыць хрысьціянскую культуру ва ўсім сьвеце».

«Мы павінны зазначыць, што калі-б зрабілася яна (сусьветная рэволюцыя— Л. Б.), гэта значыць, калі-б уладу захапілі няўмеючыя кіраваць гаспадаркай рабочыя, дык палова сьвету, усё, самае асьвечанае, разумнае,—гарады вымерлі-б, як ад чумы, хрысьціянская культура згінула-б, чалавек вярнуўся-б да першабытнае культуры» («Звон»). Крыкамі аб пагібелі культуры контррэволюцыйныя нацыянал-дэмократы праглі схаваць свой контр-рэволюцыйны твар, адцягнуць увагу працоўных мас ад абшарніцкай, буржуазнай, кулацкай сваёй сутнасьці. Крыкамі аб «ратаваньні культуры» беларуская контррэволюцыя імкнулася схаваць сваю інтэрвэнцкую сутнасьць. Пад шумок аб пагібелі культуры нацыянал-дэмократы імкнуліся як мага хутчэй аддаць Беларусь Польшчы, ператварыць Беларусь у «культурную» колёнію польскага імпэрыялізму

На Польшчу, пасьля няўдачы з Вільгельмам II, у першую чаргу разьлічвалі беларускія контррэволюцыянэры ў сваёй барацьбе супроць савецкае ўлады ў мінулым, а таксама і цяпер. І гэтую сваю стаўку прыкрывалі, апрача ўсяго, «культурнай місіяй» Польшчы. Контррэволюцыйныя нацыянал-дэмократы ня толькі надавалі Польшчы ролю аддананага барацьбіта за «ыратаваньне заходняй хрысьціянскай культуры», але і ролю «па ўзьняцьцю беларускай культуры».

«Польшча, як прадстаўнік культуры Заходу, мае сваім асноўным жаданьнем прылучэньне Беларусі да заходняе культуры, падняцьце мясцовае культуры і адарваньне ад гнілога Ўсходу» («Звон»).

Працоўныя масы Беларусі добра яшчэ памятаюць крывавую «культурную місію» Польшчы. Яшчэ не забыта

«культурная» дзейнасьць «прадстаўнікоў заходняй культуры».

Не забылі працоўныя масы і тае хрысьціянскай культуры ў яе папскай мантыі, якая зараз, пры адданай дапамозе беларускіх нацыянал-дэмакратаў, рыхтуе крыжовы паход «заходняй культуры» на социялістычнае будаўніцтва. Таму працоўныя масы Беларусі ня могуць забыць, ня могуць не залічыць на рахунак контр-рэволюцыйных нацыянал-дэмакратаў усе тыя «культурныя дараваньні», якія яны атрымалі ад «прадстаўнікоў заходняй культуры» і «сьветных людзей» беларускай інтэлігенцыі тыпу Лёсікаў, Ластоўскіх, Некрашэвічаў і Ко

Характэрна да гэтага дадаць, што нават такія рэакцыйныя лёзунгі, як «адраджэньне Беларусі», «самабытнасьць беларускага народу і яго культуры, у час інтэрвэнцыі ў контр-рэволюцыйных нацдэмаў займалі другараднае месца, а першым, асноўным было «далучэньне Беларусі да Польшчы, а праз яе да культуры Захаду». Уласна беларуская справа, вырашэньне культурна-нацыянальнага пытаньня адкладалася напасьля, пры «дапамозе» Польшчы.

Лёзунгі «адраджэньня» беларускай культуры, «таго, што калісьці жыло і звалася беларускай культурай» («Узвышша», № 4, за 1929 г.), «самабытнасьці беларускага народу і яго культуры» пачалі шырока распаўсюджвацца ў час дыктатуры пролетарыяту, калі нельга было проста, адкрыта заклікаць на «далучэньне да прадстаўнікоў культуры Захаду»—Польшчы; калі нельга было адкрыта супроцьставіцца нашай ленінскай, клясавай нацыянальнай політыцы, калі нельга было проста супроцьставіць працоўныя масы Беларусі пролетарыяту Савецкага саюзу, калі нельга было адкрыта будаўніцтву соцыялізму, будаўніцтву культуры соцыялістычнай па зьместу і нацыянальнай па форме супроцьставіць «адраджэньне» капіталістычнай культуры.

Тэорыя адраджэньня таго, што «калісьці жыло і звалася беларускай культурай», тэорыя «самабытнасьці» ў пэрыод пролетарскай дыктатуры зьяўляецца тэй шыльдай, пад якою рыхтавалася інтэрвэнцыя сусьветнага імпэрыялізму і рэстаўрацыя капіталізму. Але гэтыя тэорыі мы разгледзім у другі раз.

**А. Альшэўскі**

# Беларуская агентура інтэрвэнтаў

Пролетарскай дыктатурай зломан яшчэ адзін фронт контррэволюцыі ў выглядзе буржуазна-інтэлігенцкай групкі беларускіх нацыянал-дэмакратаў, былых белых міністраў так званай «БНР». Разгорнутае соцыялістычнае наступленьне бязьлітасна зьнішчала і будзе зьнішчаць у сваім пераможным руху ўсякае супраціўленьне клясавага ворага, у якія-б вопраткі гэты вораг ні апрануўся, якімі-б фразамі ён ні маскаваў сваёй работы.

Пры дапамозе і актыўным удзеле шырокіх працоўных мас БССР, дзякуючы правільнай нацыянальнай політыцы КП(б)Б і яе ЦК, дзякуючы рашучаму і непрымірымаму змаганьню з усімі нацыяналізмамі, верным вартавым пролетарскай дыктатуры — ДПУ — раскрыта контррэволюцыйная і падрыўная работа нацдэмаўскай групкі, і чорная здрадніцкая іх дзейнасьць выведзена на чыстую ваду.

Хто яны—гэтыя прэтэндэнты на катаў рабочае клясы і сялянства Савецкай Беларусі, гэтыя кандыдаты на «міністэрскія» пасты окупаванай Беларусі, якія марылі аб крывавым зьнішчэньні пролетарскай дыктатуры? Перад намі праходзяць «знакомые все лица». Праходзіць цэлая плеяда «прожженных» контррэволюцыянэраў, вопытных політычных простытутак і прадаўшчыкоў інтарэсаў беларускіх працоўных шматлікім генштабам і контр-разьведкам буржуазных дзяржаў. Усе гэтыя Ластоўскія, Лёсікі, Некрашэвічы, Цьвікевічы і ім падобныя панове маюць «багатае» контррэволюцыйнае мінулае, поўнае белагвардзейскіх «учынкаў» і пахаджэньняў у барацьбе супроць Савецкай Беларусі. Будучы міністрамі опэрэтачных урадаў «БНР», яны з вялізарнай стараннасьцю прымалі ўдзел у вайне супроць рэволюцыі. За грошы імпэрыялістых яны прадавалі гуртам і ўраздроб беларускі народ, які, ня пытаючыся ва ўсяго гэтага нацыянальнага зброду, змагаўся пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі і ў саюзе з усімі працоўнымі б. царскай Расіі за вольную, сапраўды незалежную Социялістычную Савецкую Беларусь, супроць імпэрыялістых і іх верных саюзьнікаў—беларускіх нацыянал-дэмократаў.

Прыкрываючы свой контр-рэволюцыйны твар маскай «барацьбітоў за Беларусь», Лёсікі, Ластоўскія, Некрашэвічы, Цьвікевічы і Ко актыўна змагаліся *супроць* Савецкай Беларусі, *супроць* працоўных мас Беларусі.

*Будучы ідэолёгамі беларускай буржуазіі і кулацтва,* гэтыя былыя міністры ў сваёй контр-рэволюцыйнай рабоце ў мінулым і ў цяперашнім *ня мелі ніякай апоры ў масах нашай краіны.* Іх гісторыя і іх цяперашняе—гэта ланцуг поўзаньняў перад капіталістычнымі дзяржавамі, гэта—выпрашваньне ў іх дапамогі для барацьбы супроць савецкай улады, пры адсутнасьці сувязі з масамі.

Буржуазны друк, і асабліва фашысцкі і нацыянал-фашысцкі друк Польшчы і Зах. Беларусі, шалее з поваду выкрытай ДПУ групы контр-рэволюцыйных нацдэмаў. У сваёй клясавай злосьці супроць краіны Саветаў, у шалёнай кампаніі паклёпаў, якую гэта прэса вядзе ў цяперашні момант, кампаніі, зусім відавочна падначаленай ваенным плянам польскага імпэрыялізму, вораг з-за кордону будуе цэлыя «нязьлічоныя полчышчы», што ўстаюць па закліку арыштаваных контр-рэволюцыйных інтэлігентаў. Нам няма патрэбы абвяргаць гэтыя брэдні ворага: настолькі відавочна іх глупства і хлусьлівасьць. Групка контр-рэволюцыйных нацыянал-дэмократаў круцілася ў вузкім і даволі замкнутым коле *верхавін* беларускай інтэлігенцыі. Каставы характар гэтае групы выступае з такой-жа яркасьцю, з тако-жа відавочнасьцю, як выступіла ў часе процэсу «прампартыі» каставасьць і ізоляванасьць ад мас гэтай шкодніцкай, контррэволюцыйнай арганізацыі.

Марачы аб зьвяржэньні ненавіснай ім пролетарскай дыктатуры, беларускія нацыянал-дэмократы сустракалі і сустракаюць жорсткі адпор шырокіх працоўных мас Беларусі і мэлянхолічна вымушаны прызнаваць у сваіх-жа ўласных паказаньнях, што *мас яны за сабой ня мелі.* Лёсік, адзін з правадыроў групы, проста гаворыць у сваіх паказаньнях:

> «*Мы ведалі, што сіл у нас няма,* і аб узброеным паўстаньні супроць савецкай улады думаць ня прыходзіцца».

З патосам дэклямуючы аб «народзе», аб сваёй «мэсіяністычнай» ролі ў справе адраджэньня Беларусі, яны на справе з панска-памешчыцкай пагардай,

з кулацкай нянавісьцю адносіліся да працоўных мас беларускага сялянства.

Вось што гаворыць той-жа Лёсік:

«Мы больш разьлічвалі на беларускую буржуазію, а на сялянства глядзелі, як на сырую этнографічную масу, якая павінна пайсьці за сваёй інтэлігенцыяй...»

І калі гэта «сырая этнографічная маса» ў асобе бядняцка-серадняцкага сялянства павярнула пад кіраўніцтвам нашай партыі ў бок да соцыялізму, калі яна на базе суцэльнай колектывізацыі пачала ажыцьцяўляць ліквідацыю кулацтва, як клясы,—беларускія нацыянал-дэмократы завылі ў шалёнай злосьці прышчэмленых сабак, яшчэ больш жорстка аказваючы супраціўленьне соцыялістычнаму наступленьню.

Будучы адарванай ад мас, група контр-рэволюцыйнай нацыяналістычнай інтэлігенцыі—Лёсікі, Ластоўскія і Ко—выходзілі ў сваёй падрыўной, антысавецкай рабоце *з надзей на вайну, на хуткую інтэрвэнцыю*. І, вядома, яны ня толькі жывіліся *марамі і надзеямі:* яны, *актыўна скарыстоўваючы ўсе магчымасьці, усе свае сілы, імкнуліся падрыхтаваць спрыяючую глебу для гэтай інтэрвэнцыі і паскорыць яе. У вайне супроць БССР*, вайне польскага імпэрыялізму, яны бачылі рэалізацыю сваёй клясавай *буржуазна-кулацкай програмы,* сваіх крывавых фашысцкіх плянаў.

На сваёй сутнасьці, па характары ўсёй іх работы, па іх програмных дэклярацыях і практычнай рабоце яны былі *беларускай агентурай польскага імпэрыялізму, беларускай агентурай інтэрвэнтаў, працуючы ў цесным контакце з зах. беларускім нацыянал-фашызмам.*

Беларускія нацыянал-дэмократы былі злучаны як палітычнымі, так і організацыйнымі сувязямі з інтэрвэнтамі і іх вернымі саюзьнікамі—беларускімі нацыянал-фашыстымі з Заходняй Беларусі. Яны выконвалі па сутнасьці работу агентаў польскага генштабу, *вядучы знутры падрыхтоўку інтэрвэнцыі супроць БССР.* Так сама, як і іх украінскія прыяцелі Яфрэмаў і Ко, так сама, як і іх прыяцелі з «прампартыі», так сама, як і Кандрацьцеў, Громан і Чаянаў, яны ставілі сваёй задачай садзейнічаць ажыцьцяўленьню плянаў інтэрвэнцыі, актыўна прымаць у ёй удзел і актыўна рыхтаваць яе.

Возьмем усю іх падрыўную шкодніцкую, контррэволюцыйную работу—з чаго выходзіла яна? Імкнучыся да ўзмацненьня сіл капіталізму ў краіне (прышчэпаўшчына ў Наркомземе, політыка Баліцкага ў Наркомасьветы, ператварэньне Акадэміі навук у месца зборышча контррэволюцыйнага зброду, усемагчымыя «навукова-дасьледчыя» комісіі, прыкрываўшыя контр-рэволюцыйную работу і г. д. і г. д.)—уся гэта *работа нацдэмаў* па сутнасьці мела мэтай падрыхтаваць спрыяючыя ўмовы для зьвяржэньня пролетарскай дыктатуры шляхам узброенай інтэрвэнцыі, якая-б магла абаперціся на кулацка-нацдэмаўскія элемэнты ўнутры БССР.

Верная служба ўсёй гэтай контр-рэволюцыйнай і прадажніцкай сволачы інтэрвэнтам у цяперашні пэрыод зьяўляецца *працягам* іх службы інтэрвэнтам у мінулым. Орыентацыя на польскі імпэрыялізм, якая характарызуе іх контррэволюцыйную работу на даным этапе, мела сваё месца ў ярка выяўленай форме і ў 1919-20 г. г., калі польскі імпэрыялізм ішоў на Савецкую краіну і акупаваў значную частку Савецкай Беларусі.

Ня шкодзіць іменна зараз успомніць гэта мінулае беларускай контр-рэволюцыі і падаць сякія-такія гісторычныя дакуманты, якія, дарэчы сказаць, праліз

ваюць сьвятло і на ўсе гэтыя фігуры «ідэёвых нацыянальных дзеячоў», якія па сутнасьці зьяўляюцца высокакваліфікаванымі здраднікамі і заўсядальнікамі габінэтаў польскай дэфэнзывы.

У канцы 1919 году. у часе польскай окупацыі, у Менск прыяжджала дэлегацыя польскага сойму, якая ўключала ў сваім складзе прадстаўнікоў усіх буржуазных і згодніцкіх партый Польшчы. На адным з пасяджэньняў з прывітальным словам па адрасе гэтай дэлегацыі выступіў ня хто іншы, як Лёсік. Контр-рэволюцыйная беларуская газэтка, якая выдавалася тады ў Менску пад назвай «Звон», так паведамляла аб гэтай прамове Лёсіка:

> «Прывітаў ён польскае войска, каторае вызваліла край ад маскоўскага наезду, зазначыў далейшую лучнасьць Белай Русі з Польшчай, каторая не загасла...»

Лёсік у 1919 годзе «вітаў» армію імпэрыялістычнай Польшчы. Ён старанна рыхтаваўся да такіх-жа прывітаньняў і ў новых умовах сучаснага пэрыоду

Калі крыху пазьней окупаваны Менск быў наведаны дыктатарам Польшчы Пілсудзкім, гэта-ж беларуская газэта, захлынаючыся ад захапленьня, вітала галоўнага з окупантаў.

> «Прывет табе, начальнік польскай дзяржавы, на тваёй роднай зямельцы—Беларусі»—так пісала газэта.

Разважаючы на тэму аб службе Пілсудзкаму, гэта-ж газэта пісала:

> «Нам здаецца, што надыходзіць разьвязуючы момант. Пілсудзкі—на Беларусі... Сьвядомыя гэтай павагі, мы разам з усімі радасна вітаем нашага вялікага земляка ў сэрцы зямлі беларускай, прастарым Менску. Мы хочам верыць, што ён, гэты рыцар з Заходу, не на тое заваладаў сэрцам Беларусі, каб яе скрыўдзіць, але каб падняць з занападу зачараваную княжну ў сялянскіх шатах, каб вярнуць ёй адвечны пасад яе, каб памагчы ўтварэньню незалежнай і непадзельнай Беларусі...»

Беларускія нацыянал-дэмократы з раскрытымі абдымкамі прымалі окупантаў, якія агнём і мячом распраўляліся з працоўнымі масамі Беларусі, палілі яе вёскі, мястэчкі, гарады, расстрэльвалі дзесяткі і сотні рабочых і сялян, ператвараючы краіну ў окупаваную колёнію польскага капіталу. Іменна так павінна была выглядаць «незалежнасьць» Беларусі ў прадстаўленьні гэтых халуёў польскага імпэрыялізму, гэтых агентаў польскай дэфэнзывы, гэтых організатараў і натхніцеляў балаховіцкіх банд.

Трэба, дарэчы, адзначыць, што ў тым-жа нумары «Звону», які мы вышэй цыталі, дзе з такім патасам шчаняты беларускай контр-рэволюцыі віталі свайго пана, зьмясьціў свой верш і *Янка Купала* пад назвай «Паўстань». Мы лічым патрэбным і магчымым напомніць аб гэтым гісторычным факце («З песьні слова ня выкінеш») таму, што шырокія масы БССР у праве патрабаваць ад народнага поэта ясных адказаў на пытаньні—*з кім ён зараз.* Працоўныя масы БССР у праве патрабаваць ад Купалы такога-ж яснага адказу, які яны пачулі гэтымі днямі ад *Якуба Коласа,* які заяўляе аб сваім рашучым разрыве з беларускім нацыянал-дэмократызмам.

Але, магчыма, усё тое, што мы тут падавалі з мінулага, гэта *толькі гісторыя?* Не! *Мы вярнуліся да мінулага для таго, каб кожнаму працоўнаму стала ясна ЦЯПЕРАШНЯЕ беларускай контр-рэволюцыі.*

Той-жа Лёсік, які ў 1919 г. «радасна вітаў» окупантаў, гаворыць у сваіх апошніх *паказаньнях.*

«Нашы надзеі для зьвяржэньня савецкай улады мы ўскладалі *на вайну з Польшчай, інтэрвэнцыю...»*

Як бачым, зусім яснае прызнаньне аб тым, што ўсе іх надзеі выходзілі з інтэрвэнцыі.

«Усе мы—гаворыць Лёсік,—ня верылі ў цьвёрдасьць і пастаянства савецкага ладу. Калі савецкая сыстэма не праваліцца сама сабой ад эканомічнай разрухі, *дык гэта зробіць інтэрвэнцыя,* бо роўналежна існаваць дзьве сыстэмы—капіталістычная і соцыялістычная—ня могуць».

Выходзячы з гэтых пэрспэктыў, беларускія нацыянал-дэмократы ўзмоцнена рыхтаваліся да гэтай інтэрвэнцыі, узмоцнена імкнуліся падрыхтаваць глебу для антысавецкай вайны імпэрыялістычнай Польшчы. Лёсік адкрыта прызнаецца, што

«...мне здавалася, што граміць Польшчу, гэта значыць падрубіць той сук, на якім вісеў наш ідэал самастойнай Беларусі...»

Такім чынам, орыентацыя на польскі імпэрыялізм з усёй выразнасьцю выказана ў словах аднаго з кіраўнікоў арыштаванай групы. Зьвязаньне з лёсам польскага імпэрыялізму лёсаў будучай буржуазнай Беларусі гаворыць аб тым, што нацыянал-дэмократы ўзмоцнена працавалі ў гэтым напрамку—для ператварэньня Сав. Беларусі накшталт Зах. Беларусі ў простую колёнію польскага капіталу.

Шляхам інтэрвэнцыі яны імкнуліся зьнішчыць уладу рабочых і сялян. Шляхам інтэрвэнцыі яны хацелі зьнішчыць усе заваяваньні ў галіне будаўніцтва Савецкай Беларусі, як непадзельнай часткі ўсяго Савецкага Саюзу, *зьнішчыць усе заваяваньні ў галіне будаўніцтва беларускай пролетарскай культуры.* Паглядзеце, што робіцца зараз у Заходняй Беларусі пры актыўным удзеле Луцкевічаў, Астроўскіх, Станкевічаў і інш., і вы ярка прадставіце сабе тое, што рыхтавалі беларускія нацыянал-дэмократы тут, у БССР, *што і як* спадзяваліся яны ажыцьцявіць рукамі інтэрвэнтаў і іх саюзьніка—беларускай контр-рэволюцыі.

Процэс «прампартыі», які адбываецца ў Маскве, раскрывае крок за крокам тайнікі падрыхтоўчых работ да ўзброенай інтэрвэнцыі супроць СССР. Для нас няма ніякага сумненьня ў тым, што беларускія нацыянал-дэмократы, *у саюзе з вялікадзяржаўнай расійскай буржуазіяй,* у саюзе з усімі гэтымі Рамзінамі, Лукомскімі і Рабушынскімі, пад камандай польскіх і францускіх інтэрвэнтаў, так сама як у свой час разам з Дзянікіным і францускімі окупантамі, рыхтавалі задушэньне савецкай улады і фізычнае зьнішчэньне рабочае клясы і рэволюцыйнага сялянства.

Контр-рэволюцыйная работа групы нацыянал-дэмократаў раскрыта. Але ня зьнята ўзрастаючая небясьпека інтэрвэнцыі, ня зьнята і небясьпека нацыянал-дэмократызму.

Шырокія працоўныя масы БССР гнеўна выказваюць свой протэст супроць здрадніцкай работы нацдэмаўскіх агентаў польскага імпэрыялізму, рыхтаваўшых вайну супроць БССР. Працоўныя патрабуюць суровага пакараньня контр-рэволюцыянэраў.

Клясавая пільнасьць павінна быць яшчэ больш абвострана і павялічана. Яшчэ актыўней трэба працаваць над умацаваньнем абароназдольнасьці Савецкай краіны. Усе сілы працоўных—на выкананьне пяцігодкі за чатыры гады, на выкананьне ўсіх плянаў ударнага кварталу. Новым прылівам рабочых у рады партыі, шырокім разгортваньнем соцыялістычнага спаборніцтва, бальшавіцкім правядзеньнем перавыбарчай кам-

паніі масы адказвалі і будуць адказваць на «происки» інтэрвэнтаў і іх агентаў. Яшчэ больш актыўна трэба змагацца з праяўленьнямі ўсіх нацыяналізмаў, *з вялікадзяржаўным расійскім шавінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе,* з беларускім контр-рэволюцыйным нацыянал-дэмакратызмам, польскім і яўрэйскім шовінізмамі. Трэба бязьлітасна біць па тых, хто хоча аслабіць змаганьне з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе. Вялікадзяржаўныя шовіністыя, як гэта мы ня раз бачылі на радзе яркіх прыкладаў, у чульлівым саюзе з беларускімі нацыянал-дэмократамі выступалі і выступаюць супроць пролетарскай дыктатуры, супроць нацполітыкі нашай партыі. Непрымірымым агнём па агентах беларускага нацыянал-дэмократызму ўнутры партыі—нацыянал-опортуністых, па ўхіле да вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі, і яго конкрэтных носьбітах, па нацыянал-ухілістых усіх масьцей; актыўным выкананьнем усіх пастаноў апошняга пленуму ЦК па нацыянальнай політыцы; яшчэ большай актывізацыяй змаганьня за беларусізацыю, за аўладаньне пролетарскім кіраўніцтвам нацыянальна-культурнага будаўніцтва адказваюць і будуць адказваць на работу контр-рэволюцыянэраў нашы партыйныя організацыі.

Мізэрная група нацдэмаўскіх інтэлігентаў выкінута на сьметнік. Па ўсіх іх спробах сарваць социялістычнае будаўніцтва БССР, павярнуць назад махавое кола гісторыі нанесен магутным кулаком пролетарскай дыктатуры руйнуючы ўдар. Савецкая Беларусь пры вялізарнейшым уздыме і энтузіязьме мільённых мас, перамагаючы і ломячы супраціўленьне клясавага ворага, пад цьвёрдым і выпрабаваным кіраўніцтвам КП(б)Б і яе ЦК будуе соцыялізм. Калі міжнародныя і польскія імпэрыялістыя ў саюзе з унутраной контррэволюцыяй будуць прабаваць сарваць шляхам інтэрвэнцыі нашу мірную працу, яны сустрэнуць жалезную сьцяну шматмільённай Чырвонай арміі, зьнішчальны адпор усяе савецкае краіны.

(„Зьвязда“)

---

З. Жылуновіч

# Нацыянал-дэмократы за „працай“

(*1920—1928 г. г.*)

Шырока разгорнутае соцыялістычнае будаўніцтва, якое пасьпяхова вядзе рабочая кляса Савецкага Саюзу, на чале з сваім правадыром—Ленінскай комуністычнай партыяй, прывяло краіну Саветаў да першага пэрыоду соцыялізму.

Разгорнутае соцыялістычнае наступленьне па ўсяму фронту на рэшткі капіталістычных элемэнтаў гораду і вёскі выклікае шалёнае супраціўленьне клясавага ворага. Кулак у вёсцы, нэпман у горадзе, яўны і скрыты контррэволюцыянэр-шкоднік цесна з'ядналіся ў адзіны контррэволюцыйны фронт і вядуць жорсткае супраціўленьне пераможнаму руху да комунізму.

Непасрэдныя агенты польскага фашызму—беларускія нацыянал-дэмократы, ставячы стаўку на інтэрвэнцыю, уключаюць сваю працу ў адзіны контррэволюцыйны фронт.

Актывізацыя нацыянал-дэмократызму разьвівалася водлуг разьвіцьця посьпехаў і дасягненьняў завяеў Каст-

ли миллионы рабочих и бедных крестьян предателями по слабости или предателями из корысти». (Ленін, т. XVII, стар. 15).

Урэшце, я ведаю, што якая-б ні была пастанова ЦКК, той удар, які я пераношу па сваёй выключна віне на адзінаццатым годзе прабываньня ў партыі і на пяцідзесятым годзе майго жыцьця, ня пройдзе для мяне дарам, а будзе для мяне моцнай навукай для далейшага.

Прызнаючы сваю цяжкую віну перад партыяй і пролетарыятам, заяўляю, што я рашуча адмяжоўваюся ад маіх нацыянал-опортуністычных поглядаў, якія прывялі мяне да здрады партыі, аб чым я гаварыў вышэй. Заяўляю, што да канца дзён майго жыцьця ўсе сілы і здольнасьць аддам на барацьбу за ленінскую лінію нашай партыі, на будаўніцтва соцыялізму і на ўзмацненьне дыктатуры пролетарыяту, рашуча выкрываючы як свае ранейшыя нацыянал-опортуністычныя погляды, так і наогул сутнасьць нацыянал-опортунізму і нацыянал-дэмократызму, выкрываючы карэньні, прыводзячыя да контррэволюцыі і контррэволюцыйных плыняй. Якая-б ні была пастанова ЦКК, я застануся ў радох будаўнікоў вялікага соцыялістычнага будаўніцтва.

Разам з пролетарыятам і ўсёй савецкай грамадзкасьцю я падымаю і свой голас абурэньня контррэволюцыйнай дзейнасьцю нацдэмаў і патрабую для іх самай суровай кары з боку органаў пролетарскай дыктатуры.

*У. Ігнатоўскі.*

# Адкрыты ліст Я. Купалы

Паважаны тав. рэдактар, прашу зьмясьціць у вашай газэце наступнае:

Адбіваюцца нячуваныя, грандыёзьнейшыя ў гісторыі чалавецтва падзеі. У СССР, адзінай на ўсім сьвеце краіне пролетарскай дыктатуры, рабочая кляса, у цесным саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, рэальна ажыцьцяўляе заветныя ідэалы найгеніальнейшых настаўнікаў і правадыроў працоўнага люду—Маркса і Леніна, перамožна, з нявіданым творчым энтузыязмам і запалам будуе соцыялістычнае грамадзтва. Але шлях гэтага будаўніцтва ня лёгкі.

Капіталістычны сьвет усё з большай і большай трывогай, азьвярэньнем і нянавісьцю сочыць за гэтай соцыялістычнай будоўляй, добра ведае і адчувае, што справядлівай гісторыяй ужо палічаны апошнія гадзіны яго існаваньня. І ня толькі сочыць. Імпэрыялістычная заграчнічная буржуазія адзіным фронтам з рэшткамі капіталістычных элемэнтаў у СССР напружвае ўсе свае сілы для таго, каб перашкодзіць гэтай творчай рабоце працоўных мас, каб зьнішчыць соцыялістычную дзяржаву, апору сусьветнага рэволюцыйнага пролетарыяту ў яго барацьбе за вызваленьне з-пад ярма рабства і эксплёатацыі. Буржуазія, як замежная, так і ўнутраная, не перабірае ніякімі мэтодамі і сродкамі барацьбы супроць СССР. Шкодніцтва, дывэрсія, шпіёнства, інтэрвэнцыя,—усё гэта пускаецца ў ход, каб толькі зруйнаваць такія бастыёны соцыялізму, як індустрыялізацыя і колектывізацыя, абы толькі ўзарваць пяцігадовы плян, які ажыцьцяўляецца нячуваным уздымам і захапленьнем рабочай клясы і бядняцка-серадняц-

кага сялянства пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі. Адгэтуль нязвычайнае абвастрэньне клясавай барацьбы, адгэтуль шалёнае супраціўленьне капіталістычных элемэнтаў усім пачынаньням і мерапрыемствам савецкай улады.

Арэнай такой абвостранай клясавай барацьбы зьяўляецца, зразумела, і БССР. Але ва ўмовах нашай рэспублікі ролю зьбіральніка і організатара контр-рэволюцыйных сіл, ролю застрэльшчыка сусьветнага капіталізму ўзяў на сябе беларускі нацыянал-дэмократызм, выступаючы пад сьцягам ліквідацыі ўсіх заваяваньняў Кастрычнікавай рэволюцыі, пад сьцягам рэстаўрацыі буржуазнага ладу, звароту капіталістам фабрык і заводаў, памешчыкам—зямлі, пад сьцягам падняволеньня рабочых і сялянскіх працоўных мас.

Для ажыцьцяўленьня гэтае мэты група контр-рэволюцыйных нацыянал-дэмократычных інтэлігентаў, у хаўрусе і пад кіраўніцтвам заходня-беларускага нацыянал-фашызму, гэтай агентуры польскага імпэрыялізму, на працягу раду год вяла шкодніцкую контррэволюцыйную работу амаль на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва, накіроўваючы галоўныя ўдары, аднак, па лініі культуры і зямельнай экономікі. Пранікаючы і стараючыся паступова прыбіраць у свае рукі найадказьнейшыя вучасткі савецкага дзяржаўнага апарату (Наркомасьветы, Наркомзем, БДВ і г. д.), контр-рэволюцыйныя нацыянал-дэмократы спадцішка, але няўхільна, падточвалі соцыялістычныя элемэнты савецкае дзяржаўнасьці, падменьваючы іх нацыянальна-буржуазнымі. Асаблівую ўвагу аддавалі яны разбурэньню таго адзінства, тае інтэрнацыянальнай базы, на грунце якое працоўныя масы ўсіх нацыянальнасьцяй СССР зьлітнымі калёнамі ідуць па шляху да соцыялізму. Лёзунгу аб'яднаньня рабочых і сялян—беднякоў і сераднякоў розных нацыянальнасьцяй Савецкага Саюзу пад ленінскім сьцягам, контр-рэволюцыйныя беларускія нацыянал-дэмократы супроцьставілі лёзунг самабытнасьці беларускай нацыі, сэпаратысцкага разьяднаньня, нацыянальнага антагонізму, каб гэтым самым аблягчыць сваёй нацыянальнай буржуазіі перамогу, панаваньне і ўгняценьне беларускіх працоўных мас. У гэтай контррэволюцыйнай рабоце беларускія нацыянал-дэмократы апіраліся, з аднаго боку, на кулацтва, якое ліквідуецца ва ўмовах колектывізацыі як кляса, а з другога боку, на зарубежныя сілы, і гэтым пракладвалі шлях для інтэрвэнцыі, бо яны добра ведалі, што ня ўласнымі сіламі, а толькі пры збройным падтрыманьні замежнай інтэрвэнцыі змогуць зьнішчыць ненавісную ім дыктатуру пролетарыяту, каб падмяніць яе дыктатурай капіталу.

Якую ролю я асабіста і мая літаратурная творчасьць адыгралі ў гэтай контррэволюцыйнай дзейнасьці беларускага нацыянал-дэмократызму?

На літаратурную ніву я ўступіў у 1905 г., надрукаваўшы свой першы верш «Мужык». Мэта, якую ставіў я перад сваёй поэтыцкай творчасьцю, гэта было паказаць у мастацкай форме ўсю беднату, цемнату, нядолю і падняволье батрацтва і бядняцтва беларускае вёскі, якая горка пакутвала пад соцыяльным і нацыянальным гнётам крывавага царызму. Але, пачаўшы з 1908 г., у часы самае чорнае рэакцыі, працаваць у «Нашай Ніве», я падпаў пад уплыў нашаніўскага дробнабуржуазнага і кулацкага нацыяналістычнага адраджанізму, захапіўся гэтымі адраджэнцкімі ідэямі нацыянал-дэмократычнай дзяржаўнасьці і пачаў іх адбіваць у сваёй далейшай творчасьці, апяваючы, як нешта цэлае пазаклясавае, беларускі «народ», ідэа-

лізуючы ў некаторых сваіх творах гістарычнае мінулае, значыцца, фэодальна-паншчыннае Беларусі, зацямняючы гэтым самым клясавую сутнасьць соцыяльнае і нацыянальнае барацьбы за вызваленьне, якая і ў гэты пэрыод, хоць прыдушана, але хвалявалася, узбуралася ў імкненьнях і парывах працоўных мас (нелегальная рэволюцыйная літаратура, забастоўкі і г. д.).

Гэтае захапленьне дробнабуржуазнымі нацыянал-дэмократычнымі ідэаламі прычынілася таму, што я і ў першыя гады Кастрычнікавае рэволюцыі ня змог ад іх пазбавіцца ды ўразумець і ўсьвядоміць усю веліч і гісторычную няміну-часьць пролетарскае рэволюцыі, якая адна несла сапраўднае соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне працоўным былой царскай Расіі, у тым ліку і Беларусі. Дзякуючы гэтаму свайму асьляпленьню, зьявіліся мае такія творы з ярка нацыянал-дэмократычнымі настроямі, як, напрыклад, «Паўстань», «Перад будучынай», п'еса «Тутэйшыя» і інш.

Комуністычная партыя і савецкая ўлада даравалі мне гэтыя грубыя нацыянал-дэмократычныя памылкі ў маёй творчасьці, і за мае ранейшае заслугі перад беларускім працоўным людам надалі мне высокую годнасьць народнага поэты. І ў апошнія гады я ўсімі сіламі намагаўся далучыцца сваёй творчасьцю да вялікага соцыялістычнага будаўніцтва, якое так магутна разгортваецца ў нашай краіне, прыкладам, творы: пераклад «інтэрнацыяналу», «На сьмерць С. Булата», «Безназоўнае», «Арлянятам», «Дзьве сястры» (аб работніцы і сялянцы), «Шляхам гадоў», «З угодкавых настрояў» (на дзесяцігодзьдзе Кастрычнікавай рэволюцыі), «На могілках ваякаў» (да дзесяцігодзьдзя БССР), «Дыктатура працы», «Працай дружнай, колектыўнай» (аб выстаўцы) і інш. Але ўсё-ж такі ў гэтым напрамку я зрабіў вельмі мала, не зважаючы на тыя магчымасьці, якія мне давала партыя і савецкая ўлада.

Прасякнуты нацыянал-дэмократычнай заразай, прышчэпленай мне нашаніўскім пэрыядам маёй літаратурнай працы, калі я стаў быў адным з ідэолёгаў буржуазна-дэмократычнага адраджэнцтва і «незалежніцтва», я і пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі не адмежаваўся як гэта належала, абкружаючага мяне нацыянал-дэмократычнага асяродзішча, а быў уцягнутым імі і прыняў самы блізкі ўдзел у контррэволюцыйнай рабоце віднейшых беларускіх нацыянал-дэмократаў, якія на грунце конституцыі Савецкае Беларусі, скарыстаўшыся давер'ем, якое аказана было ім з боку савецкай улады, прыкрываючыся хлусьліва заслонай фальшывых крывадушных дэклярацый і запэўненьнем, праводзілі свае шкодніцкія нацыянал-дэмократычныя ідэі на культурным фронце.

Працуючы ў навукова-тэрмінолёгічнай комісіі ў Інбелкульце, БАН, гэтых кіруючых штабах беларускага нацыянал-дэмократызму, бачачы сваімі вачыма іхнія несумяшчальныя з інтарэсамі беларускіх працоўных мас і запатрабаваньнямі партыі і савецкае ўлады ўстаноўкі і мерапрыемствы ў культурным будаўніцтве, я ня толькі ні разу не асудзіў іх, але, наадварот, морольна падтрымліваў і дапамагаў іх рэалізацыі.

Але гэты этап пройдзен. Цяпер я бачу ўсю шкоднасьць і гібельнасьць таго шляху, па якім памыкаліся беларускія нацыянал-дэмократы павярнуць ход гісторыі. Гіганцкімі крокамі ідзе культурнае і экономічнае будаўніцтва Беларусі. Краіна, бышая ўвасабленьнем рабства, убоства і беспрасьветнай цемры,ператвараецца ў краіну вольнае працы. На месцы некалі гнілых дрыгвяных балот

вырастаюць фабрыкі, заводы, электрастанцыі. На месцы ўбогіх сялянскіх палосак красуюцца колгасныя нівы, навейшыя дасягненьні агрономіі, тэхнікі і плодатворчай колектыўнай працы. На месцы народнай цемры вырастаюць бязупынна ўсё новыя і новыя культурныя, навуковыя і навучальныя ўстановы.

Будуецца социялізм.

Балюча і цяжка ўсьведамляць мне сёньня, што я, адарваўшыся ад здаровага творчага асяродзішча рэволюцыйных пролетарскіх працоўных мас і ўвесь час утапаючы ў пратухлым балоце абкружаючых мяне контррэволюцыйных нацыянал-дэмократычных дзеячоў, з аванturыстычным палітычным мінулым, я так сьлепа, так упарта на працягу раду год ідэолёгічнымі памылкамі ў сваёй творчасьці, популярнасьцю і аўторытэтам, як народны поэта, не дапамагаў з усёй адданасьцю і захапленьнем ажыцьцяўленьню заветных лятуценьняў чалавецтва, ажыцьцяўленьню социялізму.

Балюча і цяжка. Але гэты чад, як сон кашмарны, мінуў. Сёньня, пранікнуты ясна сьвядомасьцю поэта і грамадзяніна, я рашуча і раз назаўсёды як у сваёй літаратурнай творчасьці, так і ў сваіх імкненьнях і грамадзкай дзейнасьці. парываю з беларускім нацыянал-дэмократызмам ва ўсіх яго праяўленьнях.

У нашу векапомную эпоху гэроічнага змаганьня пролетарыяту за вызваленьне працоўных з-пад няволі капіталізму, калі пролетарыят усё старое ніштожыць і на руінах гэтага старога будуе новае социялістычнае існаваньне,—праступна ўваскрашаць мінулае, прасякнутае нявольніцка-буржуазнымі капіталістычнымі традыцыямі, праступна ўтвараць нацыянальную адмежаванасьць, асноўваючыся на самабытнасьці, гэта значыць, на пазаклясавасьці якой-бы ні было нацыі ці народу.

Парываючы сам катэгорычна і беспаваротна ідэйна і організацыйна з беларускім нацыянал-дэмократызмам, як з нейкай хвароблівай зданьню, якая палоніла мяне на працягу доўгіх год майго сьвядомага жыцьця, я шчыра жадаю, каб гэты мой горкі вопыт паслужыў навукай для тэй часткі беларускай інтэлігенцыі, якая яшчэ ня зусім вызвалілася ад нацыянал-дэмократычнага шалупіньня, якая канчаткова ня прышла да перакананьня, што толькі працуючы пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, гэтага авангарду рабочае клясы, толькі аддаючы свае сілы на социялістычнае будаўніцтва, яна ня будзе адмецена жыцьцём, як агідная памятка рабскага мінулага.

Усе сілы—социялістычнаму будаўніцтву на зацьвітаючай новымі агняцьветнымі краскамі індустрыяльна-колгаснай глебе Савецкай Социялістычнай Беларусі!

Няхай жыве культура, зьмест і форма якое выпісаны на ленінскім сьцягу найвялікшым сучасным правадыром пролетарыяту т. Сталіным,— культура—пролетарская па сваім зьмесьце, нацыянальная па форме!

Няхай жыве Комуністычны інтэрнацыянал, гэты адзіны загартаваны правадыр, які вядзе чалавецтва да новага сьветлага радаснага жыцьця.

Няхай жыве Беларуская социялістычная савецкая рэспубліка, адзін з краяўглавых каменьняў Савецкага саюзу!

Няхай жыве СССР, братняя дапамога якога забясьпечвае нявіданыя і нячуваныя тэмпы разьвіцьця Савецкай социялістычнай Беларусі!

*Янка Купала.*

Менск, 10-XII 1930 г.

# Адкрыты ліст Якуба Коласа

Наш час—час вялікага творчага ўздыму і энтузыязму пролетарскіх мас на фронце социялістычнага будаўніцтва, час напружанага змаганьня за ажыцьцяўленьне грандыёзнага пяцілетняга пляну рэконструкцыі ўсіх галін дзяржаўнага і грамадзкага жыцьця. Гэты этап будаўніцтва, этап шырокага і рашучага наступленьня на капіталістычныя элемэнты праходзіць ва ўмовах абвостранага, жорсткага і складанага клясавага змаганьня. Пасьпяховы і пераможны поступ шырокіх пролетарскіх мас у шчыльным контакце і саюзе з батрацка-бядняцкімі і серадняцкімі масамі сялянства на ўсіх франтох социялістычнага будаўніцтва выклікае шалёную нянавісьць і зьвярыную злобу як унутраных, так і замежных ворагаў дыктатуры пролетарыяту.

Гэта злоба і нянавісьць з асаблівай сілай і аголенасьцю выступаюць цяпер, калі ўсякая надзея на перараджэньне савецкай улады, на зьмену яе курсу адпала, калі монолітны ленінскі авангард, комуністычная партыя, цьвёрда і ўпэўнена вядзе рабочыя і бядняцка-серадняцкія масы па шляху социялістычнага будаўніцтва на базе пяцілетняга пляну, пад лёзунгам—дагнаць і перагнаць у сэнсе тэхнічна-гаспадарчым перадавыя капіталістычныя дзяржавы ўсяго сьвету, калі палавіна гэтага шляху ўжо пройдзена. Гэта злоба і нянавісьць праяўляюцца ў самых агідных формах шкодніцтва, у контррэволюцыйных організацыях пры падтрыманьні замежнага капіталу і замежных генэральных штабаў, употайку адточваючых разбойніцкі нож крывавай інтэрвэнцыі, каб накіраваць яго вастрыё ў бок дыктатуры пролетарыяту.

Клясавае змаганьне ў Беларускай Савецкай социялістычнай рэспубліцы, у сувязі з буйным ростам социялістычнага будаўніцтва, знайшло сваё найбольш яркае праяўленьне ў вылазках беларускага контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму. Выходзячы сваімі вытокамі з часоў «Нашай Нівы», якая зьяўлялася органам дробна-буржуазных і кулацкіх элемэнтаў і імі падтрымлівалася, беларускі нацыянал-дэмократызм вуснамі сваіх гісторыкаў, публіцыстых і крытыкаў імкнецца ўгрунтаваць сваю базу ў мінулым і прадставіць гісторыі рэволюцыйнага руху на Беларусі і гісторыю самой КП(б)Б, як працяг нібыта рэволюцыйнай лініі і «рэволюцыйных» традыцый гэтай «Нашай Нівы». З тэю ж мэтаю знайсьці рэволюцыйную апору ў мінулым ён выкопвае з пылу гісторыі шляхецкага дробна-буржуазнага рэволюцыянэра Кастуся Каліноўскага, польскага буржуазнага патрыёта, і надзяляе яго сваімі нацдэмаўскімі атрыбутамі. Гэты культ Кастуся Каліноўскага выяўляецца ў яго шматлікіх бюстах, раскіданых па розных установах, дзе запанаваў дух нацдэмаўшчыны, але асабліва рэльефна выступае ён у п'есе «Кастусь Каліноўскі».

Крок за крокам, маскуючыся і выступаючы пад прыкрыцьцём псэўдамарксысцкіх тэорый, паволі, але няспынна беларускі нацыянал-дэмократызм зьбірае сілы і пашырае базу сваёй чыннасьці, пралазячы ва ўсе шчыліны культурнага фронту і па лініі зямельнай політыкі. Паасобныя позыцыі гэтага фронту цалкам становяцца форпостамі для пропаганды нацдэмаўскіх ідэй. Навукова-тэрмінолёгічная комісія, інстытут Беларускай культуры, Беларуская акадэмія

навук, краязнаўчае бюро, мастацкая літаратура («Полымя», «Узвышша» і паасобныя выданьні), падручнікі, Белдзяржвыдавецтва, тэатр, ніжэйшая і сярэдняя школа, настаўніцтва і вучнёўства,—вось тая глеба і тая аўдыторыя, куды закідае сваё антыпролетарскае насеньне нацдэмаўская тэорыя аб беларускай самабытнасьці, аб клясавай непадзельнасьці беларускага народу, аб нязначнасьці ролі пролетарыяту на Беларусі і г. д. Формула нацыянальнай політыкі партыі, барацьба за беларускую соцыялістычную культуру, нацыянальную па форме, пролетарскую па зьмесьце, ператвараецца ў формулу нацыянальную па форме і нацыянал-дэмократычную па зьмесьце.

Да гэтых ідэй і тэорый, як і да ўсяе нацдэмаўскае дзейнасьці ў межах Савецкай Беларусі, з задавальненьнем прыглядалася і прыслухоўвалася беларуская фашысцкая прэса з Заходняй Беларусі, бо яе мэты і палітычныя ўстаноўкі супадалі з мэтамі і палітычнымі ўстаноўкамі контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму ў межах Савецкай Беларусі, бо тая і другая нацыянал-дэмократычная плынь у аднолькавай ступені зьяўляліся носьбітамі кулацкіх і капіталістычных настрояў, і тая і другая расчышчалі дарогу інтэрвэнцыі. Вось чаму замежная фашысцкая беларуская прэса заўсёды брала пад сваю абарону кожнага з тых, хто так ці інакш рэзка зрываўся з завуаляваных нацдэмаўскіх позыцый і рабіў нічым ня прыкрытыя контррэволюцыйныя ўчынкі і выступленьні ў межах Савецкай Беларусі.

Аглядаючы «навуковую» продукцыю, як пераважна нацдэмаўскую спадчыну Інбелкульту і Беларускай акадэміі навук, нельга ня прызнаць, што ўся яна вельмі далёкая і чужая для пролетарскай грамадзкасьці, чые патрэбы павінны былі, па даручэньні партыі і савецкай улады, абслугоўваць Інбелкульт і Акадэмія навук. Сухі акадэмізм, адрыў ад пільных задач культурнага і соцыялістычнага будаўніцтва на фронце індустрыі, суцэльнай колектывізацыі сельскае гаспадаркі, капаньне ў старасьветчыне, дзе ўсё прапята духам струпеласьці і рэакцыйнасьці, зацятае ігнараваньне ўсяго таго, што павінна ўзьнімаць творчую энэргію і энтузыязм у імя ажыцьцяўленьня вялікіх задач, напісаных на сьцягу комуністычнае партыі, упартае замыканьне ў вузкім коле нацыяналістычных проблем, упартае недапусканьне і прапіўленьне ўсяму таму, што магло-б ажывіць, асьвяжыць і разьвеяць сьпёртую атмосфэру нацыяналістычных інтарэсаў,—вось агульнае ўражаньне ад гэтай продукцыі.

Пераходзячы да больш конкрэтных выпадкаў праяўленьня контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, трэба асобна адзначыць факт акадэмічнай конфэрэнцыі, меўшай месца ў Менску, сталіцы Савецкай Беларусі ў 1926 годзе. Конфэрэнцыя адбывалася ў клюбе Карла Маркса. Прычым з клюбу ў дагоду буржуазным вучоным з-за граніцы і, выходзячы з нацдэмаўскіх настрояў, былі вынесены портрэты вялікіх настаўнікаў комунізму Маркса і Леніна і зьняты савецкія эмблемы, а замест іх пышна красавалі эмблемы беларускага нацыянал-дэмократызму. Такім чынам, конфэрэнцыя абярнулася ў контр-рэволюцыйную дэмонстрацыю. Контр-рэволюцыйныя прамовы гаварылі выступаўшыя прамоўцы. Ластоўскі высоўваў прынцып разьвіцьця беларускай мовы на яе старажытнай «крыўскай» аснове дзеля змаганьня супроць расійскіх

уплываў. У тон Ластоўскаму падпяваў Некрашэвіч, выступаючы з тэорыяй чыстаты беларускай мовы, паводле якой (тэорыі) трэба змагацца супроць увядзеньня ў нашу мову «чужаземшчыны», асабліва з боку ўплыву савецкай расійскай літаратуры. Гэтыя-ж тэндэнцыі контррэволюцыйнага парадку на лінгвістычным фронце яскрава выявіліся на мовазнаўчай дыскусіі ў Беларускай акадэміі навук у 1930 годзе.

Падручнікі для школ у тых ці іншых формах таксама праводзілі шкодныя нацдэмаўскія ідэі шляхам прыкладаў і падборам спэцыяльнага матар'ялу, што асабліва кідаецца ў вочы ў школьных граматыках Лёсіка.

У гэтай шкоднай контррэволюцыйнай рабоце, побач з актыўнейшымі прадстаўнікамі беларускага нацыянал-дэмократызму, прымаў удзел і я, падпаўшы пад уплыў нацыянал-дэмократычных ідэй і настрояў. Мая дзейнасьць выразілася ня толькі ў конкрэтнай рабоце ў якасьці члена тэрмінолёгічных комісій, у навукова-тэрмінолёгічнай комісіі і ў Інстытуце беларускай культуры, але і ў моральным падтрыманьні і адабрэньні тае работы, тых установак і тых ідэолёгічных вывіхаў і контр-рэволюцыйных праяў, што няўхільна, у сілу свае дробнабуржуазнае і кулацкае прыроды, нёс беларускі нацыянал-дэмократызм. Адарваны ад жывых крыніц пролетарскіх мас, замкнёны ў цесным крузе нацыянал-дэмократычнай інтэлігенцыі і атручаны нацыянал-дэмократычным дурманам, я папрымірэнцку і опортуністычна адносіўся да ўсіх яго праяў, ні разу ня выступіўшы супроць іх ні вусна, ні ў друку, ні ў парадку пролетарскай самакрытыкі. Мая літаратурная дзейнасьць, асабліва яе першы пэрыод, выходзячы сваімі карэньнямі з часоў «Нашай Нівы» і наскрозь прасякнутая дробна-буржуазнымі нацыянал-дэмократычнымі настроямі, таксама шмат спрыяла росту і разьвіцьцю беларускага нацыянал-дэмократызму.

Катэгорычна парываючы з беларускім нацыянал-дэмократызмам, які ва ўмовах Заходняй Беларусі перарос у нацыянал-фашызм, я безагаворачна асуджаю яго, як концэпцыю рэстаўрацыі капіталізму, концэпцыю адміраючых клясаў, варожых дыктатуры пролетарыяту, як мутную антыпролетарскую плынь у творчым патоку соцыялістычнага будаўніцтва, як агіднае зьвяно ў іржавым ланцугу шкодніцтва контррэволюцыйных організацый, нядаўна выкрытых у розных мясцох Саюзу ССР, шпіёнажу замежных капіталістычных дзяржаў і іх генэральных штабаў, рыхтуючых употайку крывавую інтэрвэнцыю супроць Саюзу ССР.

Асуджаны гісторыяй на адміраньне, як аджыўшая свой час дробна-буржуазная спадчыннасьць старога капіталістычнага сьвету, беларускі нацыянал-дэмократызм павінен быць адмецен і скінут, як тормаз, з дарогі пераможнага ходу соцыялістычнага будаўніцтва.

Усе сілы, усе здольнасьці на фронт гэтага будаўніцтва!

*Якуб Колас.*

30 лістапада 1930 г.

# ЗА ПАСКАРЭНЬНЕ ТЭМПАЎ ПОЛІТЭХНІЗАЦЫІ

Ю. Дардак

## Працоўны пакой і як яго арганізаваць

### 1. Працоўны пакой і яго месца ў справе політэхнізацыі школы 1-га концэнтру і масавай школы на вёсцы.

1-шы Ўсебеларускі політэхнічны зьезд, які завастрыў увагу на ўсе пытаньні політэхнізацыі школы, мобілізаваў грамадзкасьць наваколо пытаньняў політэхнізму, вызначыў тыя конкрэтныя шляхі і формы, па якіх павінна пайсьці політэхнізацыя школы, даў выразную ўстаноўку ў мэтодах ажыцьцяўленьня політэхнізацыі школы. Зьезд у сваіх пастановах дакладна вызначыў, што адзіным шляхам для ажыцьцяўленьня сапраўднай політэхнічнай школы, зьяўляецца ўключэньне школы ў вытворчы і гаспадарчы плян заводу, прадпрыемства і колгасу, каб усё навучаньне будавалася на аснове вытворчасьці, удзелу ў вытворчасьці на аснове вывучэньня вытворчых суадносін на пасьлядоўна-соцыялістычным прадпрыемстве, удзелу ў грамадзкім і культурным жыцьці заводу, у змаганьні за выкананьне прамфінпляну на заводзе, удзелу ў сацспаборніцтве і ўдарніцтве. Адным словам, дабіцца таго, каб паступова школа стала цэхам заводу ці аддзяленьнем колгасу.

Усё гэта патрабуе перабудовы як організацыйных форм, гэтак і мэтодаў працы ў нашай політэхнічнай школе. Зьвеньні, брыгады—гэта тая форма організацыі, якая павінна паступова выціснуць клясную форму організацыі работы. Мэтод соцыялістычнага спаборніцтва, як асноўны мэтод выхаваньня, проекты павінны стаць тым стрыжнем у вучэбнай працы, які будзе накіроўваць увагу і актыўнасьць дзяцей на ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве нашай краіны.

Адсюль вялікае значэньне і роля політэхнічнай працы ва ўсёй сыстэме соцыялістычнага выхаваньня.

Для таго, каб уявіць сабе, якое месца павінна займаць праца ў сыстэме выхаваньня наогул, і політэхнічная праца ў асаблівасьці, як павінна быць пастаўлена праца для розных узростаў, трэба коратка ахарактарызаваць значэньне працы, як фактару прыстасаваньня і перапробкі паводзін людзей.

У артыкуле «Роль труда в процессе очеловечения обезьяны» Энгельс гаворыць аб тым, што адным з рашаючых фактараў у справе выпрацоўкі конституцыі і прыстасаванасьці організму зьяўляецца якраз праца. «Только благодаря труду, благодаря приспособлению ко всем новым операциям, благодаря передаче по наследству достигнутого таким путем особенного развития мускулов, связок и, за более долгий промежуток времени, также костей— только благодаря всему этому человеческая рука достигла высокой степени совершенства».

У другім месцы Энгельс гаворыць: «Рука, таким образом, является не только органом труда, она также—его продукт[1]).

[1]) Энгельс. „Диалектика природы", стр. 13—

Адсюль можна зрабіць вывад аб значэньні працы ў сыстэме выхаваньня. Праца павінна стаць дзейным фактарам разьвіцьця організму. Вядома, што такім фактарам яна можа стаць толькі ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту, пры соцыялізьме.

У рэзолюцыі першай партыйнай нарады ў 1920 г. па народнай асьвеце ў пункце аб соцыялістычным выхаваньні гаворыцца, што ў школе 1-ае ступені, г. зн. у першым концэнтры школ сямігодак альбо чатырохгодак, якія абслугоўваць дзяцей ад 8-11 год, «политическое образование детей должно занять самое видное место. Исходной точкой в этом случае должны служить те социально-политические явления, свидетелем которых приходится быть ребенку: деятельность местных органов советской власти, профсоюза, к которому принадлежат родители ребенка, Красной армии и пр. При этом никоим образом не должно быть забыто эстетическое и физическое образование. Трудовой элемент в этой возрастной группе является в следующих формах: а) активное усвоение вышеупомянутых умений путем реальной умственной и физической работы, через разрешение определенных заданий, поставленных учителем перед группой, б) ручной труд, как фиксирующий внимание, укрепляющий руку, дающий элементарные знания инструментов и материала. Оба элемента должны находиться между собой в возможно более неразрывной связи».

Гэтая пастанова першай партнарады дае мэтавую ўстаноўку ў справе навучаньня ў першым концэнтры.

І ў гэтым узросьце пытаньне выхаваньня зводзіцца ў асноўным да выхаваньня комуністычнай ідэолёгіі сярод дзяцей.

У гэтай сыстэме комуністычнага выхаваньня даволі значнае месца займае пытаньне політэхнічнай працы, як органічнай часткі комуністычнага выхаваньня.

Выходзячы з таго, што ажыцьцяўленьне комуністычнага выхаваньня магчыма праз удзел дзяцей і юнакоў у вытворчасьці, трэба самым карэнным чынам перабудаваць усю сыстэму выхаваньня ў розных навучальных установах.

Адны формы ўдзелу ў вытворчасьці будуць для студэнтаў ВНУ, ВТНУ, Тэхнікумаў, іншыя формы—для юнакоў, для дзяцей першага концэнтру. Але для ўсіх тыпаў установ будзе агульным тое, што ўвесь процэс перапрацоўкі і фармаваньня новага чалавека, чалавека, узброенага соцыялістычнымі звычкамі працы, будзе пабудован навакол конкрэтнай работы, выходзячы з мэтаў організацыі ўдзелу гэтых установ у вытворчасьці.

Выходзячы з гэтага, І Усебеларускі зьезд па політэхнічнай адукцыі ў сваіх пастановах адзначыў: «організаваць у масавай школе 1-4 групы працоўныя пакоі, якія-б далі магчымасьць азнаёміцца з тэхнікай вытворчасьці (прымітыўная апрацоўка дрэва, мэталю і іншых плястычных матар'ялаў»). Але гэтым ня вычэрпваецца політэхнізацыя школы 1-га концэнтру і масавай школы. Працоўны пакой—адзін са сродкаў, які ва ўсёй сыстэме політэхнізацыі 1-га концэнтру адыгрывае значную ролю. Для ажыцьцяўленьня політэхнічнай падрыхтоўкі дзяцей малодшых груп школа мае цэлы шэраг сродкаў; асноўным з гэтых сродкаў зьяўляецца працоўная дзейнасьць дзяцей на заводзе, у сельскай гаспадарцы, у працоўным пакоі і ў быту. Праз гэтую працоўную дзейнасьць дзеці знаёмяцца з тэхнолёгіяй матар'ялаў,

іх асаблівасьцямі, тэхнікай іх апрацоўкі, набываюць звычкі ў карыстаньні інструмэнтамі і некаторымі даступнымі для гэтага ўзросту, варштатамі і машынамі, пачынаюць прымітыўнае вывучэньне некаторых галін вытворчасьці.

Працоўная дзейнасьць дзяцей павінна насіць вытворчы характар, у выніку чаго дзеці павінны зрабіць тыя ці іншыя рэчы, якія маюць грамадзкую каштоўнасьць і гаспадарчую значнасьць.

Праца павінна быць політэхнічнай, г. зн. праца павінна адпавядаць наступным запатрабаваньням:

1) адпавядаць узросным асаблівасьцям дзяцей, як фізычным, гэтак і псыхічным;

2) дзеці павінны быць зацікаўлены гэтай працай;

3) дапамагчы вывучэньню тэхнолёгіі розных матар'ялаў;

4) дапамагчы вывучэньню інструмэнтаў, прылад і машын, даць дзецям звычкі ў карыстаньні элемэнтарнымі інструмэнтамі;

5) праца павінна падвесьці дзяцей да разуменьня галоўных галін вытворчасьці;

6) праца павінна замацаваць веды і звычкі дзяцей і выхаваць у іх працоўную арганізаванасьць, правільныя прыёмы як у карыстаньні інструмэнтамі, апрацоўцы матар'ялаў, гэтак і ў арганізацыі сваёй працы;

7) праца павінна дапамагчы ў справе фізычнага разьвіцьця дзяцей;

8) у процэсе працы мы павінны выхаваць у дзяцей звычкі колектыўнай працы;

9) праца заўсёды павінна мець грамадзка-карысны напрамак.

Вось патрабаваньні да політэхнічнай працы дзяцей. Але было-б няправільна сказаць, што непасрэднай політэхнічнай працай мы вычэрпваем і політэхнічнае выхаваньне. Праца зьяўляецца аднэй з асноўных частак політэхнічнага выхаваньня, як асноўны сродак.

Але політэхнічная праца павінна быць дапоўнена лябораторнай работай дзяцей па прапрацоўцы цэлага шэрагу політэхнічных і тэхнічных пытаньняў. Уся гэтая праца павінна быць зьвязана як з графічнымі звычкамі дзяцей, гэтак і з экскурсіямі на фабрыкі і заводы, з адпаведнай прапрацоўкай матар'ялу, сабранага на экскурсіі. У некаторых вытворчасьцях дзеці павінны ўдзельнічаць у самой вытворчасьці, у самым вытворчым процэсе (на розных харчовых фабрыках і інш.), у процэсах, якія падыходзяць для гэтага ўзросту.

Для таго, каб сапраўды ажыцьцёвіць політэхнічную школу, патрэбна зьвязаць вучобу з вытворчай і грамадзка-карыснай працай вучняў, г. зн. пабудаваць усю вытворчую працу на падставе вытворчай работы як у прамысловасьці, гэтак і ў сельскай гаспадарцы. Трэба перавесьці ўсю школьную працу на новыя політэхнічныя рэйкі.

У ажыцьцяўленьні гэтых задач значную ролю павінны адыгрываць працоўныя пакоі, мэтаю якіх зьяўляецца быць тым месцам, дзе дзеці школ 1-га концэнтру, ФЗС і пачатковай школы ў колгасах і на вёсцы павінны атрымліваць мажлівасьць разьвіваць свае конструкцыйныя здольнасьці, каб гэты працоўны пакой дапамог вынаходзтву і набыцьцю неабходных тэхнічных навыкаў па ауладаньню элемэнтарнымі інструмэнтамі, па азнаямленьню з тэхнолёгіяй плястычных і іншых матар'ялаў, па азнаямленьню з пабудовай і конструкцыямі паасобных машын, даступных для гэтага ўзросту.

У працоўным пакоі павінны быць рацыянальна арганізавана праца дзяцей. На падставе рацыянальнай арганізацыі

гэтай працы ў самым пакоі школа можа організаваць работу па азнаямленьню дзяцей з рацыяналізаванай пастаноўкай працы ў саўгасах, колгасах, на заводах альбо фабрыках.

Для таго, каб работа ў працоўным пакоі ня мелі ізоляванага характару, нельга прышчапляць дзецям звычкі проста бяз пэўнай мэты, шляхам голых опэрацый, не ствараючы якой-небудзь рэчы, альбо ня ўвязваючы гэта з прыродным і соцыяльным асяродзьдзем. Калі мы даем дзецям працу па мэталю, нельга гаварыць толькі аб тым, як мэталь утвараецца, трэба гаварыць і аб тым, дзе ён здабываецца, якія там прыродныя ўмовы, якое значэньне мае мэталь для ўсёй нашай гаспадаркі, якое месца займае мэталь у індустрыялізацыі нашай краіны і ў пяцігодцы нашага соцыялістычнага будаўніцтва, трэба організаваць збор мэталёвага лому, наладзіць вопыты па тэхнолёгіі мэталю і інш.

Такім чынам праводзіцца знаёмства і з іншымі галінамі нашай вытворчасьці.

Політэхнічную працу трэба ўвязваць з усім комплексам вывучэньня таго ці іншага зьявішча, увязаць з той ці іншай комплекснай тэмай, якую праходзяць у той ці іншай групе.

Адным словам, політэхнічная праца зьяўляецца органічнай часткай вывучэньня працоўнай дзейнасьці людзей, удзелам у гэтай працоўнай дзейнасьці, вывучэньнем прыроднага і соцыяльнага асяродзьдзя.

Працоўны пакой зьяўляецца тэй лябораторыяй, дзе дзіця першага концэнтру можа аформіць тэхнічным і тэхнолёгічным шляхам сваю політэхнічную працу па азнаямленьню з паасобнымі галінамі вытворчасьці, распрацаваць той ці іншы працоўны проект, які выплывае з агульнай комплексна-проектнай тэмы, Наогул мы павінны сказаць, што ўсякі проект павінен адпавядаць наступным запатрабаваньням:

1) мець пэўную мэтавую ўстаноўку, пэўны настрой да выкананьня гэтай працы;

2) мець пэўны плян (схэму) апрацоўкі гэтага проекту;

3) мець сродкі, матар'ял і ведаць шляхі, па якіх трэба ісьці, каб ажыцьцёвіць вызначаны плян і выканаць яго;

4) падлік і кантроль (ці адпавядае праробленая праца мэтавай устаноўцы і пляну і якія недахопы і дасягненьні былі ў гэтай працы).

Вось па якіх прынцыпах павінен быць апрацаваны той ці іншы працоўны проект.

Для большага ўяўленьня, якім чынам політэхнічная праца можа быць увязана з агульнай комплексна-проектнай тэмай, мы прывядзем прыкладны рабочы плян тэмы з 3-га году навучаньня «Наша фабрыка».

*Мэтавая ўстаноўка:* дзеці павінны ўявіць сабе фабрыку, як найлепшую форму організацыі людзкой працы, асноўныя элемэнты, з якіх складаецца буйная вытворчасьць, соцыялістычны характар нашай фабрыкі, што і як выробляе наша фабрыка, організаваць і палепшыць работу ў працоўным пакоі; тэрмін, на які разьлічана тэма, 3 дэкады. Усяго гадзін (уключаючы і гадзіны на працу) 120.

*Плян працы* (схэма): 1. Агульна-організацыйная праца (6 гадзін).

Уводная гутарка: як організуецца праца людзей: саматужнікі-адзіночкі, арцелі, фабрыка. Якія ўражаньні маюць дзеці ад фабрыкі. Соцыялістычны характар нашай фабрыкі, у чым гэта выяўляецца. Распрацоўка сумесна з дзецьмі пляну працы па ўсёй тэме. Разьмеркаваньне дзяцей па зьвеньнях (брыгадах). Агульныя сходы ў сувязі з орга-

нізацыяй дзіцячага жыцьця. У канцы—падлік працы.

2. Назіраньні, экскурсіі, агляды (12 гадзін). Правесьці экскурсію на сваю фабрыку (завод), адну экскурсію для агульнай орыентыроўкі ва ўсёй фабрыцы і рэшта экскурсіі-агляды для больш дэталёвага азнаямленьня з паасобнымі цэхамі, процэсамі, машынамі, організацыяй працы на соцыялістычнай фабрыцы, кіраўніцтвам фабрыкі, партыйнымі і комсамольскімі організацыямі фабрыкі. Мець прадстаўленьне аб тым, як організавана прадпрыемства: склады сыравіны, апалу і гатовых вырабаў, сілавая ўстаноўка, вытворчыя цэхі, як паступова апрацоўваецца сыравіна, якія процэсы апрацоўкі праходзіць сыравіна, якія машыны ёсьць у паасобных цэхах. Пазнаёміцца з падзелам працы на вытворчасьці. Замена ручной працы машынамі, новыя мэтоды працы (конвээр), высьніць, у якіх умовах рабочыя працуюць (асьвятленьне, тэмпэратура, парадак на рабочым месцы, рэгуляваньне працы і адпачынку і інш.). Высьніць, які прамфінплян заводу (фабрыкі), як ён выконваецца, з кім фабрыка спаборнічае, якія вынікі соцспаборніцтва, брак, ці многа прагулаў на фабрыцы і іх прычыны. Высьніць, якія меры прымаюць рабочыя для паляпшэньня працы сваёй фабрыкі (ці ўдзельнічаюць у вытворчых нарадах, ці ўносяцца прапановы па паляпшэньню, ці ёсьць вынаходцы), якія існуюць на фабрыцы рабочыя організацыі: фабком, парт'ячэйка, што яны робяць для паляпшэньня працы, быту, падвышэньня кваліфікацыі. Высьніць, адкуль прывозяць сыравіну і апал для фабрыкі, куды збываюцца продукты. Высьніць мінулае фабрыкі, каму яна належала, як раней, пры капіталістых, жылося рабочым. Рэволюцыйная барацьба рабочых гэтай фабрыкі (забастоўкі, стачкі).

3. *Праца дзяцей—20 гадзін.* Абсталяваньне ў працоўным пакоі кутка (выстаўкі, музэю) сваёй вытворчасьці, пабудова модэляй машын. Паляпшэньне ўмоў работы ў працоўным пакоі: як лепш паставіць сталы, варштаты ў адносінах да сьвятла, праверыць памяшканьне, ці нормальная тэмпэратура, як рацыянальна хаваць матар'ялы, інструмэнты. Правесьці якую-небудзь работу (зрабіць карабкі, палічкі, простыя цацкі) па прынцыпу бесьперпыннасьці ў рабоце з падзелам працы і параўнаць перавагі гэтага мэтоду над звычайным. Паралельна можна праводзіць работу з дрэвам , тэкстылем, паперою звычайнымі мэтодамі, шыць гатовае адзеньне па гатовых выкрайках, рыхтаваць вучэбныя прылады (лінейкі, штатывы), гаспадарчыя рэчы (паліцы, вешалкі і інш.).

4. *Лябораторныя работы—4 гадзіны.* Практычнае азнаямленьне з сыравінай і продуктамі сваёй фабрыкі. Падрыхтаваць тэхнолёгічныя колекцыі схэм паступовасьці ў апрацоўцы сыравіны, нарысаваць схэмы машын, зрабіць модэлі, некаторыя машыны, трансмісіі, мэханізмы.

5. Гутаркі, пытаньні, пісьмовыя працы, лічэньне, скарыстаньне кіно, дыяпозытываў, наглядных прылад (30 гадзін). Гутаркі праводзяцца ў асноўным паводле матар'ялаў, якія атрымліваюць дзеці ў час агляду. Трэба правесьці, прыкладна, наступныя гутаркі: што і як выробляецца нашай фабрыкай (ад сыравіны да фабрыкату); адкуль дастаўляюць сыравіну і апал і куды збываюць продукцыю; як організавана наша фабрыка (яе паасобныя будоўлі, цэхі, склады); як організавана праца на фабрыцы, хто (якія профэсіі рабочых і служачых) працуе, падзел працы, мэханізацыя; што такое продукцыйнасьць працы; якасьць про-

дукцыі; што трэба зрабіць, каб падвысіць продукцыйнасьць працы; што такое прамфінплян, як ён выконваецца; новыя соцыялістычныя формы працы на вытворчасьці: соцспаборніцтва, ударніцтва, рабочае вынаходзтва, удзел у вытворчых нарадах і інш.; рабочыя організацыі на вытворчасьці і іх работа; мінулае нашай фабрыкі, гісторыя рэволюцыйнай барацьбы рабочых з капіталістымі, роля комуністычнай партыі і Леніна ў гэтай барацьбе. Чытаньне адпаведных артыкулаў, апавяданьняў, нарысаў, вершаў. Пісьмовыя працы: пісаньне колектыўных і індывідуальных твораў, апісаць экскурсіі, запіс вынікаў агляду і інш. Матэматычная апрацоўка лічбовага матар'лу аб фабрыцы (колькасьць рабочых і іх разьмеркаваньне ў рабоце, кошт продукцыі, зьніжэньне сабекошту і інш.).

Гутаркі павінны быць запоўнены дыяпозытывамі, альбо кіно-фільмамі на тэмы: «Дзе і як вырабляецца сыравіна для нашай фабрыкі», «Аналёгічныя нашай фабрыцы заводы» і інш.

6. *Графіка і маляваньне—6 гадзін.* Графічная прапрацоўка матар'ялу, які зьбіралі на фабрыцы; схэмы, дыяграмы, малюнкі паасобных машын, пісаньне і маляваньне плякатаў і г. д.

7. Фізкультура і гульні (6 гадзін).

8. Музыка (3 гадзіны).

9. Спэцыяльныя практыкаваньні ў тэхніцы чытаньня, пісаньня і лічэньня (25 гадзін).

10. Грамадзкая работа (за кошт вучэбнай працы—8 гадзін, астатнія—пазашкольным шляхам).

Соцспаборніцтва з бацькамі і рабочымі фабрыкі на скарачэньне прагулаў, браку. Дэмонстрацыя супроць п'янства. Пашырэньне тэхнічнай літаратуры сярод рабочых. Дзяжурствы ў дзіцячым пакоі ў той час, калі жанчыны-работніцы заняты ў лікпункце, альбо іншых навучальных установах Прыцягненьне рабочых да арганізацыі і кіраўніцтва работай у працоўным пакоі. Дапамога фабрыцы ў выкананьні прамфінпляну[1]).

Гэты прыкладны рабочы плян паказвае, як элемэнты політэхнічнай працы ўключаюцца органічна ў комплексна-проектную тэму.

Заданьні, адзначаныя ў разьдзеле 3-4 пляну працы, прапрацоўваюцца проектным мэтодам у працоўным пакоі, дзе дзеці праводзяць цэлы шэраг вопытаў як па тэхнолёгіі матар'ялаў, гэтак і па мэтодах організацыі працы. У працоўны пакой павінна быць перанесена і праца па п. 6—гэта графіка і маляваньне. Там павінны быць і спэцыяльныя прылады для гэтай працы. Па гэтаму-ж тыпу рабочых плянаў павінны быць распрацаваны і астатнія тэмы для ўсіх груп.

Гэтым самым вызначаецца і месца працоўнага пакою ў справе політэхнізацыі. Гэта своеасаблівая лябораторыя-майстэрня, дзе дзеці праводзяць політэхнічную і лябораторна-дасьледчую працу, што выплывае з паасобных тэмаў.

Уся праца ў гэтым пакоі павінна быць організавана па прынцыпу зьвеньняў, альбо брыгад з 5-6 асоб. Кожная брыгада альбо зьвяно працуе паводле пэўных заданьняў, што выплываюць з проектаў асобных комплексных тэм у тым ці іншым кутку.

Працоўны пакой і яго організацыя павінна абгаварвацца на агульных сходах дзяцей, настаўнікаў, рабочых, альбо колгасьнікаў таго прадпрыемства або колгасу, да якога школа прымацавана. Мы павінны дабіцца, каб у гэтым годзе ўжо ня было ніводнай школы без працоўнага пакою.

---

[1]) Асноўны матар'ял рабочага пляну ўзяты з часопісі „Политехнический труд в школе", № 8-9, 30 г., стр. 29.

## 2. Прынцыпы абсталяваньня і організацыі працоўнага пакою

Пры гэтым далучаюцца сьпісы неабходных інструмэнтаў і варштатаў у 3 варыянтах для паасобных тыпаў школ: I максымальны—гэты варыянт распрацаваны для такой школы, якая мае магчымасьць абсталяваць 2 пакоі: адзін для працы з шумлівым матар'ялам (жалеза, мэталь, дрэва), другі для працы з няшумлівым матар'ялам( папера, тэкстыль, гліна і г. д.); II варыянт распрацаваны для такога тыпу школы, якая можа абсталяваць для працоўнай дзейнасьці толькі адзін пакой; III варыянт распрацаваны для школ аднакомплектваых і двухкомплектавых, дзе з прычыны недахвату памяшканьня політэхнічная праца будзе адбывацца не ў асобным пакоі, а ў тым-жа, дзе займаюцца.

Уся праца ў пакоі організуецца наступным чынам: у пакоі ёсьць спэцыяльныя куткі-габінэты для паасобных відаў прамысловасьці. Такіх куткоў-габінэтаў у кожным пакоі павінна быць 7:

*1-ы куток—працы па дрэву.* У гэтым кутку павінны быць сконцэнтраваны ўсе інструмэнты па апрацоўцы дрэва, будаўнічы матар'ял і інш. матар'ялы. Тут павінны стаяць неабходныя варштаты для работы па дрэву.

*2-гі куток—электра- і радыё-тэхнічны.* У гэтым кутку концэнтруецца неабходны матар'ял па радыё і электра-тэхніцы. Тут павіны быць электротэхнічныя прылады, каб дзеці маглі імі карыстацца, матар'ял, інструмэнты і неабходныя модэлі для азнаямленьня з прынцыпамі электрычнасьці і радыё-тэхнікі. Па гэтым жа прынцыпе будуюцца і астатнія куткі-габінэты; 3) куток па мэталю, 4) па конструкцыі, тэхнолёгіі, модэляваньню і рысаваньню; гэты куток уключае працу і па вынаходзтву і працу па заданьнях з тае ці іншай тэмы; 5) куток па тэкстылю, шыцьцю і вязаньню, 6) куток па картону і паперы і апошні 7) жывы куток.

Увесь матар'ял, інструмэнты і прылады павінны быць разьлічаны на тое, каб адначасова маглі працаваць 5-6 асоб. У тых школах, дзе ёсьць асобныя 2 пакоі, усю работу ў працоўным пакоі можна організаваць ва ўсіх куткох-габінэтах аднача́сова. У тых школах, дзе ёсьць адзін працоўны пакой, альбо зусім няма асобнага пакою, трэба організаваць работу так, каб працавалі аднача́сова альбо ў тых куткох, дзе ёсьць шумлівы матар'ял, альбо ў тых куткох, дзе ёсьць няшумлівы матар'ял, бо аднача́совая праца ва ўсіх куткох будзе перашкаджаць.

Для таго, каб распачаць організацыю такога пакою, неабходна перш за ўсё на агульным сходзе бацькоў і рабочых прымацаванай фабрыкі альбо колгасьнікаў прымацаванага колгасу паставіць даклад «аб мэтах працоўнага пакою, і чым кожны рабочы альбо колгасьнік можа дапамагчы ў яго організацыі». Пасьля абгаварэньня гэтага дакладу неабходна накіраваць увагу сходу, каб апошні вылучыў добраахвотную брыгаду з рабочых альбо колгасьнікаў, якая-б дапамагла абсталяваць пакой і кіраваць ім.

У тых выпадках, калі нельга дастаць усе гэтыя інструмэнты, што адзначаны ў сьпісе, трэба, каб добраахвотная брыгада сабрала частку інструмэнтаў ад рабочых, колгасьнікаў, ад заводу альбо колгасу.

Калі частка інструмэнтаў і прылад ёсьць, трэба, не чакаючы, пакуль будзе увесь, распачаць організацыю аднаго альбо некалькіх куткоў-габінэтаў, паступова пашыраючы іх.

Пры організацыі працоўнага пакою трэба сачыць за тым, каб інструмэнты і прылады адпавядалі ўзросту дзяцей, каб расстаноўка мэблі і варштатаў адпавядала ўмовамі гігіены. Вось тут неабходна

дагаварыцца з дзіцячым доктарам, каб ён дапамог у справе організацыі і абсталяваньня гэтага пакою, каб ён сачыў за работаю. Доктар павінен час-ад-часу наведваць заняткі дзяцей у гэтым пакоі і даваць паказаньні, як трэба стаяць у час работы, як карыстацца інструмэнтамі і прыладамі. Неабходна распрацаваць правілы стаяньня, карыстаньня інструмэнтамі ў паасобных кутках. Гэтыя правілы павінны быць вывешаны ў працоўным пакоі на відным месцы. Доктар сумесна з пэдагогамі і дзяцьмі павінен распрацаваць гэтыя правілы.

Зразумела, што ўся організацыя працоўнага пакою павінна быць справай саміх дзяцей. Дзіцячае самакіраваньне павінна кіраваць усёй працай як у галіне організацыі самога пакою, гэтак і ў часе працы ў пакоі. Дзеля таго, каб дзеці былі зацікаўлены працаю, неабходна растлумачыць значэньне гэтага пакою для іх-жа няхай дзеці самі прапануюць схэму організацыі кіраўніцтва гэтым пакоем. Схэматычна мажліва вызначаць наступныя абавязкі і функцыі, якія павінны быць у працоўным пакоі: загадчыкі куткамі-габінэтамі. Загадчык кутка павінен скласьці сьпіс інструмэнтаў у сваім кутку, ведаць кошт і памер, ён-жа павінен у час працы выдаваць і прымаць матар'ялы і інструмэнты. Гэтыя загадчыкі павінны працаваць ня больш 9 дэкад. Акрамя загадчыкаў куткоў, павінны быць у кожным кутку табэльшчыкі, якія складаюць табэль працы, колькі гадзін патрачана і што зроблена. Табэльшчыкі вылучаюцца з таго ж зьвяна, якое працуе ў той ці іншы час у працоўным пакоі. Акрамя таго, павінен быць вылучаны адзін з дзяцей, які загадвае «гатовымі вырабамі». Тыя ці іншыя рэчы, якія зроблены ў працоўным пакоі, могуць быць разьмеркаваны так: частка іх пойдзе для патрэб школы, частка іх можа пайсьці для паляпшэньня быту дома, напрыклад: паліцы для розных рэчаў, мыла, зубнога парашку, рушніка ў дзіцячым кутку дома. Частка гатовых вырабаў пойдзе для патрэб тае ці іншае дзіцячай установы, з якой зьвязана школа, напрыклад, цацкі для дзіцячага саду і ясьляў, а частка пойдзе як матар'ял працы школы ў музэй. Загадчык «гатовымі вырабамі» павінен мець сваю ведамасьць, альбо сьпіс на кожную рэч. У гэтым сьпісе павінна быць паказана назва рэчы, хто яе зрабіў, для якой мэты і куды гэта рэч накіравана. На астатнія рэчы для музэю загадчык павінен зрабіць карткі пад №, дзе была-б паказана назва рэчы, кім зроблена, колькі на гэта патрачана гадзін.

Вось тыя асноўныя функцыі, якія мажліва выканаць у гэтым працоўным пакоі. Але гэта не зьяўляецца абавязковым: дзеці самі могуць пакінуць за сабою тыя ці іншыя функцыі і абавязкі, іншыя дабавіць, ад іншых адмовіцца. Неабходна, каб гэтыя функцыі ня былі навязаны дзецям, а каб самі дзеці зразумелі сэнс і каштоўнасьць тэй ці іншай функцыі, мэтазгоднасьць гэтых функцый. Калі дзеці зразумеюць усё гэта, тады і адказнасьць і адносіны да сваіх абавязкаў будуць добрымі, будзе зацікаўленасьць дзяцей гэтай працай.

Апошнім у гэтай справе зьяўляецца вызначэньне часу для працы ў пакоі. Неабходна вучэбную працу організаваць так, каб ня менш 6 гадзін дэкадных дзеці 1-й і 2-й групы працавалі ў працоўным пакоі і 8 гадзін—3 і 4 групы. Працу мажліва організаваць так: альбо кожнае зьвяно 1-й і 2-й групы працуе 3 разы ў дэкаду ў працоўным пакоі, кожны раз у якім-небудзь кутку, альбо яны працуюць у кожным кутку да таго часу, покуль ня зробяць якую-небудзь рэч. Потым яны пераходзяць у другі куток.

Работа ў тым ці іншым кутку залежыць ад распрацоўкі тэй ці іншай тэмы. Гэта залежыць ад умоў працы. Праца ў кутках павінна быць падвойнага характару: індывідуальная, калі само дзіця адно выраблые тую ці іншую рэч, альбо калектыўная, калі ёсьць падзел працы ў вырабе тэй ці іншай рэчы. Магчыма, што час-ад-часу прыдзецца дзецям аднаго зьвяна працаваць у розных кутках.

Кіраўніцтва ўсёй гэтай працай павінен узяць на сябе настаўнік. Мы лічым, што ў першым концэнтры няма сэнсу запрашаць інструктара. Што датычыцца 3 і 4 груп, дык яны, акрамя работы ў працоўным пакоі, могуць і павінны ўжо час-адчасу працаваць і ў майстэрні школы і на некаторых вытворчасьцях.

Акрамя сыстэматычнай работы ў працоўным пакоі, якая павінна быць уключана ў вучэбныя гадзіны, працоўны пакой павінен быць адчынены і ў вячэрнія гадзіны для клюбнай працы, дзе дзеці займаюцца самастойна вынаходзтвам, конструкцыямі, рысаваньнем і інш. У клюбныя вячэрнія гадзіны могуць у гэтым працоўным пакоі працаваць розныя тэхнічныя і сельска-гаспадарчыя гурткі дзяцей. Для кіраўніцтва гэтай працай у клюбныя гадзіны, акрамя настаўніка, павінны быць прыцягнуты і рабочыя, колгасьнікі з мэтай консультацыі вучняў як па лініі вынаходзтва, гэтак і па лініі разьвіцьця іх конструкцыйных здольнасьцяй.

Працоўны пакой організуе для дзяцей вечары тэхнічнай «сьмякалкі» па тых ці іншых пытаньнях «тэхнікі і быту» (вынаходзтва і дэмонстраваньня вынаходак, гісторыі вынаходзтва паасобных машын і г. д.). Працоўны пакой павінен ужо з малодшых груп мобілізаваць увагу дзяцей на пытаньнях новай тэхнікі, організацыі выставак зробленых рэчаў, конструкцый і вынаходак.

Толькі наладзіўшы работу такім чынам, працоўны пакой адыграе значную ролю ў справе політэхнізацыі. Дзеля таго, каб работа ў працоўным пакоі заўсёды была правільна організавана, каб стымуляваць дзяцей для паляпшэньня далейшай працы, неабходна ўвесьці ў сыстэму вытворчыя нарады дзяцей паасобна па 1-й і 2-й, 3-й і 4-й групах. На гэтых вытворчых нарадах трэба абгаварыць вынікі працы за пэўны час, недахопы і дасягненьні ў працы, як організавана праца, як пастаўлена консультацыя ў працоўным пакоі.

На гэтых-жа нарадах паставіць індывідуальныя інформацыі дзяцей аб вынаходзтвах, аб конструкцыях, зробленых дзяцьмі, справаздачы кіраўнікоў куткамі і музэямі і іншых працаўнікоў пакою. Пажадана, каб гэтыя вытворчыя нарады адбываліся сумесна з рабочымі тэй фабрыкі альбо колгасу, да якіх прымацавана школа. Час-ад-часу пажадана, каб гэтыя вытворчыя нарады пераносіць на завод, альбо ў колгас.

Вось тыя асноўныя прынцыпы як організацыі, гэтак і абсталяваньня працоўнага пакою.

Наша задача, каб ніводная школа ня была без працоўнага пакою. Такія пакоі могуць быць і будуць організаваны.

ваць натуральныя моўныя жанры ў сувязі з узростам вучняў і агульнай накіраванасьцю іх інтарэсаў.

Адсюль у сучасных умовах вялікае значэньне набывае наогул культура мовы, набліжэньне заняткаў па разьвіцьцю мовы да жыцьця і яго запатрабаваньняў, канчатковае зьнішчэньне рэштак схолястыкі і вэрбалізму ў гэтым напрамку. Усё гэта сьцісла зьвязана з агульным імкненьнем ажывіць самыя мэтоды і прыёмы выкладаньня. С. Каменеў у арт. «Социалистическое соревнование, как метод воспитания», «Вопросы марксистской педагогики, изд. Работ. Просвещ., 1930 г. дае наступнае тлумачэньне паняцьця сучаснае пэдагогікі. «Пэдагогіка эпохі соцыялістычнае рэконструкцыі СССР ёсьць навука аб найбольш эфэктыўных мэтодах пераапрацоўкі людзей ва ўсебакова разьвітых будаўнікоў соцыялізму, шляхам аб'яднаньня разумовае працы з політэхнічным выхаваньнем на агульным грунце соцыялістычнага будаўніцтва».

Політэхнічная школа перастае зараз быць школай у старым сэнсе, яна паступова робіцца ўдзельніцай агульнага соцыялістычнага будаўніцтва. Адначасова такім удзельнікам зьяўляецца і мэтодыка кожнага прадмету выкладаньня: яна павінна павярнуцца тварам да запатрабаваньняў грамадзкасьці, вызначыць конкрэтныя корэктывы, якія неабходна ўнесьці ў прапрацоўку матар'ялу. Мэтодыка павінна прасякнуцца тэмпамі і стылем нашага жыцьця, узбройваць вучня карыснымі навыкамі, рабіць яго больш здольным і падрыхтаваным, каб актыўна і сумленна выконваць тыя вялізарныя абавязкі, якія ставіць наша сучаснасьць.

# НА ФРОНЦЕ КУЛЬТУРНАЙ РЭВОЛЮЦЫІ

**А. Платун**

## Упарта змагацца за выкананьне задач культурнай рэволюцыі

Наша краіна ўступае ў трэці, рашаючы год пяцігодкі. Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі мы дабіліся вялізарнейшых посьпехаў як на экономічным, так і на культурным фронце. Трэці, рашаючы год пяцігодкі зьяўляецца таксама рашаючым і для культурнай пяцігодкі. Агульнае соцыялістычнае наступленьне на ўсім фронце і ў зьвязку з гэтым абвастрэньне клясавай барацьбы патрабуе далейшага ўздыму культурнага ўзроўню працоўных мас і ставіць ва ўсю шырыню пытаньне аб падрыхтоўцы кадраў пролетарскіх спэцыялістых.

Пастаўленыя партыяй задачы культурнай рэволюцыі знайшлі свой адбітак у Савецкай Беларусі. На сёньняшні дзень, ня гледзячы на паасобныя недахопы, якія ёсьць у справе культурнага будаўніцтва, мы мем рад *вялізарнейшых дасягненьняў*. Для прыкладу прывядзем наступныя лічбы. У 1924-25 г. мы мелі ўсяго вучняў у розных зьвеньнях школ 295.606 чал., у 1927-28 г. гэта лічба павялічылася да 503.811 чал., а на 1931 г. мы вызначылі контрольную лічбу ахопу ўсімі зьвеньнямі школ—1,5 млн. чал. У даваенны час, г. зн. у 1914 г., выдаткоўвалася на справу народнай асьветы каля 15 млн. руб., у БССР жа на 1931 г. запроектавана выдаткаваньне *каля 150* млн. рублёў.

Рабочая кляса, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, упарта ліквідуе спадчыну мінулага, няпісьменнасьць, якую нам пакінула самаўладзтва ў нячуваных разьмерах. 65 проц. працоўнага насельніцтва было няпісьменных. Мы за гэтыя гады зьменшылі няпісьменнасьць больш чым на 40 проц. у параўнаньні з тымі лічбамі, якія нам засталіся ад самаўладзтва. У гэтым годзе мы маем каля 16 проц. няпісьменных. На 1931 г. запроектавана ліквідаваць поўнасьцю няпісьменнасьць. Савецкая Беларусь першая з саюзных рэспублік увяла ўсеагульнае абавязковае навучаньне. Ужо першыя вопыты яго паказалі, што мы маем буйныя посьпехі ў справе ажыцьцяўленьня ўсеагульнага абавязковага навучаньня. Мы будзем мець у 1931 г. 7.590 пачатковых школ з колькасьцю ахопленых вучняў 648.000. Мы паляпшаем матар'яльнае забесьпячэньне школ.

У нас ёсьць 12 вышэйшых навучальных установ, 65 тэхнікумаў па розных спэцыяльнасьцях, вялікая колькасьць фабзавучаў і профтэхшкол. Разгорнута сыстэма дадатковага навучаньня--зячэрніх курсаў, школ і г. д. Усяго ахоплена вышэйшай і сярэдняй сыстэмай профтэхасьветы звыш 30.000 чал. У параўнаньні з лічбамі 1914-15 г. мы бачым *нячуваны рост вышэйшай і сярэдняй асьветы ў*

*БССР*. Напрыклад, у 1914-15 г. гэтай жа сыстэмай было ахоплена 1.200 ч., па бюджэце царскай уладай адпускалася штогод 5 млн. р. Мы, замест 1.200 вучняў сярэдняй і вышэйшай школы, маем 30.000 ч.; замест 5 млн. р.—30 млн. р. На 1931 год запроектавана ахапіць гэтымі ўстановамі звыш *48.000 чал*.

Побач з гэтым аддаецца вялікая ўвага паляпшэньню матар'яльнага становішча студэнцтва. Процант стыпэндый з году ў год падвышаецца. Ужо ў гэтым годзе мы забясьпечваем стыпэндыямі каля 65% усіх студэнтаў. Разьмер стыпэндыі значна вышэй, чым у мінулым годзе.

У сярэднім стыпэндыя зараз складае каля 70 руб. у месяц, замест 40-50 руб. у мінулым годзе. Пастаўленая задача, пролетарызацыя вышэйшых навучальных установ, шпарка ажыцьцяўляецца. У гэтым годзе процант рабочых і іх дзяцей у вышэйшых і сярэдніх навучальных установах складае каля 55% агульнага ліку студэнтаў, у той час як у 1927 годзе процант рабочых па ВНУ быў 14,1.

Побач з разгортваньнем дзённай рабочай асьветы мы таксама разгортваем шырокую сетку вячэрняй рабочай і партыйнай асьветы. Даволі адзначыць, што гэтай сыстэмай мы ахапілі звыш 25.000 чал. Растуць вячэрнія рабфакі, на якіх займаецца 6.500 чал., а на 1931 год запроектавана ахапіць звыш 12.000 чал.

Ня гледзячы на значны рост вышэйшых і сярэдніх навучальных установ і рост контынгенту вучняў, усё-ж мы ня можам на сёньняшні дзень цалкам забясьпечыць соцыялістычнае будаўніцтва патрэбнымі нам пролетарскімі спэцыялістымі. Толькі да канца пяцігодкі мы будзем мець забесьпячэньне кадрамі па прамысловасьці і сельскай гаспадарцы толькі на 50-55 проц. Барацьба за пролетарскія кадры—надзвычайна вострае пытаньне. Нам зараз-жа трэба ўжыць усе меры для таго, каб ліквідаваць прарывы ў падрыхтоўцы кадраў. Мы павінны ўзяць больш шпаркія тэмпы, чым гэта было дагэтуль, у падрыхтоўцы пралетарскіх кадраў ня толькі праз сталыя навучальныя ўстановы, але і праз каротк-катэрміновыя курсы, школы і г. д. Найбольш небясьпечнае месца ў падрыхтоўцы кадраў—гэта пэдагогічныя кадры. Мы фактычна стаім перад пагрозай зрыву нашых плянаў усеагульнага абавязковага навучаньня, калі ня прымем усіх мер для таго, каб падрыхтаваць патрэбную колькасьць пролетарскіх пэдагогічных кадраў.

Ажыцьцяўленьне задач партыі ў культурным будаўніцтве немагчыма бяз упартай барацьбы з клясава-варожай ідэолёгіяй, якая праяўляецца ў паасобных школах і ў паасобных зьвеньнях народнай асьветы. Мы мелі рад выпадкаў, калі нацыянал-дэмократы фактычна сталі на чале паасобных зьвеньняў культурнага будаўніцтва. Вялікадзяржаўныя шовіністыя тыпу проф. Крукава прапагандавалі клясава-варожыя тэорыі з катэдры савецкай школы. Клясавы вораг імкнуўся распаўсюдзіць свой уплыў на моладзь з тым, каб адарваць яе ад задач соцыялістычнага будаўніцтва, і гэта яму ў вядомай меры ў паасобных мясцох удавалася. Гэта абавязвае нас з усёй бальшавіцкай пільнасьцю сачыць за манэўрамі клясавага ворага, даючы рашучы адпор усякім яго вылазкам. Барацьба з рэакцыйна буржуазнай ідэолёгіяй, барацьба за пролетарскі зьмест навучаньня зьяўляецца асноўнай умовай прасоўваньня наперад па шляху культурнай рэволюцыі. Трэба павесьці рашучую барацьбу з опортуністычнай недаацэнкай задач культурнай рэволюцыі. Мы павінны да канца выкрываць усю варожасьць

і шкоднасьць такіх настрояў, што нібы культурная рэволюцыя зьяўляецца трэцярадным пытаньнем. Ажыцьцяўленьне вялікіх задач соцыялістычнага будаўніцтва цесна зьвязана з узьняцьцем культурнай рэволюцыі ў шырокіх масах працоўных. Тэмпы культурнага будаўніцтва павінны быць падцягнуты да тэмпаў гаспадарчага будаўніцтва. Галоўным у гэтых пытаньнях павінна зьявіцца правядзеньне абавязковага ўсеагульнага навучаньня, ліквідацыя няпісьменнасьці і ўпартае змаганьне за падрыхтоўку пролетарскіх спэцыялістых. Па гэтым шляху мы павінны ісьці пад кіраўніцтвам нашай партыі.

---

В. Рудніцкі

# Роля і задачы райінспэктуры ў сучасны момант

Дзякуючы нязвычайнай актыўнасьці рабочае клясы, колгасьнікаў, беднаты і серадняцтва мы маем вялізарныя дасягненьні на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва, з якімі мы ўступаем у трэці, рашаючы, год пяцігодкі, шпаркае прасоўваньне наперад.

Новы прыліў колгасьнікаў сьцьвярджае, што мы самым энэргічным спосабам вядзем апошнюю і рашучую бойку з капіталістычнымі элемэнтамі ў нашай краіне. Гэты рашучы наступ адбываецца настолькі шпарка, што мы ўжо шчыльна падыходзім да задач канчатковай ліквідацыі кулака, як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі.

Актыўнасьць шырокіх пролетарскіх і асноўных сялянскіх мас расьце і ўзмацняецца з кожным днём.

Уся гэта нарастаючая актыўнасьць організуецца і накіроўваецца ў належным напрамку ўсім апаратам пролетарскай дыктатуры. І ў справе народнай асьветы апарат павінен стаць організатарам масы, памятаючы, што толькі з шырокім удзелам масы ва ўсёй асьветнай рабоце ён можа стаць сапраўдным штабам культурнай рэволюцыі.

Работу органаў нарасьветы, асобных устаноў і асобных кіруючых працаўнікоў трэба перавесьці на вышэйшую ступень, кіраўніцтва разам з шырокімі масамі будаўнікоў соцыялізму, пры іх непасрэдным удзеле ў будаўніцтве і кіраваньні справамі асьветы, злучыць курс на адзінаначальства з шырока-грамадзкім характарам кіраваньня.

Уцягненьне масы ў работу культэстафэты, організацыя, згодна ініцыятыве рабочых асобных прадпрыемстваў, 8 лістапада г. г. суботніку дапамогі ўсеагульнаму навучаньню,—усё гэта гаворыць за тое, што актыўнасьць навакол пытаньня культурнага будаўніцтва, інтарэс да гэтых пытаньняў на многа вырасьлі.

Нам, працаўніком народнае асьветы, неабходна здолець ахапіць, організаваць і стаць на чале гэтага масавага руху наўкола пытаньняў культуры. Наша задача—кіраваць, організоўваючы сілы і сродкі.

Падрыхтоўка новых кадраў будаўнікоў соцыялізму, падвышэньне кваліфікацыі працуючых, іх палітычнае, культурнае і тэхнічнае ўзбраеньне, організацыя для ўдзелу ў соцыялістычным бу-

даўніцтве асьветнай сыстэмы і праз яе мас пролетарыяту, выхаваньне масы ў духу марксызму і ленінізму, ідэолёгічнае і програмна-мэтодычнае кіраваньне ўсёй культурна-асьветнай работай, адзінае плянаваньне ўсяе культурнай работы, правільная расстаноўка культурных сіл і найлепшае іх выкарыстаньне, політэхнізацыя школы, усеагульнае навучаньне і ліквідацыя няпісьменнасьці—вось, коратка, тыя асноўныя социяльныя функцыі, якія павінны ляжаць у аснове дзейнасьці органаў нарасьветы, і якія павінны быць цесна ўвязаны з агульным плянам будаўніцтва социялізму ў нашай краіне.

Гэтыя социяльныя функцыі высоўваюць новыя запатрабаваньні да нашай інспэктуры.

Што прадстаўляе з сябе наш сучасны раённы інспэктор?

Гэта чалавек, які займаецца рознымі дробніцамі: перапісвае паперкі, разьмяркоўвае памяшканьні, інвэнтар, апал і г. д. Ён адарваны ад пролетарскай масы.

Патрэбен хуткі, карэнны пералом у рабоце інспэктора нарасьветы і ў адносінах да яго на мясцох. Ліквідацыя акруг, перанос цэнтру цяжару кіраўніцтва НА ў раён ускладае яшчэ большую адказнасьць на райінспэктароў.

Кім павінен быць наш сучасны раённы інспэктор?

Ён павінен быць: а) політыкам і організатарам народнае асьветы; калі ён будзе добрым марксыстым, добрым масавіком, то ён лягчэй за ўсё зможа разабрацца ў новых формах работы; б) павінен ведаць пэдагогічную справу, быць мэтодычна пісьменным, каб стаяць на цэлую галаву вышэй за настаўніка і здолець дапамагчы яму ў працы; в) павінен быць зусім компэтэнтным чалавекам ва ўсіх пытаньнях народнае асьветы, у пытаньнях экономікі і плянаваньня.

Карацей, інспэктор—гэта масавік, жвавы організатар, політычна і вытворча высококваліфікаваны, плянава і экономічна компэтэнтны працаўнік.

У яго функцыі павінны ўваходзіць:

а) організацыя шырокага рабочага, колгаснага і батрацка-бядняцкага актыву наўкола асноўных проблем культурнага будаўніцтва;

б) плянаваньне культурнай работы ў раёне, якое грунтуецца на дырэктывах ураду і на запатрабаваньнях раёну;

в) контроль за выкананьнем сельсаветамі і асьветустановамі дырэктыў партыі і ўраду па пытаньнях нарасьветы;

г) інструктаваньне працаўнікоў устаноў шляхам скліканьня конфэрэнцый, нарад, стварэньня мэтодычных баз, апорных школ, хат-чытальняў і г. д., шляхам наведваньня ўстаноў, з мэтаю інструктажу, з прыцягненьнем да гэтай справы актыву асьветнікаў і ўсіх зацікаўленых працаўнікоў.

Ці павінен інспэктор карыстацца адміністрцыйнымі правамі?

Гэтае складанае пытаньне разьвязаць палажэньнем агульнага характару немагчыма.

Пытаньне трэба ставіць аб характары і зьмесьце адміністрацыйных правоў інспэктора. Бязумоўна, што ў зьмест разуменьня «організатар» уваходзяць элементы адміністраваньня.

Цяжка ўявіць сабе такое становішча, калі інспэктор ня можа і не павінен зьнішчаць у парадку адміністрацыйнага ўмешваньня той ці іншы недахоп у організацыі работы.

Але, зразумела, непасрэднымі адміністрацыйнымі правамі (прызначэньне, перамяшчэньне працаўнікоў, звальненьне, загады па адміністрацыйна-гаспадарчай

лініі) інспэктор карыстацца не павінен. Гэта справа РВК. Іначай інспэктор праз гэта ня можа выконваць непасрэдную работу па пэдагогічнаму і мэтодычнаму кіраваньню.

Ці трэба дзяліць райінспэктароў на соцвыхаўскага і палітасьветнага інспэктора?

Памойму, ня трэба. Такое дзяленьне ўносіць блытаніну, паралелізм. Выяжджаючы на вёску, нельга займацца толькі палітасьветнымі альбо соцвыхаўскімі справамі.

Трэба браць цэлы комплекс культурнага абслугоўваньня вёскі. Раённая інспэктура павінна быць інтэгральнай. Адзін з інспэктароў павінен быць старэйшым, адказным за ўсю работу нарасьветы раёну. Раён павінен быць падзелены на падраёны, згодна ліку інспэктароў (2-3). Гэта дасьць магчымасьць найлепшага кіраваньня і найбольшага ўцягненьня шырокай масы працоўных у справу контролю і кіраваньня работай нашых устаноў.

Паўстае пытаньне аб неабходнасьці стварэньня організаванага ядра грамадзкасьці пры нашых раённых апаратах, з мэтаю аб'яднаньня кіраваньня ўсёй асьветнай работай у раёне і аб'яднаньня ўсяе работы па стварэньню адзінага культпляну.

Пры РВК неабходна стварыць саветы культурнага будаўніцтва, у склад якіх павінны ўвайсьці прадстаўнікі партыйных, савецкіх, коопэрацыйных, комсамольскіх і профэсіянальных організацый, саўгасаў і калгасаў, заводаў і фабрык, беднаты і актыўнага серадняцтва. Савет культбудаўніцтва павінен разглядаць і зацьвярджаць адзіны плян культасьветнай работы ў раёне, выяўляць і організоўваць грамадзкія погляды наконт пытаньняў народнае асьветы, даваць практычную дапамогу інспэктуры нарасьветы ў яе працы, а таксама кіраваць сельскімі саветамі культурнага будаўніцтва.

Пытаньнем наконт стварэньня гэтых саветаў мы яшчэ ні ў цэнтры, ні на мясцох не займаліся, між тым пытаньне гэта зараз набывае асаблівую важнасьць.

Масавы культпаход не павінен скончыцца стартам культэстафэты. Трэба, каб ён працягваўся, трэба. каб раённыя штабы, сельскія тройкі на прадпрыемствахператварыліся ў саветы культурнага будаўніцтва і каб яны працягвалі разгорнутую культэтсафэтную работу.

Райінспэктура не павінна прапусьціць гэтага моманту. Яна мусіць стаць на чале гэтага масавага руху і організаваць масу для далейшай работы.

Цяпер я перайду да пытаньняў форм і мэтодаў работы інспэкцыі. Як правіла, трэба паставіць перад райінспэктурай задачу абсьледваньня і інструктажу ў працягу навучальнага году ўсіх навучальных устаноў раёну.

Гэтыя абсьледваньні павінны насіць характар грамадзкіх аглядаў, яны павінны праводзіцца брыгадамі, якія ствараюцца з прадстаўнікоў партыйных, профэсіянальных і комсамольскіх організацый, сэкцыі нарасьветы, гарадзкіх і сельскіх саветаў, рабочых, колгасьнікаў і настаўніцтва, а таксама добраахвотных груп.

Трэба організаваць работу брыгад так, каб кожны брыгадзір праводзіў вызначаную частку работы па абсьледваньню.

Брыгадная форма абсьледваньня ўцягвае грамадзкасьць у справу культурнага будаўніцтва, дапамагае стварэньню навакол абсьледуемай установы

грамадзкага актыву, паскарае самы працэс абсьледваньня, пашырае і паглыбляе яго.

Неабходна раней папярэджваць установы, якія павінны быць абсьледваны, каб ня ўносіць бязладзьдзя, раскіданасьці раптоўным налётам. Тут няма чаго баяцца, што пасьпеюць схаваць «канцы ў ваду», пасьпеюць замазаць недахопы. Глыбокае абсьледваньне заўсёды выкрывае ўсе недахопы і прарывы, якбы спрытна яны ні замазваліся.

Перад абсьледваньнем трэба сабраць колектыў працаўнікоў, колектыў вучняў, інформаваць іх аб мэтах і задачах абсьледваньня, азнаёміць з плянам абсьледваньня, уцягнуць найбольш актыўную частку гэтых колектываў у работу па абсьледваньню. Яны і дапамогуць і самі пераканаюцца ў недахопах і дасягненьнях свае работы

Трэба, каб кожнае абсьледваньне зараней было добра прадумана, каб яно праходзіла па зараней выпрацаваных плянах, схэмах, каб кожны ўдзельнік брыгады ведаў сваё месца ў гэтай рабоце і добра ўяўляў сабе свае абавязкі. Інструктаж інспэктора брыгады адыгрывае вялізарнейшую ролю. Брыгады—гэта грамадзкая інспэктура. Яе нам трэба стварыць абавязкова.

Па сканчэньні абсьледваньня брыгада абгаварвае вывады работы асобных брыгадзіраў, зноў склікае колектывы настаўнікаў і вучняў (разам або асобна, гэта як патрабуе ход самае справы), робіць даклад аб выніках абсьледваньня.

Тут мы часта атрымліваем і докумэнтальныя, вельмі цікавыя матар'ялы, якіяколечы тлумачэньні няясных для брыгады момантаў. Тут жа даюцца паказаньні, як працаваць далей.

Пасьля гэтага вывады трэба абгаварыць на пасяджэньні бюро парт'ячэйкі, якая абслугоўвае даную ўстанову, у комсамоле і на прэзыдыуме сельсавету (або гарсавету, калі гэта ў горадзе). Трэба дасягнуць, каб тут жа былі прыняты прапановы брыгады, каб усе заўважаныя недахопы былі выпраўлены ў найхутчэйшы час.

Трэба дабіцца таго, каб брыгада не канчала свае дзейнасьці абсьледваньнем. Трэба, каб усе брыгадзіры—грамадзкія працаўнікі (грамадзкія інспэктары—таксама) замацаваліся за гэтаю ўстановаю з тым, каб яны зьдзяйсьнялі і ў далейшым наступны кантроль за выкананьнем зробленых брыгадаю прапаноў, каб садзейнічалі выкананьню іх і зьяўляліся зьвяном, якое зьвязвае ўстановы нарасьветы з шырокай пролетарскай грамадзкасьцю. Брыгадзіры, прадстаўнікі грамадзкасьці, мусяць зрабіць справаздачу аб сваёй працы па абсьледваньню перад организацыямі, якія вылучылі іх. Гэта таксама зьяўляецца сродкам прыцягненьня ўвагі масы да пытаньняў культурнага будаўніцтва.

Ва ўстанове, якая абсьледвана, брыгада, кіруемая інспэкторам, павінна пакінуць у пісьмовай форме свае вывады і пропозыцыі.

Організацыя пэдагогічнага і мэтодычнага кіраваньня асьветнымі ўстановамі праводзіцца інспэктарам таксама з дапамогаю падраённых і раённых нарад загадчыкаў устаноў, падраённых і раённых конфэрэнцый асьветнікаў, раённых і падраённых базавых (апорных) устаноў. Таму організацыя такіх устаноў, стварэньне нормальных умоў для іх работы, забесьпячэньне іх кваліфікаванымі працаўнікамі і неабходнымі сродкамі на бягучыя выдаткі зьяўляецца безадкладнай нашай задачай. Райінспэктор

лавінен шчыльна зьвязацца з работай гэтых установ і праводзіць належнае грамадзкае палітычнае кіраваньне імі.

Масавы інструктаж мае вялікае значэньне.

Канчаючы, я хачу ў некалькіх словах спыніцца на якасным складзе нашай раённай інспэктуры і захадах да якаснага паляпшэньня яе.

Некаторыя даныя, якія ёсьць, паказваюць, што партыйная праслойка інспэктароў соцвыху даходзіць да 90%.

Большасьць соцвыхаўскіх інспэктароў (да 80%) маюць сярэднюю адукацыю.

Райінспэктура політасьветы на 100% укомплектавана партыйцамі, але 80% інспэктароў маюць ніжэйшую адукацыю.

Склад інспэктуры, асабліва політасьветнай, вызначаецца максымальнай цякучасьцю.

Прычынамі недастатковай кваліфікацыі і вельмі вялікай цякучасьці зьяўляецца недастатковае матар'яльнае і прававое палажэньне інспэктуры, а таксама выпадковасьць падбору гэтай катэгорыі працаўнікоў.

У межах узмацненьня складу раённай інспэктуры і стварэньня ўмоў для рэальнага ажыцьцяўленьня кіраваньня справай культбудаўніцтва неабходна:

а) дабіцца ад мясцовых кіруючых організацый спыненьня празьмернай нагрузкі інспэктароў рознымі дадатковымі заданьнямі, якія адрываюць іх ад асноўнай іх работы;

б) разгарнуць шырокую работу па падвышэньню кваліфікацыі інспэктароў, шляхам склікаьня кароткатэрміновых курсаў, конфэрэнцый, організацыі завочнага навучаньня інспэктуры;

в) больш рашуча вылучаць нізавых пэдагогаў-партыйцаў і актывістых на інспэкторскую работу;

г) пры пэдфаку БДУ адчыніць па тыпу оргінфакаў аддзяленьне па падрыхтоўцы інспэктуры;

д) паставіць перад урадовымі органамі пытаньне аб паляпшэньні матар'яльнага становішча інспэктароў, павялічэньні штатных інспэкторскіх адзінак пры РВК і канчатковай разгрузкі райінспэктуры ад тэхнічнай адміністрацыйна-гаспадарчай працы.

Цэлы шэраг прарываў на культурным фронце тлумачыцца ня толькі недастатковай увагай да справы культбудаўніцтва з боку мясцовых органаў, але і ў вельмі значнай меры слабасьцю нашай раённай інспэктуры і неразуменьнем важнасьці тых задач, якія перад імі стаяць.

Адсюль вывад: якаснае паляпшэньне складу раённай інспэктуры, стварэньне нормальных умоў для яе работы, прыцягненьне шырокай грамадзкасьці да справы кіраваньня народнай асьветай— асноўнае, што стаіць у парадку дню нашай работы.

П. Крывіцкі

# За пролетарскія кадры ў спажывецкай коопэрацыі

Пэрыод рэконструкцыі народнае гаспадаркі СССР, буйны рост яе ва ўсіх галінах паставілі на вырашэньне баявую задачу—падрыхтоўку кадраў. Соцыялістычная прамысловасьць і колектывізаваная сельская гаспадарка патрабуюць вялікай колькасьці добра падрыхтаваных і клясава-выхаваных спэцыялістых.

Для спажывецкай коопэрацыі, якая выконвае працу на адным з найбольш адказных вучасткаў гаспадарчага фронту, пытаньне аб падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў зьяўляецца адным з найбольш важных і адказных момантаў у яе працы.

У сувязі з разгортваньнем соцыялістычнага будаўніцтва роля спажывецкае коопэрацыі ў сыстэме народнай гаспадаркі з кожным днём узрастае. Коопэрацыя зараз выконвае ня толькі функцыю забесьпячэньня продуктамі і таварамі, якая, як гаварыў Маркс, «перарастае ў продуктаабмен і клясава-мэтавае разьмеркаваньне» і ня толькі вытварае продукты, але паступова концэнтруе ў сабе большы і большы круг функцый грамадзкага жыцьця (харчаваньне, культбытавая праца, організацыйна-масавая і інш.).

У адпаведнасьці з гэтым і сама праца спажыўкоопэрацыі паступова ўскладняецца і патрабуе працаўнікоў добра тэхнічна падрыхтаваных. Спажыўкоопэрацыі зараз патрэбны ня толькі добра падрыхтаваныя бухгальтары-плянавікі, інструктары розных галін, але і спэцыялістыя масавых профэсій (працаўнікі прылаўку, нарыхтоўшчыкі, загадчыкі сталовак, рахункаводы, статыстыкі, кіно-мэханікі і г. д.). З другога боку, для таго, каб спажыўкоопэрацыя магла выконваць сваю адказную ролю ў соцыялістычным будаўніцтве, змагла перавесьці сваю працу на баявыя тэмпы, ёй патрэбны працаўнікі, адданыя справе пабудовы соцыялізму, якія б у штодзённай рабоце праводзілі правільную клясавую лінію.

Сучасны пэрыод, пэрыод цяжкасьцяй, зьвязаных з нашым ростам, з шырока разгорнутым будаўніцтвам, асабліва патрабуе клясава-сьвядомых працаўнікоў у галіне коопэрацыі. Спажыўкоопэрацыі патрэбен у сучасны момант ня просты гандляр-разьмеркавальнік, а коопэратар-грамадчык, які-б зьяўляўся актыўным удзельнікам соцыялістычнага будаўніцтва і актыўным грамадзкім працаўніком сярод спажыўцоў-пайшчыкаў.

Аднак, ня гледзячы на такія запатрабаваньні, склад працаўнікоў у сучасны момант у сыстэме спажыўкоопэрацыі далёка нездавальняючы. У сувязі з вялікім недахопам адпавядаючых працаўнікоў, у склад апарату коопэрацыі ўлілося многа «сырога матар'ялу», сярод якога ёсьць шмат гандлярска-нэпманскага элемэнту і людзей клясава-варожых. Зразумела, што пры такіх умовах праца спажыўсыстэмы ў шмат якіх галінах не стаіць на належнай ступені і часта адстае ад агульных тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва. Тут мы маем скажэньне клясавай лініі ў разьмеркаваньні тавараў, сустракаемся з глумам продуктаў, бюрократычнымі і казённымі адносінамі да сваёй працы і да спажыўца, з няўменьнем наогул увязаць сваю работу з палітычнымі задачамі моманту і г. д.

Аб гэтых недахопах працы спажыўкоопэрацыі выразна гаворац рэзолюцыі IV Усебеларускага зьезду спажыўкоопэрацыі: «Адсутнасьць у апаратах дастатковай колькасьці клясава-вытрыманых людзей, якія-б маглі ўспрыняць шпаркія тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва, засьмечанасьць апарату клясава-варожымі элемэнтамі зьяўляюцца прычынай наяўнасьці ў сыстэме спажыўкоопэрацыі бюрократызму, скрыўленьня клясавай лініі і г. д.».

Усё гэта выразна гаворыць за тое, што для спажыўкоопэрацыі пытаньне аб папаўненьні і абнаўленьні коопэрацыйнага апарату ва ўсіх галінах як опэрацыйнай, вытворчай, так і грамадзка-масавай працы зьяўляецца адным з найбольш галоўных і адказных момантаў.

Школы коопэрацыйнага вучнёўства, якія маюць на мэце выпускаць працаўнікоў масавых профэсій для коопэрацыйнай сыстэмы і сярэдні командны склад (загадчыкаў магазынаў, інструктароў па нарыхтоўках, ст. рахункаводаў, статыстыкаў, кніжных працаўнікоў і г. д.) рыхтуюць такім чынам працаўнікоў, якія зараз жа, пасьля выхаду са школы, павінны будуць выконваць адказную ролю на гаспадарчым фронце. Адсюль выцякаюць асноўныя задачы для школ коопвучу падрыхтаваць такія кадры, якія, з аднаго боку, мелі-б патрэбныя тэхнічныя веды, адпавядаючыя тэй ці іншай спэцыяльнасьці, а з другога боку, атрымалі-б адпаведнае клясава-ленінскае выхаваньне.

Для дасягненьня азначанае мэты школы коопвучу павінны выбраць такія формы працы, якія-б максымальна забясьпечылі падрыхтоўку патрэбнай якасьці спэцыялістага.

Зьяўляючыся адным з вучасткаў соцыялістычнага будаўніцтва, школа ў сваёй штодзённай працы павінна быць цесна зьвязана з іншымі зьвеньнямі, актыўна дапамагаючы ў іх працы. Яна павінна выступаць актыўным удзельнікам усіх чарговых як гаспадарчых, так і палітычных кампаній, праводзімых партыяй і савецкай уладай. Хутчэйшае выкананьне пяцігодкі, паскарэньне тэмпаў будаўніцтва, рацыяналізацыя вытворчасьці, колектывізацыя сельскай гаспадаркі, выкананьне прамфінпляну,—усё гэта павінна зьявіцца кіруючым у працы школы ва ўсіх яе частках. Перад школамі коопвучу паўстае, такім чынам, адна з галоўных задач—максымальна ўвязаць сваю працу з палітычнымі задачамі моманту.

Політэхнізацыя ў школах коопвучу зьяўляецца адным з асноўных прынцыпаў у іх працы. Маючы на мэце падрыхтаваць спэцыялістага ў той ці іншай галіне коопэрацыі, школа коопвучу павінна ўмела пагадзіць агульнаадукацыйныя веды з вытворчымі навыкамі па сваёй спэцыяльнасьці і навыкамі політэхнічнага характару.

З аднаго боку, школе неабходна будзе выбраць такую сыстэму працы, каб у выкладаньне паасобных дысцыплін унесьці максымум політэхнізму. Гэтаму могуць дапамагаць адпаведныя экскурсіі на прадпрыемствы, непасрэдны ўдзел школ у іх працы, разам з прапрацоўкай тых ці іншых разьдзелаў .

З другога боку, школам коопвучу неабходна наладзіць органічную сувязь з буйнымі прадпрыемствамі, у першую чаргу, з прадпрыемствамі блізкай спэцыяльнасьці, як напр.: хлебазавод, завод па перапрацоўцы сыравіны с.-г. продуктаў і інш. Калі да гэтага часу школа мела з вытворчасьцю выпадковую сувязь у выглядзе экскурсій, дык у сучасны момант паўстала пытаньне органічнай сувязі з буйнымі прадпрыемствамі.

Прымаючы ўдзел у працы прадпрыемства, набываючы адпаведныя тэхнічныя навыкі, школа разам з гэтым выхоўвае з сваіх вучняў клясава-сьвядомых і актыўных удзельнікаў соцыялістычнага будаўніцтва. Вызначаючы формы вытворчай практыкі непасрэдна па сваёй спэцыяльнасьці, школе неабходна прадугледзець працу непасрэдна на прадпрыемстве, якая павінна быць уключана ў плян вытворчай практыкі.

Аднак, практычнае правядзеньне політэхнізацыі ў школе не абмяжоўваецца вырашэньнем пытаньня сувязі з вытворчасьцю. Вывучаючы пытаньне рацыяналізацыі вытворчасьці таго ці іншага прадпрыемства, школа павінна паставіць на вырашэньне пытаньне рацыяналізацыі сваёй вытворча-навучальнай працы, паляпшэньня якасьці сваёй прадукцыі, удрных тэмпаў у працы, падняцьця працоўнай дысцыпліны і г. д.

У сваёй вытворча-навучальнай працы школа павінна ўжываць такія формы і мэтоды, якія максымальна забясьпечваюць продукцыйнасьць працы. Беручы выходным пунктам у выкладаньні паасобных дысцыплін вакольнае жыцьцё з пункту погляду клясавых задач пролетарыяту і ставячы конкрэтныя мэты ў працы па таму ці іншаму прадмету, школа павінна найбольшае месца адвесьці такім мэтодам, якія хутчэй прыводзяць да мэты. У школах коопвучу павінна знайсьці найбольшае месца лябораторная сыстэма працы ў найбольш дасканалай яе пастаноўцы і мэтод проектаў. Адзначаныя формы працы даюць максымум магчымасьці ўжываць актыўныя мэтодычныя прыёмы, увязаць выкладаньне паасобных дысцыплін, а таксама і тэорэтычнае навучаньне з практычным. Апроч гэтага, мэтод проектаў дасьць поўную мажлівасьць увесьці ў выкладаньне паасобных дысцыплін максымум элемэнтаў політэхнізму і грамадзка-карыснай працы. Ставячы прапрацоўку таго ці іншага разьдзелу ў выглядзе заданьня, перад якім ставіцца пэўная жыцьцёвая задача, школа, такім чынам, робіць сваё выкладаньне мэтавым і грамадзка-карысным. Пры такім выкладаньні будзе дадзена поўная мажлівасьць самадзейнасьці вучняў, што ў сваю чаргу будзе спрыяць больш сьвядомым адносінам вучняў да працы і падняцьцю працоўнай дысцыпліны.

Для практычнага ажыцьцяўленьня пастаўленых задач школам коопвучу неабходна выявіць максымум актыўнасьці і самадзейнасьці ў выкананьні пастаўленых задач. Гэта ў сваю чаргу патрабуе ад школ вялікай увагі да плянаваньня сваёй працы, уважлівага падліку яе і аналізу дасягненьняў і, у сувязі з гэтым, ужываньня адпаведных форм працы.

Сярод гэтых форм вялікае месца павінна заняць ударніцтва і соцспаборніцтва як унутры тае ці іншае школы, так і паміж школамі коопвучу. Соцспаборніцтва павінна прадбачыць наступныя моманты:

1) Максымальная эфэктыўнасьць працы.

2) Выразная пастаноўка і выкананьне пляну.

3) Максымальнае набліжэньне навучаньня да вытворчасьці.

4) Лепшая пастаноўка вытворчай практыкі.

5) Найбольш цесная сувязь з коопэрацыйнымі організацыямі.

6) Падняцьце працоўнай дысцыпліны

7) Выхаваньне марксысцка-ленінскага сьветапогляду.

Для ажыцьцяўленьня тых конкрэтных задач, якія стаяць перад школамі коопвучу, ім патрэбна адпаведная дапамога з боку кіруючых органаў. Гэтыя органы

павінны ня толькі ставіць перад школамі пэўныя задачы і контраляваць іх выкананьне, але і практычна дапамагаць школе ў адшуканьні лепшых форм і мэтодаў працы.

Гэтыя задачы паўсталі і перад сэктарам кадраў Белкоопсаюзу ў пачатку яго організацыі. Складанасьць працы школ коопвучу, адсутнасьць вопыту патрабуе ад гэтых школ максымальнай ўвагі ў вырашэньні асноўных як організацыйных, так і мэтодычных пытаньняў. У адпаведнасьці з гэтым ускладняецца і кіраўнічая праца Сэктару кадраў БКС.

У далейшай сваёй мэтодычнай працы Сэктар кадраў БКС мяркуе мксымальна выкарыстаць ініцыятыву і мэтодычную працу школ і наладзіць абмен вопытам паміж асобнымі школамі як па лініі конфэрэнцый выкладчыкаў, так і па лініі абмену думак праз друк і г. д. Для большай дэталёвай прапрацоўкі мэтодычных пытаньняў С. К. мае на мэце наладзіць сыстэматычную працу мэтодычнай групы пры Сэктары кадраў БКС.

Ніжэй мы падаем схэмы плянаў працы школ коопвучу, якія ў значнай меры могуць быць выкарыстаны іншымі школамі.

Пры гэтым мы зьвяртаем асаблівую ўвагу на сур'ёзную прапрацоўку іх і папаўненьне іх практычным і конкрэтным зьместам. Мы лічым, што тыя адказныя задачы, якія ўскладаюцца на савецкую школу ў абставінах сучаснага будаўніцтва, могуць быць выкананы толькі пры ўмовах, калі школа будзе ставіць перад сабою выразна-акрэсьленыя і конкрэтна-пастаўленыя задачы, улічыць усе магчымасьці для іх выкананьня і найбольш рацыянальна іх выкарыстае.

Да паасобных плянаў намі дадаюцца наступныя паясьненьні:

*1) Гадавы вытворчы плян школы.* Гэты плян павінен ахапляць усе асноўныя бакі працы школы (гаспадарчая, вытворча-навучальная, грамадзка-карысная праца і інш.), вызначаць формы ўвязкі іх і асноўны напрамак усяе працы. У гэтым пляне павінны быць вызначаны конкрэтныя задачы працы паасобных галін у адпаведнасьці з задачамі моманту, і, на аснове вопыту мінулага году, павінны быць улічаны ўмовы і мажлівасьці ў працы школы і вызначаны конкрэтныя формы ў працы паасобных галін.

Для складаньня гэтага пляну школе неабходна сабраць і падрыхтаваць конкрэтны і фактычны матар'ял па асобных момантах працы і для сыстэматызацыі яго прыцягнуць колектыў настаўнікаў. Абгаварэньне організацыйных і мэтодычных пытаньняў, зьвязаных з пачаткам заняткаў, павінна даць патрэбны матар'ял для складаньня гадавога вытворчага пляну. Гэты плян павінен быць абгавораны ня толькі на савеце школы, але і на сходах вучняў. Неабходна, каб вучнёўскія масы выразна ўявілі, якія мэты і задачы ставіць сабе школа на бягучы навучальны год і якімі шляхамі яна будзе ісьці, каб больш пасьпяхова іх выканаць. Гэта акалічнасьць павінна зьявіцца стымулам да большай дысцыплінаванасьці ў працы, колектыўнай згуртаванасьці для выкананьня пастаўленых задач.

*2) Рабочыя пляны па асобных прадметах.* Ня менш важным пытаньнем зьяўляецца складаньне плянаў па асобных прадметах. Кожны выкладчык, бяручы на сябе выкананьне пэўнай часткі вытворчага пляну школы, павінен досыць уважліва аднесьціся да плянаваньня працы па свайму прадмету. Яму неабходна ня толькі расплянаваць свой матар'ял у часе, вызначыць формы і мэтоды пра-

цы, увязку з іншымі прадметамі, а таксама паказаць, якіх ведаў павіннны дасягнуць вучні ў галінах грамадзка-палітычнага, інтэрнацыянальнага і антырэлігійнага выхаваньня.

Рабочыя пляны па асобных прадметах лепш складаць пасьля таго, як будзе закончаны гадавы вытворчы плян школы, які павінен быць базай пры складаньні плянаў па асобных прадметах і відах працы.

Пры складаньні плянаў вытворчай практыкі, неабходна асабліва выразна вызначыць як аб'ём ведаў і звычкаў, якія будуць набыты ў процэсе вытворчай практыкі, а таксама пасьлядоўныя этапы ў набыцьці гэтых звычкаў, строга распляноваўшы іх у часе. Кожны з гэтых этапаў павінен канчацца падагуленьнем і контролем здабытых ведаў.

Вызначаючы формы і мэтоды практыкі, неабходна асабліва добра прадумаць формы організацыі вучняў у процэсе практыкі ў адпаведнасьці з характарам яе (адзіночкі, зьвеньні, брыгады), а таксама выразна вызначыць формы кіраўніцтва практыкай.

Для абгаварэньня ўсіх плянаў працы школы, а таксама і для праверкі выкананьня іх павінна быць узьнята грамадзкая думка ўсяе школы.

---

## Схэма вытворчага пляну . . . . школы на . . . навучальны год[1])

**I. Задачы школы на гэты навучальны год, у адпаведнасьці з палітычнымі задачамі, настаўленымі савецкай уладай і партыяй на бягучы момант:**

а) па лініі с/гаспадаркі і прамысловасьці (рэконструкцыя сельскай гаспадаркі на базе суцэльнай колектывізацыі, рацыяналізацыя вытворчасьці, выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, выкананьне прамфінпляну і г. д.);

б) у галіне падрыхтоўкі кадраў (даць спэцыялістага, адпавядаючага пастаўленым задачам, як па лініі політсьвядомасьці, так і па лініі спэцыяльнай падрыхтоўкі);

в) у галіне навучальнай працы школы (сувязь з вытворчасьцю, політэхнізацыя школы і найбольш выразнае клясавае марксысцка-ленінскае выхаваньне).

**II. Умовы і мажлівасьці, якія ёсьць у школе для ажыцьяўленьня пастаўленых задач:**

а) будынак школы, яго адпаведнасьць запатрабаваньням навучальнае працы і наяўнасьць неабходных комунальных умоў, патрэбных для нормальнага стану працы школы (характар габінэтаў, калідоры, прыбіральні, пляцоўкі);

б) абсталяваньне школы патрэбным інвэнтаром;

в) навучальнае абсталяваньне (прылады для габінэтаў, падручнікі і іншыя навучальныя прылады); у якой ступені яно задавальняе навучальным патрэбам школы;

г) мерапрыемствы, намечаныя для стварэньня нормальных умоў для працы (рамонт, набыцьцё інвэнтару і г. д.);

д) матар'яльныя мажлівасьці школы на бягучы навучальны год (сродкі на асобныя выдаткі; расплянаваньне трат па асобных асноўных разьдзелах каштарысу (рамонты, набыцьцё абсталяваньня, траты на вучэбныя выдаткі і г. д.);

е) контынгент вучняў і асаблівасьці працы з імі ў асобных групах:

1) склад іх (соцыяльны склад—піонэры, комсамольцы, узрост, пол і падрыхтоўка);

[1]) Матарьял схэмаў абгаварваўся на мэтодычнай групе пры Сэктары кадраў БКС.

2) мерапрыемствы, вызначаныя па рэгуляваньню складу вучняў у асобных групах і ў галіне навучальнай працы з імі (урэгуляваньне процантнага складу і організацыя груп пераросткаў, ударных груп і г. д.);

ж) становішча інтэрнату і розныя выгляды забесьпячэньня вучняў (жыльлёвая плошча, комунальныя ўмовы, харчаваньне і інш.). Мерапрыемствы, вызначаныя для стварэньня нормальных бытавых умоў для вучняў;

з) адміністрацыйны і настаўніцкі склад школы;

і) наяўнасьць неабходных умоў для нормальнай пастаноўкі вытворчай практыкі (магазыны, склады, базы, нарыхтоўчыя пункты і г. д.).

### III. Організацыйная і навучальна-вытворчая праца школы

*а) Пэдсавет, школьны савет, яго комісіі і іх праца:*

1) організацыйная структура і ўвязка іх у працы (у зьмесьце працы, формах і часе);

2) плян працы школьнага савету (асноўныя пытаньні працы яго і іх расплянаваньне ў часе);

3) разьмеркаваньне абавязкаў паміж асобнымі працаўнікамі школы;

4) плян працы пэдсавету; вызначыць асноўныя організацыйна - мэтодычныя пытаньні і разьмеркаваць іх у працягу году ў адпаведнасьці з навучальнымі сэзонамі; асабліва важна адвесьці адпаведнае месца ў пляне падрыхтоўцы настаўніцтва да політэхнізацыі школы.

*б) Вытворча-навучальная праца:*

1) разьмеркаваньне навучальнай працы ў працягу навучальнага году (пачатак заняткаў, канец сэмэстраў або паўгодзьдзяў і інш.);

2) разьмеркаваньне вучняў па групах у адпаведнасьці з іх складам і падрыхтоўкай. Спэцыяльны нахіл паасобных груп і асабліва ўдарныя заданьні ў працы паасобных груп у адпаведнасьці з іх ведамі (політычным разьвіцьцём, ведамі па асобных галінах, навыкамі па матэматыцы, па мове і інш.);

3) унутраны распарадак жыцьця і працы ўсёй школы і паасобных груп у працягу рабочага дню, дэкады і сэмэстру (вызначыць разьмеркаваньне тэорытычных заняткаў у асобных групах і іх увязку з вытворчай практыкай; увязаць усю навучальную працу з грамадзка-карыснай працай вучняў і іх адпачынкам); расклад заняткаў па ўсіх відах працы і правілы ўнутранага распарадку.

*4) Выкананьне рабочых плянаў і програм:*

а) цэнтральныя пункты ў програмах паасобных галін (грамадазнаўства, спэцыяльных дысцыплін, вытворчай практыкі і інш.) і іх разьмеркаваньне ў часе;

б) новыя моманты ў працы школы на даны пэрыод у адпаведнасьці з політычнымі задачамі данага моманту, як рэалізацыя пастановы ЦК УсеКП(б) ад 3 верасьня (гл. бюлетэнь НКА РСФСР, № 31 за 1930 г.);

в) адступленьне ад рабочых плянаў і програм на аснове новых задач моманту і мясцовых умоў, з паказаньнем, чым яны выкліканы;

г) якія вызначаюцца формы для ўвязкі паасобных дысцыплін, і як будзе ўвязана тэорыя з практыкай (формы ўвязкі ў плянах паасобных дысцыплін у працэсе працы і пры падагуленьні);

д) якая сыстэма працы, формы і мэтоды яе будуць ужывацца ў школе з мэтай паляпшэньня якасьці працы, узмацненьня тэмпаў, падняцьця актыўнасьці і самадзейнасьці вучняў і рацыяналіза-

цыі працы (ударніцтва, соцспаборніцтва, абгаварэньне плянаў на сходах, вытворчыя нарады і інш.).

*5) Організацыя вучняў у процэсе працы і работа вучнёўскага самакіраваньня:*

а) якая вызначаецца форма організацыі вучняў у процэсе працы, як тэорытычнай, так і практычнай (зьвеньні, брыгады, ударныя брыгады і г. д.);

б) якая вызначаецца форма вучнёўскага самакіраваньня ў адпаведнасьці з організацыяй вучняў у процэсе працы (нізавыя адзінкі самакіраваньня на аснове вытворчага прынцыпу);

в) асноўныя формы работы вучнёўскага самакіраваньня:

1) па лініі ўдзелу ў вытворчай працы школы (удзел у рабоце школьнага савету і яго комісій, у вытворчых нарадах, абгаварэньне вытворчых пытаньняў у органах вучнёўскага самакіраваньня);

2) па лініі грамадзка-масавай і політыка-асьветнай работы сярод вучняў (гурткі бягучай політыкі з пераходам да політгадзін і г. д., гурткі колектывізацыі сельскай гаспадаркі, вытворчыя гурткі і гурткі паглыбленьня ведаў паасобных дысцыплін);

3) па лініі рацыяналізацыі і паляпшэньня быту вучняў (паляпшэньне жыльлёвых умоў, харчаваньня, найбольш рацыянальнае скарыстаньне прыладаў і г. д.).

## IV. Грамадзка-карысная праца школы

1) удзел у кампаніях, праводзімых сав. уладай і партыяй (колектывізацыя, рацыяналізацыя вытворчасьці, выкананьне прамфінпляну, выкананьне нарыхтовак і г. д.). Паказаць конкрэтныя формы ўдзелу як вучняў, так і настаўнікаў, распляноўшы іх у часе, увязаўшы з навучальнай працай школы);

2) удзел у працы коопэрацыйных органаў (перавыбары, кампаніі па зборы паявых узносаў, удзел у культурна-бытавых мерапрыемствах і г. д.);

3) політыка-асьветная праца сярод насельніцтва шляхам непасрэднага ўдзелу ў працы па лініі адпаведных політыка-асьветных організацый.

Увага. Калі школа працуе ўжо некалькі гадоў, дык неабходна сярод першых пунктаў вызначыць момант: „Вынікі працы мінулага году":

а) дасягненьні у працы;

б) недахопы і задачы на бягучы навучальны год.

---

## Схэма пляну працы (па прадмету) на (сэмэстр альбо паўгодзьдзе) з . . . . . па . . . . .

1. Агульны лік гадзін па данаму прадмету на даны сэмэстр.

2. Зьмест матар'ялу для прапрацоўкі на даны пэрыод і яго распляноўваньне ў часе (пералічыць і паказаць асноўныя разьдзелы, тэмы або пытаньні зьместу, паказаўшы пры гэтым лік гадзін, якія адводзяцца на іх прапрацоўку).

3. Колькі асобных заданьняў вызначаецца для прапрацоўкі матар'ялу, якую частку матар'ялу абхопіць кожнае заданьне і па колькі часоў адводзіцца на іх (пры габінэтнай сыстэме працы).

4. Якімі мэтодычнымі прыёмамі будзе прапрацоўвацца матар'ял (лябораторна-групавая прапрацоўка, ужываньне дасьледчага мэтоду—экскурсіі, самастойныя заданьні і інш.).

Увага. Пры паказаньні формаў і мэтодаў працы неабходна прыняць пад увагу спэцыфічнасьць таго ці іншага разьдзелу, у адпаведнасьці з чым зьмяняюцца і мэтодычныя прыёмы.

5. Якая ўвязка ў матар'яле, у мэтодах будзе з іншымі дысцыплінамі.

6. Якія навыкі політэхнізму будуць дадзены вучням у сувязі з прапрацоўкай вызначанага матар'ялу і якая ўвязка будзе з вытворчай практыкай.

7. Якія віды пісьмовых прац будуць праводзіцца і на якім матар'яле.

8. Які краязнаўчы (мясцовы) матар'ял будзе выкарыстоўвацца ў сувязі з прапрацоўкай матар'ялу.

9. У чым выявіцца антырэлігійнае і інтэрнацыянальнае выхаваньне вучняў. Якія разьдзелы матар'ялу будуць скарыстаны для гэтага і якія вывады вызначаюцца.

10. Якая грамадзка-карысная праца вызначаецца ў выніку апрацоўкі гэтага матар'ялу.

11. Якія формы падліку працы будуць ужывацца ў выніку прапрацоўкі матар'ялу і якім спосабам будзе падлічвацца індывідуальная праца вучня (асабліва ў процэсе вытворчай практыкі).

12. З якіх крыніц будзе брацца матар'ял (падручнікі, часопісі, газэты, справаздачы, матар'ялы зьездаў і інш.). Якімі з іх карыстаюцца вучні і якімі настаўнік.

## Схэма пляну працы па вытворчай практыцы вучняў . . . . . групы на . . . . . сэмэстр

1. Колькі часу адведзена на вытворчую практыку ў даным сэмэстры ці паўгодзьдзі. Яго распляноўваньне па днёх, дэкадах ці месяцах.

2. Навыкі ці веды, якія мяркуецца набыць у процэсе вытворчай практыкі за азначаны пэрыод (пералічыць асобныя разьдзелы і віды навыкаў ці ведаў, якія павінны быць набыты).

3. Веды і навыкі, якія неабходна паглыбіць па іншых прадметах у процэсе вытворчай практыкі (увязка з іншымі прадметамі).

4. Об'екты і месцы для практыкі (установы, магазыны, склады, вытворчасьць с.-г. і прамысловая).

5. Асобныя пасьлядоўныя этапы навыкаў і ведаў, адпавядаючыя парадку тэорытычнай прапрацоўкі матар'ялу і сэзоннасьці ў рабоце об'ектаў практыкі, разьмеркаваныя ў часе.

6. Програма конкрэтных работ для практыкантаў на месцы практыкі.

7) Формы і мэтоды кіраўніцтва практыкай з боку інструктара, консультацыі выкладчыкаў і роля працаўнікоў на месцы практыкі.

8) Формы організацыі вучняў у процэсе практыкі (адзіночкі, групы, брыгады) і формы самакіраваньня ў процэсе практыкі.

9) Формы падліку працы па вытворчай пркатыцы—бягучай і заключнай (дзеньнік, конфэрэнцыі, справаздачы, ацэнкі выкладчыкаў і работнікаў на месцы, ацэнкі прадстаўнікоў вучнёўскага самакіраваньня і г. д.).

10) Грамадзка-карысная праца практыкантаў: удзел у кампаніях, ў культпрацы на месцы, рацыяналізацыі вытворчасьці, выкананьні прамфінпляну і г. д.

# СТАВІМ НА АБГАВАРЭНЬНЕ

С. Марозаў

## Да пытаньня аб проектах-тэмах у сувязі з комплексным матар'ялам

Праводзячы політэхнізацыю школы, мы павінны абвясьціць суровую барацьбу «мёртваму», славеснаму політэхнізму, калі настаўнік, называючы сваю школу політэхнічнай, ужывае яшчэ і да гэтага часу лекцыйныя, старыя мэтоды выкладаньня.

Яшчэ і зараз можна сустрэць выпадкі (і не адзіночныя), калі пры школе ёсьць фізычны або прыродазнаўчы габінэт (нават у сямігодках), але ён не скарыстоўваецца як належыць. Мне вядомы такі выпадак, калі вучні I концэнтру сямігодкі ня бачылі ні разу мікраскопа, хоць іх у габінэце школы ёсьць аж два. У той-жа школе ёсьць добра абсталяваны фізычны габінэт, а вучні I концэнтру ня бачылі, як здабываецца вуглятлен або тлен. Выходзіць, як быццам, што габінэты школы разьлічаны толькі для II концэнтру гэтай школы.

Асноўнай прычынай у гэтых выпадках была інэртнасьць настаўнікаў I концэнтру.

Ёсьць і яшчэ адна шкодная тэндэнцыя сярод некаторай часткі настаўніцтва— «*пакуль мы не паслухалі курсаў, праводзіць політэхнізацыю нам амаль немагчыма*».

Вядома, ня прыходзіцца супярэчыць, што курсы для настаўнікаў патрэбны, але зараз прапусьціць усіх праз курсы за кароткі тэрмін, як гэта некаторыя мяркуюць, немагчыма.

З другога боку, калі ў настаўніцтва ня будзе належнай ініцыятывы, або калі настаўніцтва будзе недаацэньваць важнасьці справы перабудовы школы, тады і курсы не дапамогуць. Заняцца зараз-жа распрацоўкай пытаньняў шляхам самаадукацыі патрэбна і магчыма.

Па школах РСФСР зараз практыкуюцца проэкты-тэмы, якія ў аснове свае распрацоўкі маюць мэтод проектаў.

Асабліва многа месца адводзяць пытаньню аб проектах-тэмах школы г. Масквы.

Чаму я высоўваю гэтае пытаньне на старонках нашага друку? Я лічу, што мэтод проектаў павінен заняць належнае месца і ў нашай політэхнічнай школе, аслабаніўшыся, вядома, ад амэрыканізму.

У мэтод буржуазнай школы (мэтод проектаў) мы павінны ўкласьці пролетарскі комуністычны зьмест.

Калі ў амэрыканскіх буржуазных школах «принцип интереса, лежащий в основе метода проектов, имеет ярко выраженный частно-собственнический характер», дык у нас ён «классово видоизменяется, получает социалистическую направленность» [1]).

Дадатныя бакі работы ў школе па мэтоду проекту наступныя:

[1]) З артыкулу Я. Сьцяпянава, „За Ком. просвещ.", № 179.

1) «последовательное соединение производительного труда с образованием превращает метод проектов в одно из средств уничтожения эксплоататорского разделения труда на умственный и физический» (з газ. «ЗКП»—арт. т. Сьцяпанава).

2) Работа па мэтоду проектаў яшчэ больш зьвязвае школу з вакольным жыцьцём, з грамадзкімі організацыямі і ўцягвае організацыі цалкам або іх асобных работнікаў у працу школы.

3) Мэтод проектаў выцісьне са школы рэшткі вэрбалізму.

4) Організацыі вучнёўскага самакіраваньня стануць бліжэй да вучэбнай работы. Тут яны змогуць наладзіць шчыльнейшую сувязь з настаўніцкім колектывам.

5) Работа для саміх дзяцей будзе організавана з большай цікавасьцю, бо дзеці самі змогуць высоўваць проекты-тэмы, якія будуць імі-ж выконвацца пасьля некаторага папярэдняга афармленьня проекту-тэмы вучнёўскім і настаўніцкім колектывам.

Вось якія мотывы можна прывесьці за ўвядзеньне мэтоду проектаў у школе.

Далей я пастараюся абгрунтаваць кожны з высунутых мотываў.

Возьмем, напрыклад, такі проект-тэму для распрацоўкі—«Дапаможам у перавыбарах саветаў», які можа быць высунуты вучнёўскім або настаўніцкім колектывам.

Для пачатку работы гэты проект трэба сплянаваць.

Плян кожнага проекту-тэмы можа быць, напрыклад, гэткі:

1) Запрасіць на агульны сход школы прадстаўніка выбарчай камісіі і заслухаць інформацыю аб ходзе перавыбарчай кампаніі.

2) Распрацаваць пытаньне аб перавыбарах савету па клясах або ў гуртках.

3) Разьнесьці выбаршчыкам позвы на выбарчы сход.

4) Зрабіць даклад бацьком на сходзе аб перавыбарах савету.

5) Сачыць за тым, каб усе бацькі пашлі на выбарчы сход.

6) Упрыгожыць памяшканьне, дзе будуць праходзіць выбары, лёзунгамі і плякатамі.

Калі гэты проект-тэма разгледжаны на агульным сходзе, колектыў прыступае да яго выкананьня. Работа, як бачыце, павінна быць сыстэматычная і ахопліваць усіх вучняў, вучнёўскія організацыі самакіраваньня, організацыі мясцовыя (сельсавет, гарсавет), бацькаўскі колектыў. Работа павінна насіць колектыўны характар. Мэтоды ўдарніцтва і спаборніцтва павінны знайсьці ў гэтай рабоце сваё належнае месца.

Дадзены проект мог быць ня зьвязаны з матар'ялам комплексу або тэмай комплексу, але могуць быць проекты, шчыльна зьвязаныя з матар'ялам комплексу, і распрацоўвацца яны павінны разам з матар'ялам, які праходзіцца ў клясе.

Па комплексу «Наш колгас» у 1-й групе магчымы, напрыклад, такія проекты:

*Тэма 1-я.* Першыя крокі ў школе.

1. Уцягнем своечасова дзяцей колгасьнікаў, сялян-беднякоў і сераднякоў у школу.

2. Упрыгожым памяшканьне нашай клясы.

3. Наладзім сувязь са школай іншай нацыянальнасьці. Заключым умову на соцспаборніцтва. Організуем ударныя брыгады.

4. Будзем падтрымліваць правілы санітарыі ў клясе:

а) завядзем ручнікі;

б) акуратна будзем праветрываць клясу;

в) організуем санітарнае зьвяно.

5. Абагулім цацкі.

6. Прымем удзел у організацыі гарачых сьнеданьяў у школе. Для дапамогі ў гэтай справе прыцягнем нашых бацькоў.

Я прывёў толькі шэсьць мажлівых проектаў-тэм, але апрача іх могуць быць і іншыя, зьвязаныя з вучэбным матар'ялам.

Ужо на самых першых кроках вучобы відаць, як работа па мэтоду проектаў выходзіць далёка за рамкі школы, як гэта работа шчыльна пераплятаецца з работай бацькаўскага колектыву. Апошні прыцягваецца да працы ў школе ў парадку вучэбнай работы дзяцей 1-й групы. Таксама з гэтых проектаў відаць, як работа аднае школы шчыльна ўвязваецца з работай другой школы і, апошняе, самае галоўнае, гэта тое, што вэрбалізму тут ня можа быць месца ні ў якім разе.

Прывяду таксама проекты па гэтай жа 1 гр. па тэме: «Падрыхтоўка да зімы»

1) Ацяплім нашу школу і памяшканьне колгасу разам з колгасьнікамі.

2) Праверым, ці забясьпечаны колгас і школа апалам. Складзем колекцыю сродкаў апалу.

3) Попел—добрае ўгнаеньне. Будзем зьбіраць яго ў школе і дома.

Па другой групе ў сувязі з тэмай *«Жыцьцё і праца дзяцей у час летняга адпачынку»* (комплекс—«Наш раён і соцыялістычнае будаўніцтва») могуць быць проекты-тэмы:

1) Мы прышлі ў школу вучыцца—будзем дысцыплінаванымі.

2) Організуем барацьбу са шкоднікамі гароду ў колгасе.

3) Тэхнічнае паляпшэньне машын палягчае працу чалавека. Організуем гурток канструктороў і модэлістых.

4) Організуем інструмэнтальную базу ў школе.

5) Рэлігія пабудавана на казках і забабонах.

Рэлігія—вораг соцбудаўніцтва. Раскажам аб гэтым нашым бацьком.

У распрацоўку гэтых проектаў-тэмаў таксама ўцягваецца вакольнае асяродзьдзе, колектыў бацькоў.

Некаторыя з гэтых проектаў-тэмаў могуць не праводзіцца, бо на іх месца можна высоўваць іншыя.

Вялікае значэньне пры высоўваньні проектаў-тэм будуць мець мясцовыя ўмовы, і настаўнік будзе ведаць, які проект правесьці шырэй, які скараціць і г. д.

Можна даць прыклады проектаў-тэм па III групе. Возьмем тэму «Пяцігодка нашага раёну» (комплекс «Соцыялістычнае будаўніцтва ў БССР»).

Да ўступу тэмы могуць быць проекты-тэмы:

1) Самакіраваньне ў школе—сродак комуністычнага выхаваньня. Організуем ў школе самакіраваньне.

Па самой тэме:

1) Правядзем работу ў сям'і, колгасе, сярод бацькоў—за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

2) Ніводнага вучня, які не падпісаўся на пазыку «пяцігодка ў чатыры гады». Правядзем падпіску па школе, у сям'і, у колгасе і на сходзе бацькоў.

3) Прамысловасьць патрабуе новых кадраў кваліфікаваных рабочых, даследчыкаў, конструктароў, тэхнікаў і інжынэраў.

Будзем рыхтаваць сябе да гэтага—організуем куток конструктара і модэлістага.

4) Выпусьцім насьценгазэту «За пяцігодку ў чатыры гады».

Урэшце, па IV групе можна прывесьці прыклад проектаў-тэм па тэме «Як мы будуем соцыялізм у СССР».

1) Вывучым у гуртках пастановы XVI партзьезду (магчыма і ў клясе).

2) Абвясьцім барацьбу старому быту і пачнем праводзіць барацьбу за новы быт.

3) Організуем колгас у нашай вёсцы.

4) Мы за хуткія тэмпы індустрыялізацыі краіны.

Зробім праверку ўзносаў па пазыцы «пяцігодка ў чатыры гады». Зробім праверку ў школе і сярод бацькоў.

Яшчэ раз хачу падкрэсьліць, што кожны проект-тэма павінен у пачатку сплянавацца, а ў канцы работы патрэбна правесьці падагуленьне на конфэрэнцыі групы або школы па дадзенаму проекту-тэме.

Трэба сачыць толькі за тым, каб работа была пад сілу дзецям, каб не перагружаць іх. Адначасна патрэбна зьбіраць нагляданьні ці, праводзячы работу па проектах-тэмах, дзяліцца сваімі дасягненьнямі з тт., каб набыць вопыт у рабоце па новаму для нас мэтоду.

Я браў прыклады толькі па програме I концэнтру вясковай школы. Ужываць-жа гэты мэтод магчыма, вядома, і ў II конц. сямігодкі і ў школах павышанага тыпу наогул. Мэтодычныя організацыі павінны заняцца гэтым пытаньнем у першую чаргу.

Могуць быць і не програмныя проекты-тэмы, узьнікаючыя па ініцыятыве дзяцей групы або зьвяна ў клясе.

Паколькі група вучняў выявіла цікавасьць да пастаўленых імі пытаньняў, патрэбна даць ім магчымасьць выканаць задачу і дапамагчы, паколькі тут ёсьць глеба для разьвіцьця дзіцячай творчасьці і самадзейнасьці.

За ўвядзеньне проектнага мэтоду ў політэхнічную школу, які «реализует сочетание производительного и общественного труда с образованием и воспитанием» [1]), мы павінны весьці барацьбу.

[1]) Артык. Я. Сьцяпанава

Б. Сілін

# Супроць некаторых думак, выказаных т. Пірацінскім

Пірацінскі ў сваім выступленьні на політэхнічным зьезьдзе ўздымаў шэраг пытаньняў. Далучаючыся да вывадаў аўтара па большасьці гэтых пытаньняў, лічу патрэбным заўважыць памылкі аўтара ў двух выпадках. Першае, гэта—прапанова стварыць Усебеларускі штаб па політэхнізму. Ці невядома тав. Пірацінскаму, што такі штаб існуе, і іншага штабу быць не павінна, як Народны комісарыят асьветы з яго органамі, у прыватнасьці, з Навук.-мэтод. комітэтам. Ці ня будзе падвойнасьці, паралелізму, калі будзе організаваны яшчэ які кіруючы цэнтр? Справа іншая, калі, па думцы аўтара, гэты штаб (НКА) не стаіць на належнай вышыні, дык трэба дасьледваць, чаму? Калі ёсьць ненормальнасьці, дык трэба шырэй згуртаваць грамадзкую дапамогу гэтаму штабу ў яго працы, а ня ўносіць большай складанасьці і блытаніны стварэньнем новых штабаў па-за сьценамі НКА; гэта не дапаможа справе. А прыклад актыўнасьці працаўнікоў блізкіх да політэхнізацыі такі: 21-XII—30 г. НКА склікаў спэцыяльную нараду для непасрэднага абгаварэньня пажаданага профэсіянальнага профілю інструктора

працоўных процэсаў, патрэбнага для політэхнічнай школы ФЗС, у сувязі з мяркуемай рэорганізацыяй Менскай аб'яднанай профтэхшколы ў індустрыяльнаінструктарскі політэхнікум і распрацоўкай мэтавай устаноўкі гэтага будучага тэхнікуму. Зьявіўся ўвесь актыў паказанай профшколы, а з запрашаных пэрсональна асоб і некаторых загадчыкаў Менскіх сямігодак зьявілася толькі 2 чалавекі.

Такім чынам пытаньні не ўдалося прапрацаваць на шырокай нарадзе працаўнікоў, якія павінны непасрэдна ў першую чаргу быць зацікаўлены ў належным вырашэньні прынцыповых пытаньняў у галіне політэхнізацыі. Азначаную нараду прышлося перанесьці на другі бліжэйшы дзень і прыняць захады да паўторнага пэрсональнага запрашэньня. Нікуды ня варты такі актывізм. А між тым, НМК імкнецца ўсімі мерамі згуртаваць вакол сябе актывы па розных галінах працы комітэту.

Другое неўгрунтаванае пытаньне, якое высоўвае тав. Пірацінскі,—гэта быццам прычына зрыву дырэктывы ЦК аб увядзеньні ўсеагульнага сямігадовага абавязковага навучаньня ў прамысловых раёнах хаваецца ў тым, што школы ФЗС комплектуюцца вучнямі 6, 5 і *нават 4 груп* сямігодак». У гэтым тав. Пірацінскі і бачыць усе карэньні зла.

Праўда, некаторыя трэсты, гаспадарчыя організацыі, нават, са згоды ВСНГ, у пагоні за скарачэньнем тэрміну ўстаноўленага 3-х год. навучаньня ў ФЗВ на базе 4-х годкі, будуюць гэтыя ФЗС формальна на базе 5 і 6 груп (фактычна ўсё-ж на 4-х групах) і матывуюць, такім чынам, устанаўліваемы імі 2 і 1-гадовы тэрмін навучаньня ў такіх ФЗВ. Бязумоўна, такое зьявішча *ненормальнае* і прынцыпова недапушчальнае. Акрамя разбурэньня 5 і 6 груп сямігодак, на што паказвае тав. Пірацінскі, такі мэтод укомплектаваньня ФЗВ фактычна не забясьпечвае для вучняў агульнага разьвіцьця, і тэорэтычных ведаў за курс сямігодкі, не гаворачы ўжо аб політэхнізацыі. Такія школы зьяўляюцца ня больш-ня менш як профкурсамі для сьпешнай падрыхтоўкі патрэбных рабочых кадраў. Вось тут можна знайсьці і элемэнты зрыву ўсеагульнага абавязковага сямігадовага навучаньня рабочых падлеткаў і зрыву політэхнізацыі і інш. З гэтым НМК вядзе барацьбу. Пры ўзгадненьні індывідуальных рабочых плянаў такіх ФЗВ імкнуцца да набліжэньня іх да тыповых нормальных плянаў ФЗВ, выпрацаваных з пачатку навуч. году НМК з удзелам ВСНГ і інш. гаспадарчых органаў, але часта апошнія самі шукаюць ўсялякіх шчылін, легальных і нелегальных, каб ухіліцца ад выкананьня прынятых прынцыповых установак.

У чым жа няпраў аўтар артыкулу? У тым, што ён, на падставе горшых зьявішчаў, няправільна ўяўляе ролю добра пастаўленых школ ФЗВ на базе 4-х годкі, з нормальным 3-х гадовым тэрмінам навучаньня. А ці-ж такія ФЗВ ня ёсьць тыя ж самыя політэхнізаваныя сямігодкі, толькі з дадатковай вузкай профэсыяналізацыяй, якія не парушаюць прынцыпу абавязковага сямігадовага навучаньня і надаюць і фактычна і юрыдычна вучням усе правы скончыўшых сямігадовыя школы ў сэнсе як паступленьня ў тэхнікумы, так і ў адносінах ільгот па вайсковай павіннасьці і г. д.?

У адносінах жа скажэньня правільных установак, парушэньня ідэй тымі ненормальнасьцямі, якія назіраюцца у фактычным жыцьці, цалкам далучаюся да думкі аўтара.

---

# У ДАПАМОГУ НАСТАЎНІКУ

Вінаградаў

## Аб лемантары „Наша Комуна“

*(Заўвагі для ліквідатараў няпісьменнасьці)*

У сувязі з тым, што да гэтага часу ня вышаў з друку дапаможнік да лемантара «Наша Комуна», лічым неабходным даць некаторыя мэтодычныя заўвагі ліквідатарам няпісьменнасьці, якія карыстаюцца лемантаром «Наша Комуна».

Лемантар «Наша Комуна» складзены на аснове апошніх дасягненьняў мэтодыкі навучаньня дарослых. Матар'ял лемантара, вытворча-бытавы і політыка-профэсіянальны, даецца ў лемантарнай частцы ў сьціслай і элемэнтарнай форме, у кароткіх сказах; пашыраецца і ўскладняецца ён у другой частцы, пасьля лемантарнай.

Лемантарная частка пабудавана па аналітыка-сынтэтычнаму мэтоду цэлых сказаў, слоў і складаў на аснове вылучэньня і прапрацоўкі гука-літар.

Гэтак званы «амэрыканскі» мэтод цэлых слоў у нашай школе ня ўжываецца ў чыстай форме, дзякуючы асаблівасьцям нашай мовы і графікі. Ня толькі няпісьменнаму, але і кожнаму добра адукаванаму немагчыма запомніць вялікі лік слоў, як зрокавых вобразаў, малюнкаў. Засваеньне некалькіх слоў, як цэлых вобразаў, не дае магчымасьці чытаць усялякі тэкст. Мала таго, засваеньне нават і аднаго слова, як малюнку, не дае магчымасьці няпісьменнаму прачытаць тое ж самае слова з маленькай зьменай.

Напрыклад, засвоіўшы слова «наша», яшчэ нельга прачытаць слова «нашы». Адгэтуль вынікае неабходнасьць аналізу слова на склады, засваеньне складоў, як частак слова.

Злучэньне знаёмых складоў ужо дае магчымасьць больш вольнага чытаньня, дае магчымасьць самастойна будаваць новыя словы і сказы.

Напрыклад, засвоілі сказ I «наша машына», выявілі, што тут два словы, шляхам падзелу на склады выявілі і засвоілі склады: на—ша, ма—шы—на. Фактычна 4 склады, бо склад «на» ужываецца два разы. Сынтэз складоў у розных комбінацыях дае магчымасьць ствараць і чытаць новыя словы і сказы: шына, Маша, нашы і г. д.

Засваеньне складоў з першых дзён заняткаў і ў працягу ўсяго пэрыоду навучаньня застаецца неабходнай умовай працэсу навучаньня. Але важна, з мэтай хутчэйшага і лягчэйшага працэсу навучаньня, каб пачынаць навучаньне з кароткіх слоў, азначаючых конкрэтны вобраз, простых па складу і розных па знадворнаму выгляду (графіка), каб мець справу з мінімальным лікам складоў. Павялічэньне ліку складоў, ужываньне мяккіх складоў і трох літарных у пачатку навучаньня ставіць

перад вучнем новыя цяжкасьці, часам непераможныя. Пры складовай распрацоўцы слоў ёсьць небясьпека скаціцца да ўжываньня складовага мэтоду ў чыстым выглядзе. У гэтым выпадку вучні прымушаны запамінаць вялікі запас складоў ці адмовіцца ад далейшай вучобы ў сувязі з паўстаўшымі цяжкасьцямі.

Вось чаму аналітыка-сынтэтычны мэтод патрабуе прыблізна праз 5-6 дзён заняткаў увядзеньня новага рэзэрвовага і дапаможнага элемэнту гука-літары. Што гэта за «гука-літара»? Гэта той жа гук, але таму, што яго вылучэньне цесна зьвязана са зрокава-слухавым успрыйманьнем, ён называецца «гука-літарай».

Прынцып вылучэньня гука-літар наступны: галосны гук вылучаецца з канца складу, а зычны—з канца зачыненага складу ці з канца слова, напрыклад: комуна, комунам. Ужываньне цалкам гукавога мэтоду з самага пачатку навучаньня ставіць вучня перад непераможнымі цяжкасьцямі. Галоўная цяжкасьць у навучаньні па гукавому мэтоду—гэта раскладаньне гукаў на склады.

Возьмем, напрыклад, досыць лёгкае слова «наша». Тут два склады: на—ша. Няпісьменнаму вельмі цяжка ўявіць, што ў складзе «на» два гукі: «н» і «а», а яшчэ цяжэй зьліць гэтыя два гукі ў склад «на». Няпісьменны часта зьбіваецца на няправільнае вымаўленьне гукаў. Замест гуку «н—н—н», ён вымаўляе «эн» ці «нэ», і тады пры зьліваньні ў склады ў яго выходзяць незразумелыя склады «нэа» ці «эна». Вучоба робіцца маруднай, прыгнечвае настрой дарослага вучня, адбівае ахвоту. Ёсьць многа прыкладаў, калі вучань ведае ўсе літары паасобку, але ня можа прачытаць ніводнага слова і застаецца няпісьменным. Практыка ўжываньня і скарыстаньня розных мэтодаў прывяла да сыстэматычнага комбінаваньня ўсіх мэтодаў пад назвай «аналітыка-сынтэтычны мэтод» цэлых сказаў, слоў, складоў на аснове гукавой прапрацоўкі. У процэсе навучаньня чытаньня па гэтаму мэтоду ёсьць тры моманты: слова, склад, гук. Прапрацоўка гэтых момантаў яскрава паказана ў наступнай схэме:

1 момант—сказ, слова—аналіз; слова, сказ—сынтэз.

2 момант— сказ, слова, склад—аналіз склад, слова, сказ—сынтэз.

3 момант—сказ, слова, склад, гук—аналіз; склад, слова, сказ—сынтэз.

Каб папярэдзіць небясьпеку ўхілу у бок гукавога мэтоду, зьвернем увагу на 3-ці момант. Пры сынтэзе гука-літары, вылучаныя ў папярэднім аналізе, прапрацоўваюцца шляхам складовага чытаньня. (Паўторнае чытаньне знаёмых складоў, адшуканьне знаёмай гука-літары ў словах).

У параўнаньні з аналітыка-сынтэтычным *гукавым* мэтодам, гэты мэтод больш поўны. Найноўшы аналітыка-сынтэтычны мэтод мае перавагу ў сыстэме і паступовасьці: работа пачынаецца ад знаёмага сказу, слова, праз склад да гука-літары. *З самага пачатку навучаньня і ў працягу лемантарнага пэрыоду вучань набывае і замацоўвае звычкі складовага чытаньня.* А гэта і ёсьць самае галоўнае ў процэсе навучаньня па новаму мэтоду. Вылучэньне гука-літар ідзе адначасова са складовым чытаньнем і дапамагае яму, зьмяншаючы колькасьць складоў з 5-6 у першыя дні да 3-2 у апошнія дні лемантарнага пэрыоду.

Паступовасьць вылучэньня гука-літар падпарадкавана зрокавым, маларухавым, слухавым і рухавым (рухі рукі)

успрыйманьням. На аснове фонэтычных і графічных адзнак чарга паступовасьці вылучэньня гука-літар павінна быць наступнай:

**Галосныя**:

1 чарга—а, у, о.
2 „ —ы, й, э.
3 „ —і, ь (зьмякчэньне зычных у канцы слоў).
4 „ —ё, я, ю, е (ьэ, ьа, ьу, ьо)
5 „ —е, я, ю, е (йэ, йа, йо, йу).
6 „ —ь, ‘ (знакі паасобнасьці).

**Зычныя:**

1 чарга—м, н, п, т.
—х, д, л, р, с, ш.
—к, б, ф.
2 „ —в, г, ж, з.
—дж. дз.
Д „ —ц, ч, злучэньне шч.

У залежнасьці ад паступовасьці вылучэньня гука-літар вынікае неабходнасьць пасьлядоўнасьці ў складовай прапрацоўцы слоў. У першыя дні заняткаў бяруцца тыя словы, якія магчыма падзяліць на простыя адчыненыя склады: на-ша ко-му-на. Наогул пасьлядоўнасьць складоў, прыкладна, наступная:

1. Просты адчынены склад. Зьмяняецца галосная гука-літара, а зычная застаецца. Зьмяняецца зычная, а галосная застаецца: ма, му, на, ма, ша.

2. Просты зачынены склад: нам, нас.

3. Складаны адчынены склад: пра.

4. Складаны зачынены склад, складаныя словы.

Навучаньне пісьму пачынаецца з таго моманту, калі ўжо вылучана і засвоена дастатковая колькасьць гука-літар, якая дае магчымасьць вучню пісаць словы, што маюць сэнс: мы, наша, і г. д. Аналітыка-сынтэтычны мэтод ня раіць пісаць паасобку вылучаныя гука-літары. У процэсе пісьма слова таксама павінна застацца цэлым вобразам. Процэс пісьма мае наступныя этапы:

1. Зарысоўка друкаванага тэксту.

2. Сьвядомае сьпісваньне рукапіснага тэксту.

3. Сьвядомае сьпісваньне з друкаванага тэксту.

4. Пісьмо па памяці.

5. Самастойнае пісьмо.

Такім чынам, увесь процэс навучаньня грамаце ідзе наступным шляхам:

У сувязі з гутаркай на вызначаную тэму зварочваецца ўвага вучняў на той факт, што наша мова складаецца з сказаў, а сказы—з слоў. Для прыкладу вучні самі вымаўляюць некалькі сказаў і асобных слоў, адзначаюць іх на першых старонках лемантара, потым увага вучняў фіксуецца на найбольш характэрным сказе з тэмы гутаркі, напрыклад: «наша комуна». Сказ голасна і выразна вымаўляецца настаўнікам і адначасна паказваецца ў друкаваным выглядзе (пры дапамозе разрэзнай азбукі ці ў друкаваным выглядзе на кавалку паперы, аншлаг). Вучні ўглядаюцца ў гэты сказ, паўтараюць і зарысоўваюць. Далей, аналіз сказу (падзел на два словы) і сынтэз (злучэньне слоў у сказ, перастаноўка слоў). Другі момант—гэта складовы аналіз і сынтэз слова. Настаўнік голасна і выразна вымаўляе кожны склад і паказвае (пры дапамозе разрэзнай азбукі). Вучні паўтараюць, зарысоўваюць, знаходзяць знаёмыя склады ў кнізе, потым пішуць па складох той жа сказ, ствараюць новыя словы і сказы. Трэці момант зьяўляецца па сутнасьці паўтарэньнем другога моманту, але з тым дадаткам, што вылучаецца гука-літара, адна ці дзьве ў працягу заняткаў на дадзены дзень

Вылучэньне гука-літары праводзіцца наступным парадкам. Напрыклад, па-

трэбна вылучыць літару «а» са складу «на». Настаўнік голасна вымаўляе склад «на» з націскам і працягам на «а»— на-а-а. Гэты момант ілюструецца пры дапамозе разрэзнай азбукі: разам з вымаўленьнем настаўнік адсоўвае ў бок літару «а». Вучні практыкуюцца з вылучэньнем літары «а» на знаёмых складох: ма, ша, да і інш. Знаходзяць гука-літару на старонках.

Цяпер зьвернемся да лемантара «Наша комуна».

Ці адпавядае яго пабудова прынцыпам мэтодыкі? Так, адпавядае. Толькі ў некаторых выпадках зьмест прымусіў парушыць паступовасьць вылучэньня гука-літар.

Зрабіўшы праверку лемантара «Наша комуна» з самага балючага боку сучасных лемантароў—з боку колькасьці складоў, мы заўважым у лемантары вялікае дасягненьне: лік складоў малы—сярэдняя норма 4-5 складоў. У той час, калі аб'ём мтар'ялу павялічваецца, гэтая норма не парушаецца: кожны наступны артыкул пабудаваны з тых складоў, якія замацоўваліся ў папярэдні раз. Гэта асаблівасьць дае магчымасьць самастойна чытаць вялікі артыкул з малым запасам складоў, дае магчымасьць вучню, прапусьціўшаму 1-2 дні заняткаў, лёгка дагнаць групу.

На 3 старонцы—4 склады: на, ша, ко, му.

На 4 старонцы—2 склады: мы, ры.

На 5 старонцы—5 складоў: шы, ма, ны, да, ні.

На 6 стар.—6 складоў: ра, ды, нам, за, бо, ту.

Пасьля вылучэньня гука-літары «м», склад «нам» робіцца зусім вядомым, бо ён створаны са складу «на», які замацаваны раней.

На 7 старонцы 5 складоў: та, па, нас, мо, га, а пасьля вылучэньня гука-літар «с» і «о» застаецца толькі 3: та, па, га.

На 8 старонцы 5 складоў: во, лі, кал, лей, шын, а пасьля вылучэньня «л», «н», «с», і «о» застаецца толькі 3: та, па, га.

Што да іншых заўваг адносна аб'ёму і зьместу, згодна паступіўшых рэцэнзій, то яны будуць улічаны пры перавыданьні лемантара.

# АСЬВЕТА ЗА МЕЖАМІ

## І. Замежны друк аб СССР

### Замежныя спэцыялістыя аб рэформе вышэйшай школы і будаўніцтве ў СССР

«Нэйе Цухэр Цэйтунг» паведамляе, што 22 кастрычніка на сходзе саюзу інжынэраў і архітэктараў г. Цурыху быў заслуханы даклад проф. Пастэрнака—дырэктара Інстытуту вытворачсьці будаўнічых матар'ялаў у Маскве (проф. Пастэрнак—швэйцарац, б. прыват-доцэнт вышэйшай тэхнічнай школы ў Цурыху) «Аб рэформе вышэйшай школы і будаўніцтве СССР».

Проф. Пастэрнак адхіліў чуткі аб тым, што за замежнымі спэцыялістымі ў СССР сочаць, заўважыўшы, што яны знаходзяцца пад асаблівай абаронай РСІ і карыстаюцца вялікай ўвагай з боку Савецкае ўлады. Па словах Пастэрнака, замежным спэцыялістым прадстаўлены належныя ўмовы жыцьця.

Даўшы асноўныя моманты пяцігадовага пляну социялістычнага будаўніцтва, проф. Пастэрнак ілюстраваў дыяпозытывамі буйнейшыя об'екты будаўніцтва: Турксіб, Днепрабуд, Дом ураду ў Маскве і інш.

Пераходзячы да рэформы вышэйшае школы ў СССР, проф. Пастэрнак заўважыў, што для СССР зараз патрэбна вагромная колькасьць інжынэраў, а таму ён адмаўляецца падрыхтоўваць інжынэраў-унівэрсалаў, а выпускае вузкіх спэцыялістых. Тэорытычныя лекцыі заменены групавым навучаньнем, з некалькіх мэтодаў навучаньня ў СССР выбіраюць адзін—найлепшы; замест гісторыі тэхнікі вывучаюць толькі сучаснае становішча яе. Асабліва падрабязна проф. Пастэрнак спыняўся на інстытуце, які знаходзіцца пад яго кіраўніцтвам, падкрэсьліўшы, што кожны інжынэр і профэсар інстытуту зьяўляецца актыўным удзельнікам практычнае працы. Асабліва добры водзыў даў проф. Пастэрнак аб жанчынах-інжынэрах і тэхніках, якія працуюць з вялізарным уздымам і энтузыязмам.

### Нямецкая газэта аб культурным росьце Сібіры

«Франкфуртэр Цэйтунг» зьмясьціла артыкул свайго корэспондэнта ў СССР аб культурным росьце Сібіры. Спыняючыся на будаўніцтве Кузбасу, газэта піша: «Тут вырастае новая Амэрыка, новы сьвет. Гарады Кузьнецк, Ленінск, Тэльбес і другія, што прадстаўляюць зараз адзін блёкгауз альбо вакзал, заўтра вырастаюць у буйнейшыя гарады, якія будуюцца па пляну, дзе прадугледжаны культурныя ўстановы, як тэатры, кіно, грамадзкія сталовыя і г. д., для здавальненьня ўсіх соцыяльна-экономічных і гігіенічных запатрабаваньняў рабочых. Гэтыя гарады будуць зьвязаны з шахтамі і заводамі аўтозносінамі». Далей газэта констатуе, што ў Томскіх ВНУ ВТНУ ў гэтым годзе навучаюцца 18-19 тысяч студэнтаў, як і прадугледжана было па пляну. «Гэта лічба, піша газэта, вагромная, але СССР опэруе наогул вялізарнымі лічбамі». Па словах га-

зэты, Томскі тэхнолёгічны інстытут— багатая ўстанова, якая мае бібліотэку з 150 тысяч тамоў па тэхніцы на ўсіх мовах. Газэта прызнае, што цяжка сустрэць другую такую вучэбную ўстанову, якая атрымлівае амаль усе пэрыодычныя выданьні па тэхніцы, якія выдаюцца за межамі.

### СССР і міжнародная выстаўка народнага мастацтва

«Ля Трыбун» паведамляе, што ў 1934 г. у Бэрне адбудзецца першая міжнародная выстаўка народнага мастацтва. Саюзны Савет (верхняя палата Швэйцарыі), якому даручана разаслаць запрашэньні ўрадам розных краін аб прыняцьці ўдзелу ў выстаўцы, склаў сьпіс дзяржаў, якія будуць запрошаны. СССР у гэтым сьпісе няма. У офіцыйным дакуманце прыводзіцца наступная прычына незапрашэньня СССР: «Сапраўды нельга сабе ўявіць што-небудзь больш недарэчнае, чымся прысутнасьць выставачнага павільёну СССР у горадзе, адкуль «узьброенай» рукою была «ўдалена» місія Бэрзіна ў 1928 г.». Далей даецца довад, што Швэйцарыя не знаходзіцца ў офіцыйнай сувязі з СССР, і таму зусім ня варта даваць магчымасьць для СССР скарыстоўваць замежную трыбуну для «шкоднай» прапаганды.

У сувязі з незапрашэньнем СССР «Друа дзю пэпль» піша: «Можна як хочаце адносіцца да політыкі СССР, але нельга адмаўляць яго экономічных і культурных посьпехаў. Усе тыя, хто пабыў у СССР адзінадушна захапляюцца дасягненьнямі ў галіне мастацтва і народнае асьветы. Няма ніякага параўнаньня з эпохай царскага рэжыму, які нічога не рабіў для народу». Газэта задае пытаньне: «Ці не баяцца, так званыя, цывілізованыя краіны таго, што СССР можа іх зацямніць на выстаўцы?» Газэта констатуе, што ў працівалеглясьць СССР мастацтва ў капіталістычных краінах—здабытак багатых, а артыстыя і мастакі жывуць у дрэнных умовах.

## II. Міжнародныя зьезды

### Міжнародны зьезд музэйных працаўнікоў

«Лейпцыгер Нейестэ Нахрыхтэн» паведамляе, што ў сярэдзіне кастрычніка ў Рыме адбыўся міжнародны зьезд музэйных працаўнікоў. Зьезд быў скліканы Міжнародным інстытутам культурнага супрацоўніцтва пры Лізе нацый. На зьезьдзе прысутнічалі 200 дэлегатаў, якія прадстаўлялі 18 дзяржаў. Асноўнымі пытаньнямі дню былі азначэньне і консэрваваньне твораў мастацтва. Зьезд вылучыў дзьве сэкцыі жывапісі і скульптуры. З заслуханых зьездам дакладаў варты ўвагі наступныя: профэсара Бібнера «Сучаснае становішча пытаньня аб мікрохэмічным азначэньні твораў жывапісі», профэсара Вальтэра «Оптычныя сродкі для азначэньня твораў жывапісі», Гелерыерса «Аб клясыфікацыі і навуковых мэтодах індэнтыфікацыі твораў мастацтва» і іншыя

### Міжнародны конкурс прамоўцаў—школьнікаў

Улічваючы вялізарную сілу ўплыву вуснага слова на масы, буржуазія трэніруе з падрастаючай моладзі сваіх будучых прамоўцаў. З гэтай мэтай, на праця-

гу некалькіх гадоў, наладжваліся конкурсы на лепшых прамоўцаў з вучнёўскай масы.

Згодна паведамленьня «Дэйтшэ Альгемейнэ Цэйтунг», у Вашынгтоне на днях адбыўся 5-ы міжнародны конкурс на лепшага прамоўцу. У конкурсе прынялі удзел па аднаму прадстаўніку з Нямеччыны, П. А. З. Ш., Францыі, Англіі, Мэксікі і інш. краін.

Удзельнікі конкурсу павінны былі сказаць падрыхтаваную прамову па раней атрыманай тэме, на працягу шасьці хвілін. Апрача таго, кожны з іх у часе конкурсу атрымліваў для выступленьня тэму, для абдумваньня якой давалася ¾ гадзіны, а для выкладаньня яе—4 хвіліны.

Першае месца заняў школьнік з Вашынгтону, які па форме і па зьместу ў дадзеныя 4 хвіліны часу сказаў найлепшую прамову.

# III. Школа

## Школа і барацьба з беспрацоўем у Нямеччыне

Згодна паведамленьня «Фосішэ Цэйтунг», прускі ўрад, з мэтай барацьбы з беспрацоўем, ухваліў падоўжыць тэрмін навучаньня ў нормальных школах на адзін год, устанавіўшы часова дзевяцігадовае навучаньне, замест васьмігадовага. Дзевяты год мяркуецца скарыстоўваць для профэсыйнае падрыхтоўкі вучняў. Гэтае мерапрыемства, па думцы прускага ўраду, скароціць беспрацоўе на 250 тысяч рабочых з моладзі, якая заканчвае нормальныя школы. Фінансаваньне гэтага мерапрыемства прадбачыцца са сродкаў, якія вызваляюцца дзякуючы таму, што тым беспрацоўным, якія будуць накіраваны на працу, перастануць даваць дзяржаўную дапамогу.

## Чэхізацыя школ нямецкіх раёнаў Богэміі

«Бэрлінэр Тагеблят» паведамляе, што міністэрства народнае асьветы Чэха-Славакіі пабудавала ў нямецкіх раёнах Богэміі 1375 чэскіх і толькі 23 нямецкіх школы. Газэта прыводзіць заяву міністра народнае асьветы Дэрэра аб тым, што чэскія школы будуць організаваны нават пры наяўнасьці ня менш 10 вучняў-чэхаў.

## Унівэрсытэты на ўзмацненьне сусьветнага панаваньня П. А. З. Ш.

«Нью-Ёрк Таймс» занепакоен тым, што за апошні час падае аўтарытэт П. А. З. Ш.; газэта зьмясьціла артыкул аб спосабах узьняцьця гэтага аўторытэту ў Эўропе.

Газэта прапануе з пастулаючых процантаў ад ваеных даўгоў адлічыць 1½ мільёны даляраў на стварэньне 1000 стыпэндый па 1500 даляраў кожная, каб прывабіць ва унівэрсытэты П. А. З. Ш. з эўропейскіх краін студэнтаў— будучых політычных, экономічных і навуковых дзеячоў. Стыпэндыі, па думцы газэты, павінны быць разьмеркаваны, пропорцыянальна насельніцтву, паміж усімі 27 эўропэйскімі краінамі. Для ажыцьцяўленьня гэтага пляну газэта раіць перавесьці фонд стыпэндый у банк міжнародных разьлікаў у Базэлі. Ведаць фондам, па думцы газэты, павінен дэпартамант народнае асьветы пры міністэрстве ўнутраных спраў П. А. З. Ш.

### Студэнцтва Нямеччыны

«Гамбургер Фрэмдэнблят» надрукавала афіцыйныя статыстычныя весткі аб студэнтах вышэйшых навуковых установу Нямеччыны. Згодна гэтым весткам, ва ўсіх вышэйшых навучальных установах Нямеччыны за першую палову 1930 г. лічылася 132090 студэнтаў, альбо на 70,4 проц. больш, чым у даваенныя часы, і на 7,9 проц. больш, чымся ў папярэдняе паўгодзьдзе. З гэтай колькасьці студэнтаў - чужаземцаў — 7000, альбо 87,6 працантаў, даваеннага часу.

Калі на кожныя сто тысяч насельніцтва ў даваенны час лічылася 106,4 студэнтаў, дык у 1930 г. гэта колькасьць павялічалася да 192,7, г. зн. амаль падвоілася.

З кожных 100 студэнтаў вывучаюць: тэолёгію—6,9, мэдыцыну—19,6, прававыя і экономічныя навукі—23,4, этнографію, пэдагогіку і комэрцыйныя навукі—5,8, філёзофскія дысцыпліны—15,9, прыродазнаўчыя навукі і лясную справу—1,6 і тэхнічныя дысцыпліны—13,0.

Сучасны склад студэнтаў па соцыяльнаму становішчу наступны: буржуазія і памешчыкі 32,6 проц., дробная і сярэдняя буржуазія—60,8 проц., рабочыя і ніжэйшыя служачыя—5,3 проц.

### Матар'яльна-правовое становішча настаўнікаў Францыі

Згодна паведамленьня «Эўр», сындыкат настаўнікаў пастанавіў склікаць у бліжэйшы час надзвычайны зьезд для разьвязваньня шэрагу пытаньняў матар'яльна-прававога становішча настаўніцтва. Вялікае нездавальненьне настаўнікаў выклікае нізкая зарплата і пагоршаньне матар'яльна-прававога становішча іх у параўнаньні з другімі дзяржаўнымі служачымі. Максымум зарплаты настаўніка ўстаноўлены ў 22,500 франкаў у год (франк каля 8 кап.) і выдаецца па адбыцьці 32 гадовае службы, між тым па іншых установах максымум выплачваецца служачым, якія маюць 18-гадовы стаж. У той час, калі па саюзу настаўнікаў, які налічвае 126000 членаў, максымум атрымлівае 750 чал., альбо ½ %, па іншых саюзах дзяржаўных служачых максымум зарплаты атрымлівае 10 проц. Зарплата настаўнікаў, якія толькі пачынаюць працу, надзвычайна нездавальняючая. Малады настаўнік толькі пасьля трохгадовае працы атрымлівае 882 франкі ў месяц (каля 70 руб.).

# ХРОНІКА

## Пастанова колегіі наркомасьветы па дакладу інспэктара нарасьветы Ляднянскага раёну аб становішчы ўсеагульнага навучаньня.

Констатаваць, што дырэктывы НКА па ўсеагульнаму абавязковаму навучаньню не знайшлі належнага месца ў працы Ляднянскага раёну, і што справа ўсеагульнага навучаньня стаіць пад непасрэднай пагрозай зрыву. Такое становішча атрымалася ў выніку недаацэнкі і опортуністычных адносін з боку мясцовых організацый да гэтага важнейшага пытаньня культурнага будаўніцтва.

Выходзячы з гэтага, НКА пастанаўляе:

1. Райінспэктору Бялугіну за невыкананьне дырэктыў НКА па справе ўсеагульнага навучаньня вынесьці вымову.

2. Давесьці да ведама СНК аб бязьдзейнасьці РВК па пытаньні ўсеагульнага абавязковага навучаньня і прасіць прыняць адпаведныя захады.

3. Кат горычна прапанаваць райінспэкторыяту разгарнуць працу па 100 проц. ахопу дзяцей, падлягаючых усеагульнаму абавязковаму навучаньню, організаваўшы пры гэтым школы і курсы для пераросткаў.

4. Прапанаваць райінспэкторыяту тэрмінова паставіць пытаньне перад РВК аб організацыі комітэту па ўсеагульнаму навучаньню пры РВК і наладзіць плянавую працу комітэту пры с-саветах; пры Бельскай, Жаляскоўскай і Уськаўскай школах організаваць комсоды; працу апошніх пры ўсіх школах паставіць на рэйкі лепшага абслугоўваньня дзяцей беднаты, усебаковай дапамогі школе, пры прыцягненьні шырокай грамадзкасьці да гэтае справы.

5. Прапанаваць інспэктору нарасьветы скарыстоўваць сродкі на дапамогу дзецям беднаты своячасова; пры гэтым трэба мобілізаваць грамадзкасьць навакол адшуканьня сродкаў (коопэрацыя, т-ва „Прыхільн. дзяцей“ і інш.); дапамога дзецям павінна выяўляцца ня толькі ў здабываньні вопраткі і абутку, але і ў організацыі гарачых сьнеданьняў, інтэрнатаў пры школах, налажваньні падвозкі дзяцей і г. д.

6. Прызнаючы поўны зрыў работы па забесьпячэньню сьнеданьнямі пры школах, райінспэкторыяту тэрмінова організаваць работу ў гэтым напрамку, паставіўшы пытаньне перад коопэрацыяй аб водпуску неабходных продуктаў.

7. Тэрмінова правесьці падлік беднаты па школах і наладзіць плянавае задавальненьне іх вопраткай і абуткам.

8. Распрацаваць тэрыторыяльны плян і ўнесьці корэктывы ў сэктары, згодна зьмен, якія адбыліся за апошнія гады. У плянах абавязкова прадугледзець нацыянальны склад дзяцей.

9. З прычыны таго, што школы недастаткова забясьпечаны абсталяваньнем (усяго на 65 проц.), паставіць пытаньне перад РВК аб хутчэйшым забесьпячэньні школ абсталяваньнем.

10. За нязроблены рамонт будынкаў (дзяржаўных) і за зрыў будаўніцтва школ (з 5 вызначаных плянам ніводзін ня будуецца) справу аб вінаватых перадаць прокурору. Разам з гэтым прасіць Ляднянскую РСІ прыцягнуць да адказнасьці вінаватых у зрыве задавальненьня апалам і асьвятленьнем школ.

11. Прапанаваць райінспэктору аддаваць больш ўвагі сваёй непасрэднай рабоце, як організацыйнай, так і пэдагогічна-выхаваўчай, констатуючы пры гэтым, што пэдагогічна-выхаваўчая работа ў раёне ў поўным заняпадзе (раймэдбюро не працуе, у школах адсутнічаюць пляны працы, мала зварочваецца ўвага на інтэрнацыянальнае і антырэлігійнае выхаваньне дзяцей, на фізвыхаваньне і ваянізацыю, на самакіраўніцтва ў школах, піонэррух, соцспаборніцтва. ударніцтва і г. д.).

12. З мэтай хутчэйшага зьнішчэньня недахопаў у рабоце, наладзіць у раёне паміж школамі соцспаборніцтва і ўдарніцтва, больш разгарнуць крытыку і самакрытыку сярод вучняў і настаўнікаў і асабліва заняцца пытаньнем уцягненьня шырокай працоўнай грамадзкасьці ў працу школ.

# Аб выніках абсьледваньня становішча політэхнізацыі школ

1. Констатаваць, што асабліва ў вясковых раёнах і першапачатковых школах справа з рэарганізацыяй працы школы на політэхнічных началах пастаўлена надзвычай дрэнна. У зьвязку з тым, што а) кіруючыя раённыя організацыі гэтай важнейшай справе не аддаюць амаль ніякай ўвагі, б) некаторыя інспэкторы народнае асьветы і частка настаўніцтва не разумеюць ўсяе важнасьці справы політэхнізацыі школы, а часамі і не жадаюць пераключацца на новыя мэтоды работы, в) ня гледзячы на дадзеныя дырэктывы з боку і НКА і зьезду па політэхнізацыі, да гэтага часу вельмі слаба разгорнута грамадзкая думка навакол політэхнізацыі школы.

2. У зьвязку з абвастрыўшайся клясавай барацьбой вядзецца жорсткае змаганьне клясава-варожых элемэнтаў супроць мерапрыемстваў партыі ў культурным будаўніцтве наогул і ў прыватнасьці супроць політэхнізацыі школы. Клясава-варожыя элемэнты скарыстоўваюць для свае агітацыі маючае месца ў паасобных мясцох няправільнае правядзеньне політэхнізацыі школы, якое выражаецца ў тым, што пасылаюць вучняў на вытворчую працу бяз ўвязкі гэтай працы з програмамі і навучальнымі плянамі.

3. Адзначыць, што і з боку апарату НКА, у прыватнасьці навукова-мэтодолёгічнага комітэту, яшчэ ня зусім дакладна наладжана кіраўніцтва справай політэхнізацыі школы.

Выходзячы з гэтага, колегія НКА пастанаўляе:

1. Даручыць тав. Ошараву распрацаваць ад імя НКА ліст да кіруючых раённых організацый, у якім прасіць больш, чымся гэта было да гэтага часу, з арочваць увагу на справу політэхнізацыі школы і ўзяць гэтую справу пад сваё непасрэднае кіраўніцтва, мобілізаваўшы думку шырокіх працоўных мас.

2. Даручыць мэтодкому, разам з групай інспэктароў, выпрацаваць шэраг орыентыровачных мэтодычных паказаньняў па асобных конкрэтных пытаньнях політэхнізацыі школы.

3. Ускласьці на тав. Дабравольскага, Захарынка, Сушчынскага і Ерафеева абавязак даваць артыкулы ў газэты і часопісь „Камуністычнае выхаваньне" аб практычнай працы па політэхнізацыі ў абследваных імі раёнах.

4. Прапанаваць т. т. Сініцкаму, Ерафееву і Шашкову ў дэкадны тэрмін распрацаваць проект закону СНК БССР аб політэхнізацыі і ўзьняць ў друку дыскусію вакол гэтага проекту.

5. Паставіць пытаньне перад ВСНГ, Наркомземам і Колгасцэнтрам аб тым, каб імі былі дадзены паказаньні на мясцох адносна ўдзелу мясцовых організацый у дапамозе органам народнае асьветы політэхнізаваць школу.

6. Прапанаваць усім інспэктаром народнае асьветы абавязкова да пачатку заняткаў ў школах пасьля зімовага перапынку прымацаваць усе школы да прадпрыемстваў, саўгасаў і колгасаў.

7. Ня гледзячы на тое, што быў пасланы таварыскі ліст да інспэктароў нарасьветы і паасобных настаўнікаў з просьбай дасылаць матар'ялы па практычнаму правядзеньню політэхнізацыі ў школах у НКА, газэты і часопісі з тым, каб падзяліцца сваім вопытам і сваімі дасягненьнямі ў гэтай справе, да гэтага часу амаль ніхто на гэты ліст не адгукнуўся, і абмен вопытам не атрымаў практычнага ажыцьцяўленьня. Колегія даручае тав. Шашкову ў пяцідзённы тэрмін напісаць на гэтую тэму спэцыяльны артыкул у газэтах.

8. У зьвязку з паступаючымі скаргамі ад працаўнікоў асьветы на тое, што „Савецкая Беларусь", „Зьвязда" і іншыя часопісі ня друкуюць дасылаемых імі артыкулаў па правядзеньню політэхнізацыі, зьвярнуцца да рэдакцый памянёных газэт з просьбай аб тым, каб яны аддавалі больш увагі справе політэхнізацыі школ і друкавалі больш матар'ялу па гэтым пытаньні. Даручыць тав. Ерафееву напісаць аб гэтым ліст рэдактаром газэт.



## ПАПРАЎКА

У № 11 часопісі, у рэцэнзіі т. Царта, на ст. 99 у чацьвёртым (зьнізу) радку першай калёнкі замест слоў „аб іх прычыне" трэба чытаць „аб прычыне іх няўдач".

*Рэдактар*—Рэдколегія *Адказны рэдактар* Л. Бэндэ